# ЗЬМЕСТ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 12 (51) Сьнежань 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Соцыялістычнае спаборніцтва і краязнаўства.

Соцыялістычнае спаборніцтва ёсьць найлепшы колектыўны мэтод перабудовы нашай прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і ўсяго культурнага быту на новай соцыялістычнай базе.

Соцыялістычнае спаборніцтва ёсьць максымальная актывізацыя працоўнага насяленьня Савецкага Саюзу ў кірунку выкананьня вялікіх прац, вызначаных пяцігадовым плянам разьвіцьця нашай краіны. Тая грандыёзная рэконструкцыя ўсяго нашага жыцьця, што намечана савецкай уладай і партыяй, будзе зроблена рукамі шматмільённых мас пролетарыяў гораду і бяднейшых сялян вёскі. Соцыялістычнае спаборніцтва — шлях да рэконструкцыі. Яно — магутны фактар соцыялістычнага перавыхаваньня працоўных мас у напрамку колектывізму, яно—фактар набыцьця ўменьня зьнішчаць нашу тэхнічную і экономічную адсталасьць, праз яго мы пераможам нашу малакультурнасьць і беднасьць, няўменьне ўпарта працаваць, наш нахіл за ўсё хапацца і нічога не зрабіць, наша бязладзьдзе і разгаворы замест рэальнай працы. Соцыялістычнае спаборніцтва павінна з карэньнем вырваць цяжкую спадчыну мінулага—традыцыі, звычаі, забабоны, увесь уклад жыцьця.

У сучасны момант масавы рух соцыялістычнага спаборніцтва шырака разгарнуўся і ахапіў тысячы фабрык, заводаў, прадпрыемстваў, тысячы колгасаў, саўгасаў, коопэрацыйных аб'яднаньняў, савецкіх установаў, профэсыянальных організацый і г. д. Гэты факт наяўна сьведчыць, што воля працоўных мас краіны да рэконструкцыі ўсяго гаспадарчага і культурнага жыцьця Саюзу нязломна і дае вялікія вынікі ў процэсе будаўніцтва новых соцыялістычных форм грамадзкага жыцьця. Соцыялістычнае спаборніцтва — найбольш яскравая комуністычная форма мобілізацыі ўсіх вытворчых грамадзкіх сіл краіны на справу будаваньня соцыялізму ў нашай краіне, на рэконструкцыю ўсяго нашага жыцьця.

У сучасны момант соцыялістычным спаборніцтвам ахоплены і навуковыя рэсурсы Савецкага Саюзу і БССР. Акадэмія Навук, дасьледчыя Інстытуты, Вышэйшыя Навучальныя Ўстановы, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, Навуковыя Т-вы і Аб'яднаньні ў сваёй дзейнасьці, у пяцігадовых плянах свае працы ў першую чаргу ставяць вырашэньне пытаньняў актуальна-гаспадарчага характару і на гэтай падставе між сабой вядуць соцыялістычнае спаборніцтва, заключаюць у гэтым напрамку дагаворы соцыялістычнага спаборніцтва, популярызуюць у друку вялізныя задачы рэконструкцыі гаспадаркі нашага Саюзу і неабходнасьць прысьпешыць тэмп яе шляхам соцыялістычнага спаборніцтва.

Нашы краязнаўчыя організацыі не павінны застацца незачэпленымі соцыялістычным спаборніцтвам. Для разьвіцьця масавай края-

знаўчай працы, для накіраваньня краязнаўчага руху ў бок першачарговага вывучэньня экономічных пытаньняў, для поўнакроўнага дасьледчага і організацыйнага жыцьця нашых краязнаўчых організацый соцыялістычнае спаборніцтва адчыняе новыя шырокія пэрспэктывы. Гэта зусім зразумела. Праца краязнаўчых організацый па свайму характару лёкалізаваная праца, абмежаваная тэрыторыяй раёну, сельсавету, мястэчка ці вёскі. З гэтае прычыны дзейнасьць тэй ці іншай краязнаўчай організацыі, якой-бы моцнай і плённай па сваіх выніках яна ня была, усё-такі часта невядома па-замежамі гэтае тэрыторыі. Уступаючы між сабой у соцыялістычнае спаборніцтва, падпісваючы дагаворы на вядомыя об'екты соцыялістычнага спаборніцтва, нашы краязнаўчыя організацыі абменьваюцца практыкай сваёй краязнаўчай працы, популярызуюць сваю краязнаўчую чыннасьць сярод значна большых колаў насяленьня краіны, сваю дасьледчую працу аддаюць на суд і пад контроль шырокіх працоўных мас. Спаборніцтва дае мажлівасьць рэальна ўвязаць краязнаўчую, дасьледчую працу з процэсам рэконструкцыі гаспадаркі краіны, дае мажлівасьць актывізаваць усю краязнаўчую масавую працу на пытаньнях актуальных для нашага часу і дысцыплінаваць самую дасьледчую працу ў пэўным кірунку. У кожны даны момант, дзякуючы соцыялістычнаму спаборніцтву між краязнаўчымі організацыямі, магчыма для кожнай організацыі праверыць свае дасягненьні і ўскрыць недахопы.

Якія конкрэтныя об'екты соцыялістычнага спаборніцтва між паасобнымі краязнаўчымі організацыямі БССР?

Большая частка нашых краязнаўчых організацый вельмі слабая з організацыйнага боку, не аформлена ў сваім складзе, ня мае матар'яльнай базы для пашырэньня свае дасьледчае працы, не давяла краязнаўчага руху да глыбокіх пластоў працоўнага насяленьня. Соцыялістычнае спаборніцтва павінна будзе ўмацаваць організацыйны бок працы т-ваў і паставіць такія конкрэтныя заданьні: актывізацыя т-ва ў цэлым, пераорганізацыя ўсяе працы Т-ва на больш конкрэтных прынцыпах і мэтодах, усебаковая праверка складу організацыі ў мэтах актывізацыі кожнага сябра організацыі і сталага вучоту вынікаў працы, праверка ўсяе маемасьці організацыі і заснаваньне матар'яльнай базы для організацыі пры дапамозе і ўдзеле ў гэтым савецкіх і грамадзкіх організацый і ўстаноў (РВК, Райкомы, коопэрацыя, мясцкомы), заснаваньне пры нізавых адміністрацыйных адзінках краязнаўчых ячэек, спробы заснаваць, дзе ёсьць спрыяючыя ўмовы, краязнаўчыя гурткі пры прамысловых прадпрыемствах, паставіўшы ім задачу пашырыць масавую экономічную працу і рабочае вынаходніцтва, вырашэньне рэальнай задачы савецкага краязнаўства: зацікавіць краязнаўчай працай найбольш актыўных рабочых і бяднейшых сялян, уцягнуць вядомы лік іх у краязнаўчыя організацыі, падрыхтоўка кадраў маладых дасьледчыкаў—заснаваньне пры кожнай школе 7-цы, пры кожнай школе ўзвышанага тыпу (тэхнікум, рабфак, вячэрнія школы, курсы і г. д.) дзейнага краязнаўчага гуртка.

Соцыялістычнае спаборніцтва павінна сконцэнтраваць увагу нашых краязнаўчых організацый на такіх об'ектах дасьледчай працы, як найбольш актуальных для нашага часу:

1. Вывучэньне пяцігадовага пэрспэкцыйнага пляну разьвіцьця данага раёну, практычная дапамога выкананьню гэтага пляну, вывучэньне, адшуканьне спосабаў з найменшай затратай сіл і сродкаўператварыць гэты плян у жыцьцё: для больш дробных краязнаўчых

аб‘яднаньняў (сельсавецкія краязнаўчыя гурткі, школьна-краязнаўчыя гурткі, краязнаўчыя гурткі пры хатах чытальнях ці нардамох) вывучэньне пяцігодкі можа выліцца ў вывучэньне пяцігадовага пляну гаспадарча-культурнага будаўніцтва мястэчка, сельсавету ці вёскі і вызначэньне конкрэтных прац, якія трэба правесьці для выкананьня пляну пяцігодкі.

2. Вывучэньне колектывізацыі раёну. Спаборніцтва між краязнаўчымі організацыямі павінна дапамагчы: а) вывучыць свой раён, сельсавет, вёску з пункту гледжаньня організацыі колгасаў; б) наладзіць краязнаўчыя выстаўкі, якія паказалі-б дасягненьні ўжо існуючай сеткі колгасаў, паказалі-б перавагу буйнага колектыўнага земляробства і гаспадараньня перад дробным, індывідуальным, прасунулі-б уперад пытаньне аб організацыі новых колгасаў; в) правесьці такія мерапрыемствы, якія выклікалі-б актыўны рух да колектывізацыі: экскурсіі сялян у колгасы, вечары-дыспуты аб колектыўных формах сельскай гаспадаркі, гутаркі, даклады і г. д.; г) з культурна-бытавога боку абслугоўваць існуючыя колгасы, памятаючы, што задача дзейнасьці савецкіх краязнаўчых організацый ня толькі вузка дасьледчая праца, але і жывая популярызацыя навукі, тэхнікі, новых форм культурнага быту і г. д.

3. Падвышэньне ўраджайнасьці раёну. Соцыялістычнае спаборніцтва ў гэтым напрамку можа практычна прывесьці краязнаўчыя організацыі да ўдзелу ў барацьбе са шкоднікамі садоўніцтва, гародніцтва, палляводзтва, да практычнай пропаганды тэхнічных культур (шаўкоўніцтва), да контролю над правядзеньнем у раёне аграмінімуму, да вывучэньня і праверкі на практыцы ўсіх мясцовых спосабаў, якія ўплываюць на ўраджайнасьць.

*Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.*

---

**В. Самцэвіч.**

# Да вывучэньня колгасаў.

Комуністычная партыя, якая кіруе нашым соцыялістычным будаўніцтвам, паставіла перад працоўнымі масамі ўсяго нашага Саюзу вялічэзную задачу: на працягу бліжэйшых гадоў „дагнаць і перагнаць“ капіталістычныя дзяржавы ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, што магчыма пры максымальным тэмпе разьвіцьця нашае буйнае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, цесна і неразрыўна паміж собой зьвязаных, аднак пры пераважным разьвіцьці нашае прамысловасьці. Вось чаму: „выходзячы з агульнай ідэі індустрыялізацыі краіны, узмацненьня абароназдольнасьці Саюзу і вызваленьня ад залежнасьці ад капіталістычных краін“ мы нашы капіталы ўкладваем пераважна на прамысловасьць, якая вырабляе сродкі вытворчасьці і тым самым забясьпечвае развіцьцё і буйнае сельскае гаспадаркі. Наша „прамысловасьць павінння стварыць матар‘яльную аснову для вялічэзнага павялічэньня вытворчасьці земляробчай і наогул сельска-гаспадарчай працы, падштурхваючы тым дробных земляробаў прыкладам і дзеля іх уласнай выгады пераходзіць да буйнага, колектыўнага, машынавага земляробства“ (Ленін).

І гэты процэс стварэньня буйнае колектыўнае гаспадаркі мы ўжо бачым. Колгасны рух шырыцца і мацнее з кожным месяцам. XVI партконфэрэнцыя адзначае, што „найбольш істотным фактам, які дэмонструе ўсю жыцьцёвасьць колгаснага руху, зьяўляецца тое, што *колгасы растуць на аснове самадзейнасьці і ініцыятывы саміх сялянскіх мас, якая ідзе зьнізу, што перавагі буйнае гаспадаркі ўжо знаходзяць свае адлюстраваньне ў колектывах* (у колгасах ураджай вышэй за сярэдня-сялянскія, таварнасьць значна перавышае таварнасьць індывідуальных сялянскіх гаспадарак, шматпольныя севазвароты і палепшаная апрацоўка глебы знаходзяць усё большае ўжываньне). Як асабліва важную адзнаку колгаснага руху конфэрэнцыя адзначае *імкненьне да колектыўнае гаспадаркі* ня толькі бядняцкіх пластоў вёскі, але і *серадняков,* якія аб'яднаюцца ў колектыўныя гаспадаркі з сваім інвэнтаром і жывёлай[1]).

У вырашэньні пытаньня будаўніцтва буйнае сельскае гаспадаркі скрыжоўваюцца ў барацьбе дзьве сыстэмы — аджываючая сыстэма буйных прыватна-ўласьніцкіх кулацкіх гаспадарак, якія эксплёатуюць дробныя індывідуальныя гаспадаркі і сыстэма буйных колектыўных гаспадарак, якія забясьпечваюць інтарэсы бяднейшага сялянства і вядуць да запраўднае соцыялістычнае гаспадаркі. Вось чаму і партыя і ўся савецкая грамадзкасьць і наша савецкая навука пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі павінны змагацца з усімі правымі ўхілістымі, якія „імкнуцца *затрымаць і зьвярнуць разьвіцьцё саўгасаў і колектыўнага руху,* якое мае рашаючае значэньне з пункту погляду ня толькі будучыні савецкай краіны, калі гэтыя формы земляробства займуць пераважнае месца ў сельскай гаспадарцы, але і з пункту гледжаньня сучаснага становішча, калі разьвіцьцё буйнага земляробства ў дзяржаўных і колектыўных формах супроцьставіцца пролетарскай дзяржавай кулацкаму тыпу стварэньня буйнага земляробства“[2]).

Шлях капіталістычнага разьвіцьця вёскі зьяўляецца шкадлівым для ўсіх працоўных мас і затым „капіталістычнаму шляху стварэньня *аднаасабовае* буйнае гаспадаркі савецкая ўлада процівставіць пролетарскі мэтод стварэньня буйнае *грамадзкае* гаспадаркі праз вытворчае коопэраваньне, колектывізацыю, якія даюць магчымасьць дробнай і драбнейшай гаспадарцы пры дапамозе і пад кіраўніцтвам савецкай улады ўзбуйніцца на грунце колектыўнае працы і ўзьняцца на вышэйшы ўзровень тэхнікі і культуры. Гэты шлях разьвіцьця, зьяўляючыся адзіным шляхам пазбаўленьня мільённых мас сялянства ад жабрацтва і разбурэньня, адзначае ня толькі абмежаваньне росту капіталістычных элемэнтаў у вёсцы, але і іх *выціскаваньне буйнай аграмаджайнай гаспадаркай* (дзяржаўнай і колектыўнай)“. (Там-жа).

Такім чынам, справа колектывызацыі сельскае гаспадаркі набывае першараднае значэньне ў вырашэньні пытаньня рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Справа колектывізацыі — зусім новы шлях соцыялістычнага будаўніцтва, вызначаны Кастрычнікавай рэволюцыяй, які быў зусім невядомы дарэволюцыйнай Расіі і які ня можа мець месца ні ў аднэй капіталістычнай краіне.

„Мы ўпяршыню шчыльна падыходзім да абагульненьня сельскае гаспадаркі, да пераробкі індывідуальнае сялянскае гаспадаркі на соцыялістычны лад, падпіраючы нашу прынцыповую лінію такімі тэх-

---

[1]) З пастаноў XVI конфэр. УсеКП(б).
[2]) З пастаноў XVI конфэр. УсеКП(б).

нічнымі мерапрыемствамі, якія робяць гэту нашу працу ў вёсцы вельмі ўстойлівай, продукцыйнай і надзвычайна зразумелай для сялян". (А. Рыкаў. З прамовы на XVI конфэр. УсеКП(б).

Комуністычная партыя ня толькі кіруе і дае агульную прынцыповую ўстаноўку, яна вылучае для непасрэднага колгаснага будаўніцтва лепшых працаўнікоў комуністых, падводзіць пад гэта будаўніцтва цьвёрдую і ўстойлівую тэхнічную базу. У гэтай вялікай і новай справе патрэбна і неадкладная навуковая дапамога з боку нашых навуковадасьледчых устаноў і організацый: вывучэньне форм колектыўных гаспадарак і іх разьвіцьця, організацыі працы і яе аплаты, мэтодаў і сродкаў павялічэньня эфэктыўнасьці ад капітальных укладаньняў найлепшай організацыі быту і г. д. Нам патрэбна як найхутчэй вывучыць вопыт лепшых колгасаў, каб унікнуць магчымых памылак і недахопаў з боку новых колгасаў. За гэтую справу дасьледваньня разьвіцьця і росту колгасаў павінны ўзяцца неадкладна нашы краязнаўчыя організацыі. Трэба аднак адзначыць, што праца краязнаўцаў дасьледчыкаў дасьць найлепшыя вынікі тады, калі ў дасьледчай працы непасрэдны ўдзел прымуць і найбольш актыўныя сябры колгасу, непасрэдныя, будаўнікі і організатары колгасу. Неабходна пры гэтым выкарыстаць і ўсе пісаныя матар'ялы, якія ёсьць у колгасе: рахунковыя ведамасьці і кнігі, справаздачы, пляны і інш. Але найлепшыя матар'ялы па будаўніцтву, выяўленьню жыцьця і організацыі працы мог-бы даць краязнаўчы гурток, калі яго організаваць з сяброў самога колгасу.

Вывучэньне колгасу тады толькі будзе карысным, калі яно пакажа дынаміку разьвіцьця колгасу ў цэлым і калі жыцьцё колгасу будзе разглядацца ў сувязі і ва ўзаемадзейнасьці тых найскладнейшых соцыяльных процэсаў, якія адбываюцца цяпер у вёсцы: пашырэньне с.-гаспадарчай тэхнікі, культурны і палітычны рост бядняцка-серадняцкіх мас, рост соцыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы, абвостраная клясавая барацьба і інш. Вывучаючы ўсе фактары і ўсю складанасьць пытаньня колгаснага будаўніцтва ў яго тэорыі і практыцы, неабходна імкнуцца высьветліць, якія фактары экономічнага, палітычнага і бытавога парадку спрыяюць гэтаму будаўніцтву і якія з іх перашкаджаюць, затрымліваюць колгасны рух.

Пры вывучэньні колгасаў трэба заўсёды імкнуцца паказаць на конкрэтным матар'яле, якую перавагу яны маюць над індывідуальнымі сялянскімі гаспадаркамі суседніх вёсак і як зьмянілася жыцьцё саміх колгасьнікаў у параўнаньні з іх жыцьцём да аб'яднаньня. Асаблівую ўвагу, па нашай думцы, трэба зьвярнуць на процэс аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці, на організацыю працы ў колгасе і аплату яе і на процэсы адміраньня старога і нарастаньня новага быту, новай ідэолёгіі. Найбольш прогрэсыўнай і адпаведнай формай колгасу трэба лічыць такую форму, калі аграмаджаны ўсе сродкі вытворчасьці сяброў колектыву, калі праца адбываецца ўсімі працаздольнымі сябрамі пры пэўнай спэцыялізацыі ў кожнай галіне гаспадаркі і калі кожны сябра колектыву мае аднолькавую матар'яльную забясьпечанасьць. Высьветліць, як гэта пытаньне вырашаецца ў практыцы колгаснага будаўніцтва — задача кожнага дасьледчыка.

У некаторых колгасах (дробных) мы наглядаем зусім непажаданыя зьявішчы, як, напр.: шырокае ўжываньне наёмнай рабочай сілы для працы зусім не спэцыяльнага характару, выкарыстоўваньня сябрамі колгасаў прыбыткаў колектыўнае гаспадаркі для падтрыманьня сваіх

індывідуальных гаспадарак, якія захоўваюцца на старане і ў якіх нават застаецца частка сем'яў колгасаўцаў і інш. Такія і падобныя ім факты адмоўнага характару, якія профануюць ідэю колгаснага руху сярод вакольнага насельніцтва, трэба абавязкова выяўляць і высьвятляць іх кулацкую і дробна-буржуазную эксплёататарскую сутнасьць.

Належную ўвагу пры дасьледваньні колгасаў трэба зьвярнуць на прычыны распадаў паасобных колгасаў і прычыны выхаду з іх паасобных сяброў і сем'яў. У даным выпадку трэба высьветліць організацыйныя недахопы, ролю кулацкай агітацыі і інш., а таксама паказаць, якія сям'і пераважна выходзяць з колгасаў (серадняцкія, бядняцкія) і куды яны выходзяць (у горад, на індывідуальную сельскую гаспадарку).

Паколькі колгасны рух у целым зьяўляецца яшчэ ня вывучаным, мы яшчэ ня ведаем, якія галіны гаспадаркі ў колгасе і ў якой меры зьяўляецца найбольш прыбыткоўнымі, якія з іх трэба асабліва стымуляваць і падтрымоўваць, пастолькі для дасьледчыка колгасаў зьяўляецца вельмі неабходным вывучыць пытаньне разьвіцьця розных галін сельскае гаспадаркі і іх прыбыткоўнасьці ва ўмовах колектыўнага вядзеньня, магчымасьці значных укладаньняў капіталаў, спэцыялізацыі працы і г. д. У прыватнасьці неабходна зьвярнуць увагу на разьвіцьцё малочнае гаспадаркі, садоўніцтва, гародніцтва, птушніцтва. Побач з гэтым цікава высьветліць, у якім напрамку адбываюцца зьмены ў рамесьніцкай вытворчасьці (зьмена ў тэхніцы і абагульненьне з спэцыялізацыяй процэсаў вытворчасьці ці заняпад паасобных яе відаў).

Надзвычайна важным пытаньнем у краязнаўчым дасьледваньні колгасаў зьяўляецца вывучэньне зьмен у быце, ва ўзаемаадносінах паміж членамі сям'і, зьмен ідэолёгічнага характару і нават у мове ў сувязі са зьменай вытворчых узаемаадносін і грамадзкага ладу. Трэба паказаць, як колектыўнае жыцьцё і праца дапамагае культурнаму росту сяброў колектыву, выхаваньню дзяцей і падлеткаў і які ўплыў аказвае культурны рост на вядзеньне гаспадаркі, палепшаньне яе тэхнікі.

Колгасы растуць у процэсе клясавай барацьбы, якая адбываецца ня толькі з яўна варожымі элемэнтамі па-за колгасамі, але яна ў розных формах выяўляецца і ў саміх колгасах, пакуль яшчэ няма поўнага абагулненьня сродкаў вытворчасьці, пакуль яшчэ захоўваецца прынцып аплаты працы не па патрэбе, а па паявых узносах, колькасьці рабочых рук у сем'ях і інш. і пакуль яшчэ ня зьнішчаны індывідуалістычныя тэндэнцыі сярод колектываў. Задача кожнага дасьледчыка ўскрыць процэсы гэтае барацьбы і паказаць сродкі і шляхі найлепшай організацыі колектыўнага жыцьця.

Агульнай-жа і асноўнай задачай вывучэньня колгасаў зьяўляецца дасьледваньне іх з мэтай дапамогі колгаснаму будаўніцтву, высьвятленьня найбольш удалага вырашэньня колгаснага будаўніцтва і тых недахопаў, якіх трэба ўнікаць у далейшым. Програма, якая тут даецца для вывучэньня колгасаў, зьяўляецца толькі прыкладнай і далёка ня поўнай, гэта толькі схэма, якая ня можа прадбачыць усіх тых асаблівасьцяй, якія ёсьць і будуць выяўляцца ў процэсе організацыі новых форм соцыялістычнае гаспадаркі. Кожны дасьледчык павінен сам знайсьці тыя асаблівасьці, якія характэрны для данага колгасу.

## Кароткая програма дасьледваньня колгасаў [1]).

### I. Організацыя дасьледваньня.

Высьветліць задачы і мэтоды дасьледваньня па магчымасьці для ўсіх сяброў колгасу (для актыву ў першую чаргу). Організаваць у колгасе гурток для стацыянарнага вывучэньня жыцьця і працы колгасу, альбо ўцягнуць у працу па дасьледваньні асобных сяброў колгасу. Наладзіць сыстэматычныя програмныя запісы жыцьця і працы ў колгасе. Праверыць апрацаваны матар'ял на агульным сходзе сяброў колгасу (або на сходзе актыву).

### II. Агульныя весткі аб колгасе.

Назва колгасу і месца яго знаходжаньня: акруга, раён, адлегласьць ад гораду (якога), бліжэйшай чыгуначнай станцыі ці рэчнай прыстані, ад рынку, коопэратыву, ад саўгасу ці колгасу (якога).

### III. Гістарычныя весткі.

Калі і ў якой форме (комуна, арцель, таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі) утварыўся колгас. На якой зямлі організаваўся колгас (памешчыцкай, надзельнай сялянскай, на зямлі запаснага фонду). Хто быў організатарам колгасу (батракі, рабочыя, беднякі) і дзе цяпер організатары колгасу. Калі і чаму мянялася форма колгасу (пераход таварыства ў арцель, арцелі ў комуну і інш.). Адзначыць асноўныя моманты гаспадарчага росту колгасу (пашырэньне плошчы, пабудова будынкаў, набыцьцё машын і г. д.) і паказаць, што дапамагала гэтаму росту. Калі адбыліся апошнія організацыйныя зьмены ў колгасе і ў чым яны выявіліся.

### IV. Землекарыстаньне ў колгасе.

Агульная зямельная плошча; колькі занята пад пашню, сядзібу, гарод, сенажаці і інш.; з якіх крыніц адбывалася павялічэньне зямельнай плошчы. У якім годзе ў колгасе праведзена землеўпарадкаваньне і які прыняты севазварот (паказаць чаргаваньне) або калі да яго мяркуецца перайсьці. Эксплёатацыя зямельных угодзьдзяй (у гэктарах): пад дваром і будынкамі, пад гародам, садам, пашняй, сенажацьцю (сухадольнай, заліўной, балотнай); плошча няўжыткоўных угодзьдзяў (балота, пяскі і інш). Паказаць разьмеркаваньне ўгодзьдзяў у час організацыі колгасу і далей у 1925-26-27-28-29 г.). Паказаць (дзе ёсьць такія выпадкі) каму і якая плошча здаецца (ці здавалася) ў арэнду (або ўзята ў арэнду) і на якіх умовах [2]).

Увага: Калі ня ўся зямельная плошча абагулена, дык паказаць, пад якімі ўгодзьдзямі знаходзіцца ва ўласным карыстаньні паасобных гаспадарак, вёсках і чым гэта тлумачыцца.

---

[1]) Пры складаньні гэтае програмы мной скарыстаны „Блянк для дасьледаваньня колектыўные гаспадаркі“ Аддзелу с-г. экон. і аграр. паліт. НДІ. імя У. І. Леніна. 1929

[2]) Калі ў колгасе былі недасевы, незаняты папар і інш., дык трэба паказаць, якая плошча.

### V. Апрацоўка і ўгнаеньне глебы.

Чым апрацоўваецца глеба: плугамі, трактарам, драўлянымі ці жалезнымі баронамі; з якога часу сталі апрацоўваць трактарам. Якасьць апрацоўкі ў параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі суседніх вёсак і былымі індывід. гаспадаркамі, якія аб'ядналіся ў даны колгас: час і якасьць ворыва, баранаваньня і г. д. Ужываньне ўгнаеньня пад розныя культуры ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках і колгасе (колькасьць угнаеньня на 1 *га,* час і спосаб угнаеньня); віды featureрознага ўгнаеньня: штучнага, жывёльнага, зялёнага (у якім разьмеры і пад якія культуры).

### VI. Барацьба з засьмечанасьцю палёў і са шкоднікамі.

Якімі спосабамі ў колгасе вядзецца барацьба з засьмечанасьцю, апрацоўка глебы, ачыстка і пратраўліваньне насеньня, поліва гародніны і палявых культур і інш. Якія спэцыяльныя меры ўжываюцца ў колгасе для барацьбы з рознымі шкоднікамі палявых і гародных культур, садоў. (Прывесьці конкрэтныя прыклады і паказаць, якую перавагу ў гэтых адносінах мае колгас над індывідуальнымі гаспадаркамі).

### VII. Ураджаі ў колгасе.

Паказаць ўраджайнасьць розных палявых, гародных і інш. культур (па магчымасьці за ўсе гады з часу організацыі колгасу): ураджаі жыта, ярыцы, аўсу, ячменю, грэчкі, гароху, лёну, бульбы, караньплодаў, вікі, канюшыны і інш.; ураджаі сенажацяй (сухадолаў, заліўных, балотных). Параўнаць ураджаі колгасу з ранейшымі ўраджаямі індывідуальных гаспадарак, якія ўвайшлі ў склад данага колгасу і з ураджаямі данага году ў індывідуальных гаспадарках суседніх вёсак. Паказаць валавы сбор ураджаю кожнае культуры (зерня і саломы пасобку) з усёй плошчы (у гэктарах) пад кожнай культурай.

### VIII. Сродкі вытворчасьці і іх дынаміка.

*Будынкі.* Якія ў сучасны момант ёсьць будынкі: жылыя дамы (іх разьмеры, на колькі кватэр кожны разьлічаны, жылая і сьветавая плошча, спосаб ацяпленьня), хлявы для скаціны (колькасьць, плошча, уцяпленьне, асьвятленьне), будынкі для складу корму, для скаціны і збожжа, лазьня і інш.; з якога матар'ялу пабудаваны сьцены, чым пакрыты. Што ёсьць новае ў тэхніцы пабудовы кожнага віду будынкаў. Паказаць кошт кожнага віду будынкаў. Якія з будынкаў пабудаваны да організацыі колгасу і якія пабудаваны колгасам; на якія сродкі. Ступень задавальненьня будынкамі запатрабаваньня колгасу і стан будынкаў у даны момант.

*Мёртвы інвэнтар.* Забясьпечанасьць колгасу с-гаспадарчым інвэнтаром: колькі трактараў, плугоў, барон, асыпнікаў, культыватараў, сеялак, жняярак, малатарань, арфаў, трыераў; саламарэзак, калёс, саняй, лапат, граблей і г. д. Калі і адкуль набыты гэты інвэнтар (унесены пры ўступленьні ў колгас, набыта колгасам); на якую суму набывалася кожны год (па інвэнтарнай кнізе ці па іншых дакумэнтах); процант зношанасьці; колькі дзён працавалі машыны за год у сваёй гаспадарцы і на старане. У чым адчуваецца найбольшая патрэбнасьць. Якія

машыны лічацца неадпаведнымі для данае мясцовасьці і гаспадаркі і чаму. Рэнтабельнасьць машын у даным колгасе.

*Жывы інвэнтар.* Колькі ў колгасе рабочых коняй (валоў) было пры заснаваньні колгасу і як зьмянялася гэтая колькасьць да апошняга часу (па гадох) і ў залежнасьці ад якіх прычын. Сярэдняя каштоўнасьць аднага каня (вала). У які бок прадбачыцца зьмена рабочае скаціны ў далейшыя гады і чаму. Як і якім чынам паляпшаецца парода рабочае скаціны.

## IX. Неабагуленыя элемэнты вытворчасьці.

Якія элемэнты вытворчасьці (ці часткі іх) застаюцца неабагуленымі ў сяброў колгасу: віды ўгодзьдзяў (ворная зямля, сядзібная, сенажаць, і інш.), будынкі (жылыя, гаспадарчыя), с-гаспадарчыя прылады (якія), жывёла (рабочая, продукцыйная) і інш. Чаму тыя ці іншыя элемэнты не абагулены (нежаданьне застацца бяз прыватнай індывідуальнай маемасьці, магчымасьць здачы ў арэнду, патрэбнасьць для свае ўласнае гаспадаркі і інш.). Пры якіх умовах магчыма поўнае абагульненьне ўсіх (ці некаторых) элемэнтаў вытворчасьці.

## X. Жывёлагадоўля ў колгасе.

(Малочная і мясная галіна[1]).

1. Колькі было ў пачатку організацыі колгасу, як зьмяняўся лік (па гадох) і колькі ёсьць цяпер: кароў, быкоў (старэй 3 год), бычкоў і цялушак ад 1 да 3 год (маладняку), да 1 году. Колькі ў даны момант кароў дойных, цельных, ялавак. Якім чынам ідзе павялічэньне жывёлы (аб'яднаньне індывідуальных гаспадарак, купля, свая гадоўля). Парода жывёлы і сродкі яе паляпшэньня. Жывая вага (сярэдняя) каровы і яе кошт. Гадавы ўдой малака аднае каровы. Гадовая продукцыя малака ўсіх кароў. Як скарыстоўваецца малако: у сваёй гаспадарцы ці ідзе на продаж: куды і ў якім відзе. Спосабы і тэхніка апрацоўкі малака; якасьць продукцыі малочных вырабаў (масла, сыру і інш.); па якой цане збываецца.

Дагляд і ўтрыманьне кароў у летні і зімовы час: уцяпленьне хлявоў, утрыманьне ў чыстаце, подсьціл, нормы кармленьня і якасьць кармоў; спосаб і час даеньня. Хто і ў якой меры заняты па даглядзе жывёлы (мужчыны, жанчыны). Рэнтабельнасьць малочнае гаспадаркі ў колгасе ў параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі ў вёсцы.

2. Колькі ў колгасе ёсьць сьвіней і якой пароды (сьвіней дарослых, кныроў, падсьвінкаў ад 4 м. да 1 г. і парасят). Колькі сьвіней было ў першы год існаваньня колгасу і як зьмяняўся лік іх (і якасьць) па годах да цяперашняга часу. Рост сьвіньні, сярэдняя, колькі дае сала, мяса і інш. Дзе і як рэалізуецца сала, мяса. Чым адрозьніваецца сьвінагадоўля ў колгасе ў параўнаньні з вёскай (конкрэтна).

Колькі авечак ёсьць у колгасе, іх якасьць; як зьмяняўся лік іх па гадох. Рэнтабельнасьць гадоўлі сьвіней і авец і пэрспэктывы іх разьвіцьця ў далейшым.

---

[1]) Гэты разьдзел мае на ўвазе колгасы, дзе жывёла аб'яднана і асабліва колгасы з жывёлагадоўчым ухілам. Калі жывёла не аб'яднана, высьветліць прычыны, якія перашкаджаюць аб'яднаньню і яго магчымасьці.

3. Якія хатнія птушкі разводзяцца ў колгасе, іх колькасьць; дзеля чаго разводзяцца (дзеля мяса, яек—для сябе ці на продаж). Высьвятліць прыбыткоўнасьць (ці ўбыткоўнасьць) птушніцтва ў колектыўнай гаспадарцы пры тых ці іншых спосабах вядзеньня гэтае галіны гаспадаркі і вызначыць магчымыя шляхі яе разьвіцьця.

4. Пчалярства: колькасьць вульляў—рамачных і калодных; організацыя пчалярскае справы: ці ўсе вульлі на аднэй пасецы, ці ёсьць спэцыяліст; ці практыкуецца падсяваньне меданосных расьлін (якіх); як апрацоўваецца і куды ідзе мёд; які прыбытак даў за апошні год адзін вулей рамачны і калодны і ўся пчалярская галіна гаспадаркі разам.

## XI. Садоўніцтва і гародніцтва.

Плошча занятая пад садам і гародам (паасобку). Колькасьць фруктовых дрэў (яблынь, груш) і іх гатункі. Калі засаджаны сад. Які сабраны ўраджай у гэтым годзе (і ў ранейшыя, калі ёсьць даныя). Як скарыстаны ўраджай: у сваёй гаспадарцы (якім чынам), падзелены паміж сябрамі колгасу і па якому прынцыпу, на якую суму прадана і куды. Ці ня маецца на ўвазе апрацоўваць фрукты ў колгасе (фруктовыя вырабы) і якім чынам; якія для гэтага ёсьць мажлівасьці.

Якая плошча занята пад living рознымі гароднымі культурамі і якімі; ці ўведзены севазварот (паказаць чаргаваньне); як зьмянілася і мяняецца тэхніка апрацоўкі глебы (час і якасьць вырабу, прылады і інш.); якія віды ўгнаеньня ўжываюцца пад розныя культуры; організацыя працы [1]) і дагляду (матыжаньне, прапахваньне, барацьба са шкоднікамі). Якія гатункі гародніны разводзяцца і лічацца найлепшымі і чаму. Які кірунак бярэ гародніцтва (для задавальненьня запатрабаваньняў сваёй гаспадаркі, прамысловы характар) і чым гэта выклікаецца. Валавы збор гародніны апошняга гаспадарчага году і рэалізацыя яе. Рэнтабельнасьць гародніцтва ў колгасе (у параўнаньні з вёскай) і пэрспэктывы далейшага разьвіцьця.

## XII. Перапрацоўка с.-г. продуктаў у колгасе.

1. Якія ёсьць прамысловыя прадпрыемствы ў колгасе па апрацоўцы мясцовае сыравіны: бульбы, фруктаў, малака, па апрацоўцы торфу, гліны і інш.; абсталяваньне і забясьпечанасьць машынамі; лік занятых рабочых і іх кваліфікацыя; працяг працы (увесь год, пэўны час); гадавы выраб і месца збыту продуктаў; прыбыткоўнасьць прадпрыемстваў; далейшыя пэрспэктывы.

2. Хатнія вырабы: выраб палатна, апрацоўка дрэва, вышываньне, швіва і г. д.; колькі сем'яў і асоб занята рознымі відамі хатніх вырабаў і ў які час і пару году; якасьць і характар вырабаў (для сябе, на рынак); куды збываюцца прадметы вырабу і па якой цане; ці не наглядаецца тэндэнцыя для абагульненьня працы і ў якім напрамку (аб'яднаньне па спэцыяльнасьцях, набыцьцё і абагульненьне сродкаў данае вытворчасьці, палепшаньне тэхнікі і г. д.). Далейшыя пэрспэктывы розных галін хатніх вырабаў.

---

[1]) Працуюць мужчыны, жанчыны, ці ёсьць якая-небудзь спэцыялізацыя.

### XIII. Капіталы колгасу.

1. *Паявы капітал* у часе організацыі колгасу і ў даны момант; разьмер паю і прынцып дыфэрэнцыяваньня, парадак узносаў; у якім відзе ўносяцца паявыя ўзносы (грашыма, сродкі вытворчасьці і інш.); прычыны павялічэньня або памяншэньня паявых узносаў (калі гэта ёсьць).

2. *Непадзельны капітал* пры організацыі колгасу, яго рост па гадох і сума капіталу ў даны момант; з якіх сродкаў складаўся (складаецца) непадзельны капітал (дзяржаўная маемасьць, адлічэньні з даходу, сяброўскія ўзносы і інш.), што перашкаджае росту непадзельнага капіталу; роля непадзельнага капіталу ў росьце колгасу.

3. *Спэцыяльны капітал*, яго памер і прызначэньне; рост па гадох і крыніцы папаўненьня; памер непадзельнай і падзельнай частак спэцыяльнага капіталу; у якой форме захоўваецца (аблігацыі, ашчэдная каса і інш.).

Ці ёсьць *запасны* капітал і ў якім памеры (у пачатку існаваньня колгасу, рост па гадох і памер у даны момант); прынцып і парадак адлічэньняў; форма захаваньня; на што і калі выдаткаваўся.

4. Амортызацыйны капітал і яго памер (калі ёсьць); рост гэтага капіталу па гадох; процант адлічэньня па галоўных відах будынкаў і інвэнтара; дзе знаходзіцца (у грашох ці іншых каштоўнасьцях).

*Пазыкі колгасу.* Якія і ад каго[1]) атрыманы (па гадох) крэдыты і на якія патрэбы; якая патрэба адчуваецца ў крэдытах і на што; плянавасьць і мэтазгоднасьць расходваньня крэдытаў; якія крэдыты зьяўляюцца найбольш рацыянальнымі для гаспадаркі. Выплата запазычанасьці: ці сваечасова выплачваецца, цяжкасьці. Якія асноўныя недахопы ў крэдытаваньні колгасаў (па думцы колектыву колгасу).

### XIV. Асноўныя стацьці выдаткаў і адлічэньняў.

Адлічэньні (па гадох) у амортызацыйны фонд; у капіталы: спэцыяльны, запасны, непадзельны і інш. (паасобна); на аплату сельскагаспадарчага падатку, паі ў коопэрацыю і інш. Выдаткі на аплату працоўнае сілы (сяброў колгасу, нанятым з боку) і на аплату за карыстаньне сродкамі вытворчасьці (трактараў, малатарань і інш.).

Выдаткі на культурныя патрэбы: на клюб, бібліотэку, выпіску літаратуры, на школу, яcьлі, пляцоўку для дзяцей і інш.

> Увага: пры вызначэньні аплаты працы сяброў колгасу неабходна паказаць, па якому прынцыпу аплачваецца праца (падзённа, зьдзельна, па якасьці працы) і па якому прынцыпу праводзяцца адлічэньні прыбыткаў: па душах, па сем'ях, па ўкладзеных капіталах і інш.

### XV. Організацыя працы.

Як організавана праца ў колгасе: працуюць усе працаздольныя, выстаўляецца пэўны лік рабочых ад кожнае сям'і, вызначаецца для сям'і пэўны лік рабочых дзён у месяц і г. д. Хто зусім вызваляецца ад працы: дзеці (да якога ўзросту), старыя, хворыя (што зьяўляецца

[1]) Паказаць асобна пазыкі ў крэдытных установах (дзяржаўных і коопэрацыйных, у сяброў колгасу і прыватных асоб не сяброў колгасу).

падставай для вызваленьня ад працы). Ці ёсьць тэндэнцыя (і ў якой меры яна выяўляецца) да спэцыялізацыі ў працы і якія вынікі гэта дае. Працяжнасьць працоўнага дню для дарослых, дзяцей, старых і ў залежнасьці ад характару працы. Хто і якім чынам вядзе падлік працы сяброў колгасу. Якімі сродкамі рэгулююцца якасьць і плянавасьць працы і чым гарантуецца або якія меры ўжываюцца ў барацьбе з праявамі нядбайнасьці; хто наглядае за выкананьнем працы.

Ці маюць права і ці працуюць сябры колгасу на старане; на якой працы; куды ідзе заробак (для сябе, для колгасу, ці можа для колгасу ўносіцца пэўная частка і інш.). А можа колгас бярэ якія-небудзь працы на старане з мэтай заробку? (Калі так, дык дзе і якія працы бярэ).

*Наём* рабочае сілы: хто і для якіх работ наймаецца (спэцыялісты, звычайныя с.-гасп. рабочыя); на які час і для якой працы.

*Кіраўніцтва:* склад Савету і яго функцыі; на які час абіраецца. Хто і на які тэрмін складае вытворчыя пляны; хто іх зацьвярджае, і хто непасрэдна адказвае за іх выкананьне. Хто і якім чынам вылучае кіраўнікоў асобнымі галінамі гаспадаркі і хто іх зьмяшчае; на які час выбіраюцца розныя кіраўнікі. Роля і значэньне вытворчай камісіі і вытворчых нарад; удзел у іх сяброў колгасу.

Выпадкі нядбайных адносін да працы, прагулы; прычыны такіх зьявішч і меры барацьбы. (Прывесьці конкрэтныя факты і лічбовыя даныя).

Якім чынам вырашаюцца розныя непаразуменьні і спрэчкі, зьвязаныя з працай і аплатай працы.

У чым выяўляецца ў колгасе ахова працы дзяцей, падлеткаў і цяжарных жанчын.

## XVI. Падрыхтоўка рабочае сілы.

У якой галіне гаспадаркі ў колгасе асабліва адчуваецца патрэба ў кваліфікаванай рабочай сіле (у малочнай справе, у садоўніцтве, гародніцтве і інш.). Адкуль і якім чынам бяруцца кваліфікаваныя працаўнікі рознай спэцыяльнасьці; на якіх умовах. Якім чынам колгас падрыхтоўвае сваю кваліфікаваную рабочую сілу: пасылае ў школу і на курсы, організуе ў сябе курсы і інш.). Якая, дзе і якім чынам падрыхтоўка ўжо праведзена; якія ўжо праведзены курсы і колькі чалавек праз іх прапушчана; колькі асоб і ў якой галіне падрыхтавана.

## XVII. Агродапамога і агроасьвета.

Хто і якім чынам аказвае колгасу агрономічную дапамогу (агроном кустаВога аб'яднаньня, раённы агроном, дапамога з боку Колгассаюзу і інш.). Якая конкрэтна дапамога аказана колгасу ў гэтым годзе; якія зроблены ўказаньні, даны парады, прачытаны даклады, праведзены гутаркі і г. д. Якая выпісваецца агрономічная літаратура і як яна скарыстоўваецца. Імкненьне сяброў колгасу да агроасьветы.

## XVIII. Склад насельніцтва ў колгасе і яго дынаміка.

Соцыяльны склад насельніцтва ў часе організацыі: рабочых, батракоў, беднякоў, сераднякоў (а можа і кулакоў?); склад: па роду і па ўзросту: да 13 г., ад 13 да 17 г., ад 18 да 59 г., ад 60 г. і старэй.

Паказаць рух насельніцтва (па гадох) па кожнаму пункту асобна (па соц. складу, па роду і ўзросту); колькі чалавек і сем'яў выбывала і прыбывала; якія соц. катэгорыі выбывалі і прыбывалі; галоўныя прычыны выхаду (зьвярнуць асаблівую ўвагу): прычыны эканомічнага, бытавога парадку і інш. Партыйны склад: членаў КПБ(б) і кандыдатаў; членаў ЛКСМ і кандыдатаў; дынаміка росту партыйнае праслойкі; уплыў на беспартыйную масу, і на характар організацыі гаспадаркі.

Формы выяўленьня клясавае барацьбы ў колгасе (паказаць на конкрэтных прыкладах).

## XIX. Культурна-бытавыя ўмовы жыцьця.

1. *Жыльлёвыя ўмовы:* ці будуюцца спэцыяльныя дамы для некалькіх сем'яў альбо кожная сям'я жыве ў сваёй хаце; ці ёсьць агульныя памяшканьні для нежанатых мужчын і жанчын; жыльлёвая плошча на 1 чал.; як наладжана апальваньне кватэр (сумесна, па чарзе, ці кожная сям'я самастойна); апішэце тыповае для колгасцаў хатняе абсталяваньне і прадметы хатняга ўжытку; якія ёсьць дасягненьні ў гігіенічна-санітарных адносінах (праветрываньне, чыстата, мыцьцё падлогі, сьцен і г. д.); імкненьне да прыгаства (у чым конкрэтна выяўляецца).

2. *Харчаваньне*: індывідуальнае, колектыўнае; калі колектыўнае, дык як організавана (узнос продуктавага ці грашовага паю, хто варыць, ці ёсьць спэцыяльная кухня і сталовая і г. д.). Калі агульнае харчаваньне організавана, дык у чым ёсьць яшчэ недахопы і чым яны тлумачацца, а калі не організавана, дык чаму і ці ёсьць імкненьне, і якія ёсьць перашкоды гэтаму, з чыйго боку.

3. *Падтрыманьне чыстаты і здароўя.* Ці ёсьць лазьня і на колькі чалавек разьлічана; як часта мыюцца ў лазьні. Як часта мяняецца бялізна, пасьцельная прыналежнасьць; ужываньне мыла (у месяц на 1 чал.) мыцьцё рук перад ядой; паласканьне роту і інш.

Папярэджаньне хвароб: супроцьтыфозныя, супроцьвоспавыя і інш. прышчэпліваньні; зварочваньне за мэдыцынскай дапамогай, змаганьне з лякарствам, шэптамі і іншымі забабонамі.

4. *Сямейныя і грамадзкія ўзаемаадносіны:* падзеньне патрыярхальнасьці ў сямейным жыцьці; ці наглядаецца рост роўнапараўнальнасьці ўсіх членаў сям'і; зьмены ў узаемаадносінах розных пакаленьняў (дзяды, бацькі, дзеці) і паміж мужчынамі і жанчынамі; пад уплывам якіх прычын памяншаецца грубасьць, зьнявага слабейшых і інш. у сям'і і ў колгасе наогул; якія сродкі ўжываюцца ў барацьбе з п'янкай, лаянкай і інш. праявамі старога жыцьця; якія ёсьць дасягненьні ў гэтым кірунку і роля партыйцаў і комсамольцаў. Найбольш характэрныя віды непаразуменьняў і сваркі на глебе аплаты працы, організацыі і разьмеркаваньня працы, разьмеркаваньня прыбытку, утрыманьня дзяцей і г. д. Што робіцца для зьнішчэньня гэтых непаразуменьняў і сварак; якія ёсьць дасягненьні.

5. *Культасьветныя і выхаваўчыя ўстановы* і іх праца. Ці ёсьць у колгасе школа, якога тыпу; колькі ў ёй навучаецца дзяцей школьнага ўзросту і колькі дзяцей не ахоплена школай; чаму. Грамадзкакарысная праца школы.

Як організавана дашкольнае выхаваньне дзяцей: ці ёсьць у колгасе дзіцячыя ясьлі, сад і калі організаваны; колькі ў іх дзяцей; забясьпечаньне абсталяваньнем; пастаноўка выхаваўчае працы. Якія

зьмены ўносяцца ў быт сем'яў колгасаў у сувязі з арганізацыяй выхаваўчых устаноў для дзяцей і ў сувязі з вызваленьнем жанчыны ад догляду за дзяцьмі.

Лік няпісьменных і малапісьменных у колгасе ва ўзросьце ад 15 да 40 г. Якім чынам ліквідуецца няпісьменнасьць, ці ёсьць плян і калі мяркуецца зьліквідаваць няпісьменнасьць у колгасе. Колькі чалавек зьліквідавала няпісьменнасьць у мінулым годзе і зьліквідуе ў гэтым годзе.

Якія ў колгасе яшчэ ёсьць школы для дарослых, курсы (якія) і колькі чалавек (мужч. і жанчын) іх наведвае.

Ці ёсьць у колгасе клюб, бібліотэка, чытальня і як у іх пастаўлена праца; колькі чалавек наведвае ў месяц (мужч., жанчын). Колькі кніг у бібліотэцы: па белетрыстыцы, сельскай гаспадарцы, політычнага зьместу, па тэхніцы і інш. і якія кнігі найбольш чытаюцца, на якія ёсьць найбольшае запатрабаваньне і з боку каго. Колькі і якіх выпісваецца газэт і часопісаў у клюб, індывідуальна. Якая праводзіцца масавая праца: даклады, лекцыі, гутаркі, спэктаклі, радыё, вечары самадзейнасьці, выпуск насьценнае газэты і г. д.

Якія існуюць гурткі (с.-гаспадарчы, драматычны, харавы і г. д.), колькі ў іх чалавек, хто кіруе і ў чым выяўляецца іх праца. Як арганізаваны вольны час у колгасе моладзі, жанчын, мужчын; якія ўжываюцца забавы, якія новыя віды забаў нараджаюцца.

Якія ў колгасе існуюць *грамадзкія організацыі*: ячэйка КПБ(б), ЛКСМ, піонэратрад, ячэйка Осоавіахіму, Мопру, Аўтадору і інш.; колькі ў іх членаў (паказаць дынаміку росту) і якая конкрэтная праца праводзіцца кожнай організацыяй; мэтоды працы ў саміх організацыях і сярод неорганізаванай часткі насельніцтва колгасу і суседніх вёсак.

5. *Барацьба з рэлігійнымі забабонамі*. Як організавана антырэлігійнае выхаваньне: гутаркі, даклады і інш.; ці ёсьць ячэйка бязбожнікаў, яе склад; праца і ўплыў на масу. У якой меры яшчэ наведваецца царква (кім) і захоўваюцца рэлігійныя абрады (вянчаньне ў царкве, пахаваньне з папом, споведзь і г. д.). Ці ёсьць ў колгасе сэктанты і ў чым выяўляецца іх дзейнасьць. Якія сродкі і мэтоды барацьбы з рэлігіяй зьяўляюцца найбольш радыкальнымі ва ўмовах колгаснага жыцьця (на аснове практыкі).

### XX. Дапамога вакольнаму насельніцтву.

Якая дапамога аказваецца колгасам бяднейшаму насельніцтву суседніх вёсак: ачыстка насеньня, карыстаньне насельніцтва с.-г. машынамі колгасу, мерапрыемствы па палепшаньні жывёлы і інш.; культурная дапамога; у чым выяўляецца ўплыў колгасу на коопэраваньне і колектывізацыю суседніх вёсак; дапамога ў барацьбе беднаты з кулакамі.

У чым выяўляецца сувязь і дапамога колгасу з боку рабочых організацый бліжэйшых фабрык і заводаў. Формы і мэтоды вытворчай сувязі колгасу з фабрыкай ці заводам.

### XXI. Соцыялістычнае спаборніцтва ў колгасе.

Асноўныя моманты пяцігадовага пляну разьвіцьця колгасу. Як організавана і якія конкрэтныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва пастаўлены колгасам у парадку соцыялістычнага спаборніцтва; дасягненьні ў выкананьні пастаўленых задач і праверка працы.

Асноўныя цяжкасьці ў колгасным будаўніцтве і шляхі іх перамогі.

XXII.

Якая вядзецца справаздачнасьць у колгасе і ці ёсьць вучот усёй працы, выдаткаў і маемасьці колгасу; ці падводзіцца штогод балянс колгасу. Як паводле гэтых балянсаў расьце асноўны капітал колгасу.

Пэрспэктывы далейшага росту колгасу.

---

І. К.

# Краязнаўства і краябудаўніцтва.

*(Краязнаўчыя організацыі і плянавыя органы ў справе вывучэньня краю).*

Краязнаўства, як спэцыяльнае вывучэньне краю, пачалося яшчэ ў XVIII ст.

Але запраўдны шырокі краязнаўчы рух мог разгарнуцца толькі тады, калі на гістарычную сцэну выступілі масы, толькі пасьля рэволюцыі.

Паводле даных анкетнага дасьледваньня Ц. Б. Краязнаўства з 518 краязнаўчых таварыстваў, якія прыслалі анкеты (прыблізна палова ўсіх краязнаўчых т-ваў СССР—1112) толькі 12% (61) існавала да 1917 г. за 1917—1921 г. організавана 14% (73) таварыстваў, за 1922—1925 г.—59,5% (309) і ў 1926 г.—14,5% (75). Разам з тым разьвіваецца сетка краязнаўчых інстытутаў: у Вятке, Саратаве і Растове на Дану і шэраг провінцыяльных інстытутаў навукова-дасьледчага характару, якія вядуць таксама і краязнаўчыя досьледы.

Асабліва шырака разгарнуўся краязнаўчы рух у нас на Беларусі. На II Усесаюзнай конфэрэнцыі па вывучэньню прыродных вытворчых сіл было адзначана ў дакладзе проф. Баха, што па колькаснаму разьвіцьцю краязнаўчых організацый, ліку краязнаўцаў у СССР „на першым месцы стаіць Беларусь, якая займае ў гэтым зусім выключнае становішча сярод усіх іншых раёнаў Саюзу“.

Паводле статыстычных даных, якія фігуравалі на II-й Усесаюзнай конфэрэнцыі па вывучэньню вытворчых сіл краязнаўчыя організацыі БССР займалі наступнае месца ў краязнаўчым руху ўсяго СССР [1]).

| | Таварыствы | Музэі | Дасьледч. станц. і запаведн. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| СССР | 1112 | 576 | 77 | 1765 |
| БССР | 166 | 22 | 6 | 184 |
| % БССР да ўсяго СССР | 14,9% | 3,8% | 7,8% | 10,4% |

Савецкае краязнаўства характарызуецца ня толькі шырокім масавым колькасным разьвіцьцём, але і зусім іншым характарам і зьместам.

У романскіх краінах Захаду (Францыі, Італіі) краязнаўства мае пераважна гуманітарны ўхіл, гісторыка-географічнае вывучэньне мясцовай гісторыі і географіі краю. Адна з самых актыўных краязнаўчых францускіх організацый так і называецца—„Таварыства гістарычных і

1) У сучасны момант у БССР налічваецца 301 краязнаўчая організацыя з 10.500 сяброў.

географічных дасьледваньняў Парыскае акругі“ (Société d'etudes historiques et geographiques de la région Parisiènne). У бюлетэні гэтага таварыства поруч з спосабам дасьледваньня мясцовай гісторыі, мастацтва, археолёгіі мы бачым літаратуру па досьледах геолёгічных, батанічных, палеонтолёгічных, але на вывучэньне экономікі краю, яго вытворчасьці, тут не зьвяртаецца належнай увагі, якая, скажам, зьвяртаецца ў краязнаўчых таварыствах Нямеччыны.

У Нямеччыне краязнаўчая праца асабліва праводзіцца школьнымі настаўнікамі, якія займаюцца вывучэньнем флёры і фаўны сваёй ваколіцы, закладаюць музэі, таварыствы па вывучэньні прыродных і экономічных асаблівасьцяй краю, уцягваюць у гэтую справу вучняў і мясцовую інтэлігенцыю.

Асабліва каштоўным у дзейнасьці савецкіх краязнаўчых організацый зьяўляецца ўсё большае паглыбленьне іх працы па вывучэньні вытворчых сіл краю і адыход ад таго музэйна-колекцыйнага напрамку, які панаваў у краязнаўчай працы ў дарэволюцыйныя часы. Але савецкае краязнаўства не абмяжоўваецца толькі вывучэньнем энэргетычных рэсурсаў краю: краязнаўства—як слушна адзначае акадэмік Ольдэнбург, „надзвычайна энцыклёпэдычна“, аб'яднае розныя навуковыя дысцыпліны. Дзеля гэтага самы зьмест савецкага краязнаўства, у параўнаньні з краязнаўствам іншых краін, зьяўляецца новым, шырокім, сынтэтычным і падзяляецца на тры асноўныя тыпы: энэргетычна-прыродазнаўчы, грамадзка-экономічны і культурна-гістарычны. Галоўнымі задачамі савецкага краязнаўства зьяўляецца вывучэньне прыроды краю, яго прыродных вытворчых сіл, як базы ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва, умоў яго экономічнага разьвіцьця—сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і тэхнікі. Экономічнае разьвіцьцё краю залежыць ня толькі ад павялічэньня яго энэргетычных рэсурсаў і паляпшэньня вытворых процэсаў, але і ад адпаведнай організацыі жывых вытворчых сіл—людзей, іх кваліфікацыі і іх суадносін у самых процэсах вытворчасьці—ад культурнасьці і грамадзка-экономічных умоў працы, якія таксама падлягаюць самаму пільнаму вывучэньню краязнаўцы—будаўніка новага жыцьця.

Экономічнае і культурнае будаўніцтва краю, будаўніцтва соцыялістычнае, плянавае патрабуе ня толькі поўнага і ўсебаковага вывучэньня краю, але і самай цеснай узгодненасьці з конкрэтнай працай усіх мясцовых сіл і організацый. Адсюль характэрнымі асаблівасьцямі савецкага краязнаўства зьяўляецца ня толькі яго масавасьць, але таксама комплекснасьць і плянавасьць.

Вялізарная большасьць краязнаўчых таварыстваў па характары сваёй дзейнасьці займаюцца комплексным вывучэньнем прыроды з вытворчым ухілам.

У соцыялістычным будаўніцтве сьціраюцца грані паміж грамадзкай працай і працай дзяржаўнай—краязнаўства становіцца краябудаўніцтвам, як органічная частка плянавага дзяржаўнага будаўніцтва.

Вывучэньне вытворчых прыродных сіл краю, раёнаваньне, пад'ём мясцовай гаспадаркі і культуры жыцьця, географічны падзел прамысловых прадпрыемстваў і сельска-гаспадарчых культур—усё гэта зьяўляецца неабходнай базай працы плянавых органаў, разам з тым уваходзіць у задачы працы як навукова-дасьледчых установ, так і краязнаўчых організацый.

З прычыны важнасьці задач і складанасьці самой працы ўзаемаадносіны краязнаўчых організацый з плянавымі органамі і навукова-

дасьледчымі ўстановамі павінны быць не выпадковымі не „от случая к случаю“, а сталымі і трывалымі. Яны павінны быць пабудаваны на поўным узаемаазнаямленьні і ўзгадненьні працы. Дзеля гэтага павінен быць наладжаны праз краязнаўчыя організацыі адмысловы вучот краязнаўчых сіл і іх працы на мясцох з мэтай выкарыстаньня іх чыннасьці плянавымі органамі організаваным спосабам, шляхам перадачы плянавымі органамі (у ўмовах БССР пераважна акруговымі плянавымі камісіямі) краязнаўчым таварыствам даручэньняў дасьледчага характару; павінна шырака практыкавацца прыцягваньне плянавымі органамі краязнаўчых організацый да абгаварэньня розных пытаньняў і ўдзел прадстаўнікоў плянавых органаў у краязнаўчых зьездах, конфэрэнцыях і сходах; патрэбен самы актыўны ўдзел краязнаўчых організацый як у навукова-дасьледчых экспэдыцыях, так і ў дасьледчых стацыянарных работах (мэтэоролёгічным і гідролёгічным вывучэньні краю, вывучэньне экономікі, прыроды і інш.). Гэтая думка аб цеснай увязцы працы краязнаўчых організацый з плянавымі органамі знайшла сабе ўжо агульнае прызнаньне. Так, Усеўкраінская конфэрэнцыя па вывучэньні вытворчых сіл, якая адбылася ў сакавіку 1927 году, прызнала, што „ўсе існуючыя мясцовыя навукова-грамадзкія і краязнаўчыя організацыі павінны быць аб'яднаны з плянавымі органамі з мэтай іх выкарыстаньня для плянавага вывучэньня вытворчых сіл згодна з запатрабаваньнямі мясцовай гаспадаркі“.

Разьвіваючы гэтую самую думку, краязнаўчая конфэрэнцыя па вывучэньні вытворчых сіл Вяцка-Вятлускага краю лічыць, што апорнымі базамі ў дзяржаўным плянавым вывучэньні краю павінны быць краязнаўчыя музэі, сетка якіх павінна быць зьвязана з экономічна-плянавымі раёнамі Саюзу.

Перад гэтымі краязнаўчымі музэямі, паводле думкі гэтай Вяцка-Вятлускай конфэрэнцыі, стаіць таксама і вялізарная задача вылучэньня новых кадраў дасьледчыкаў. „Краязнаўчыя Музэі, гаворыцца ў рэзолюцыі конфэрэнцыі, зьяўляюцца тымі організацыямі, якія праз свае дасьледчыя аддзелы могуць знайсьці ў самых глухіх кутках СССР таленавітых прадстаўнікоў, самародкаў шырокіх краязнаўчых мас“, з якіх выйдуць добрыя навукова-дасьледчыя сілы.

Разам з новым характарам і зьместам краязнаўчы рух стварае і новы тып краязнаўцы-будаўніка, энтузыяста, змагара за лепшую будучыню свайго краю і клясы. Акрэсьліваючы гэты новы тып краязнаўцы, Анцыфэраў раўняе яго з гуманістымі эпохі Рэнэсансу.

„Краязнаўцы нашых дзён,—гавора ён [1]),—хаця-ж і значна адрозьніваюцца ад гуманістых (XV-XVI ст.), маюць з імі і нешта супольнае. Гэтыя людзі, злучаныя ў вольныя дружыны працаўнікоў, прызначаны гісторыяй ва ўсіх пунктах нашай вялікай стараны садзейнічаць уздыму багатых, але дрымотных сіл народу і накіраваць іх на барацьбу за культурнае будаўніцтва“.

Будаўніцтва краю,—дзяржаўнае, экономічнае, культурнае і соцыяльнае—зьяўляецца ў нас справай шырокіх мас працоўных, якія адчуваюць адказнасьць за гэтае будаўніцтва, глядзяць на ўсё, што робіцца навокал іх як на сваё, тое што трэба добра знаць, каб добра будаваць, глядзець вачыма гаспадара, зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі соцыялістычнага будаўніцтва.

---

[1]) Анцыфэраў. Краеведение, как историко-культурное явление. Изв. ЦБК 1927 год

Паколькі дзяржаўнае будаўніцтва, асабліва культурнае і эканомічнае, усё больш перадаецца масавым сілам, паколькі яны зацікаўлены ў адшуканьні патрэбных на гэтую справу рэсурсаў, пастолькі шырокі краязнаўчы рух, як неабходная прадпасылка пасьпяховага краябудаўніцтва, набывае асаблівае значэньне.

Вывучэньне краю з мэтай яго будаваньня мае свае асобныя рысы на „окраінах", якія паводле аўторытэтнага азначэньня проф. Баха ў навуковых адносінах яшчэ і да гэтага часу часта зьяўляюцца для навукова-магутнага цэнтру, яго „колёніямі". Гэта ў той час, калі якраз на мясцох шырака і напружана разгортваецца як гаспадарчае, так і соцыяльна-культурнае масавае будаўніцтва, якое вымагае вялікай навуковай узброенасьці творцаў гэтага будаўніцтва — працоўных мас. Адсюль настойлівая неабходнасьць удзелу мас, будаўнікоў новага жыцьця ў краязнаўчай працы: ня толькі знаёмства іх з конкрэтнымі мясцовымі абставінамі гаспадарчага і культурнага жыцьця краю, але і ўменьня наглядаць яго і разьбірацца ў ім на пэўных навуковых падставах, шляхам хаця-б і досыць прымітыўнага, але ўсё-ж такі правільна пастаўленага дасьледваньня мясцовага жыцьця, што якраз даецца краязнаўчай працай.

У гэтай сваёй мэтаімкнёнасьці, якая прыводзіць краязнаўцу да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, краязнаўства павінна быць асабліва цесна ўвязана з мясцовымі плянавымі органамі ня толькі ў сваёй мэтодолёгіі, але і ў самой практычнай працы. Плянавыя органы могуць продукцыйна працаваць ня толькі на падставе навуковага дасьледваньня, але і конкрэтна-масавага вывучэньня мясцовых умоў жыцьця краіны, што найлепш можа быць праведзена нашымі краязнаўчымі таварыствамі.

Супольная шчыльная праца плянавых органаў з навукова-дасьледчымі організацыямі і краязнаўчымі таварыствамі зьяўляецца аднэй з лепшых парук пасьпяховага плянавага соцыялістычнага будаўніцтва краю.

---

Г. А. Рэмізаў.

# Фэнолёгічны агляд па БССР за 1928 год.

Фэнолёгічная сетка Беларусі ў 1928 годзе складалася з 53 пунктаў (54—г. Белы б. Смаленскай губ., адкуль у ЦБК сыстэматычна паступае матар'ял). Значны лік нагляданьняў ахапіў усю Беларусь, разьмеркаваўшыся, аднак, па яе абшарах досыць няроўнамерна,— гусьцей на поўдні і вельмі мала на ўсходзе БССР. Акрамя гэтага, паасобныя фэнолёгічныя нагляданьні паступілі ў ЦБК з 45 месц, якія, магчыма, паступова абярнуцца ў сталыя фэнопункты. Самы паўднёвы фёнолёгічны пункт, Камарын, знаходзіцца пад 51°27′ геогр. шырыні, аднак вестак ад яго атрымана мала. Наступны паўднёвы пункт з дастатковай лічбай нагляданьняў—Дзернавічы — 51°36′ геогр. шыр. Самы паўночны пункт (ня лічачы г. Белага)—50°55′ (Сакалішча—геогр. шыр.—55°46 ), заходні пункт Семежава—27°00′ геогр. даўжыні ад Грынвіча і ўсходні (ня лічачы Лучыцы, Высачані і Сялюты, ад якіх нагляданьняў мала) гор. Рагачэў—30°00′ геог. даўж. ад Грынвіча.

З дасланых у ЦБК 2500 нагляданьняў апрацавана ў гэтым аглядзе 1389. З іх трэцяя частка прыпадае на май м-ц (32,3%). З табліцы

№ 1 відаць, што нагляданьні дасылаліся ў ЦБК з лютага па лістапад. Аднак, трэба адзначыць, што большасьць пунктаў, даслаўшы вясновыя нагляданьні, не даслалі васеньніх, а наадварот, частка пунктаў, з якіх ёсьць васеньнія нагляданьні, ня дала ніякіх вестак аб ходзе вясны.

**I. Лік апрацованых нагляданьняў у Ц.Б.К. Беларусі і РТАС ў Ленінградзе.**

| Месяцы: | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь | | | | | | | | | | | | | |
| Лік нагляданьн. . | — | 3 | 234 | 380 | 449 | 108 | 56 | 30 | 76 | 30 | 11 | 6 | 1389 |
| % да агульн. ліч. . | — | 0,2 | 16,8 | 27,4 | 32,3 | 7,8 | 4,0 | 2,6 | 5,5 | 2,2 | 0,8 | 0,4 | 100 |
| Ленінград | | | | | | | | | | | | | |
| Лік нагляданьн. . | 140 | 73 | 162 | 681 | 1140 | 769 | 531 | 312 | 273 | 376 | 267 | 277 | 5001 |
| % да агульн. ліч. . | 2,8 | 1,5 | 3,2 | 13,7 | 22,8 | 15,4 | 10,6 | 6,2 | 5,5 | 7,5 | 5,3 | 5,5 | 100 |

Такім чынам нельга вывесьці вэгетацыйнага і асыміляцыйнага пэрыодаў, а лік дзён пражыцьця на Беларусі пералётных птушак магчыма было вылічыць толькі для некаторых паўднёвых месц да двух-трох паўночных і толькі для аднаго-двух відаў птушак.

Нагляданьні, атрыманыя фэнолёгічным аддзелам Расійскага Т-ва Аматараў Сьветазнаўства (Ленінград), як відаць з I табліцы, разьмяркоўваюцца па месяцах больш роўнамерна, зусім бяз перапынку на працягу ўсяго году. За студзень у Беларускае ЦБК не даслана ніводнага назіраньня, за люты атрымана тры—аб зьяўленьні перадавікоў гракаў (у Азарычах 10-га, у Менску 28-га і ў Рагачэве 29-га лютага).

Масавы прылёт гракаў у Менску наглядаўся праз 10 дзён пасьля прылёту перадавікоў—9 сакавіка, у Рагачэве праз 17 дзён—17 сакавіка. Першыя гракі ў г. Бабруйску зьявіліся 3 сакавіка, масавы прылёт—16-га. У сярэднім, магчыма лічыць, што пэрыод паміж першым зьяўленьнем і масавым прылётам гракоў у 1928 г. быў 13-14 дзён. Шпакі ў некаторых мясцох зьявіліся раней сярэдняга прылёту. Амаль усюды першая песьня жаўранка адзначана адначасова з зьяўленьнем шпакоў ці праз некалькі дзён.

Акрамя зьяўленьня гракоў, шпакоў, першай песьні жаўранка і зябліка, апошняя дэкада сакавіка адзначылася па ўсёй Беларусі наступнымі орнітофэнолёгічнымі зьявамі: зьяўленьнем белай пліскі (Motacilla alba), пачаткам цягі слонак (Scolopax rusticula). Зьяўленьнем першых стай і масавым прылётам гусей (Anser) і жораваў (Grus).

З іхтыофэнолёгічных зьяў да гэтага часу адносяцца першыя нагляданьні нерасту шчупака—22-III—Якімава Слабада, 31-га—Асінаўка; астатнія-ж нагляданьні нерасту шчупака адносятся ўжо да першай і пачатку другой дэкад красавіка, а ў Клічаве аж да 25 красавіка (?). Нераст акуня адносіцца да другой паловы красавіка, а язя к канцу красавіка і пачатку мая.

Першым фітофэнолёгічным нагляданьнем зьяўляецца пачатак руху соку ў Бярозы (Betula Verrucosa). Аднак, час гэтага нагляданьня значна разыходзіцца ў розных пунктах. З абагульненьняў фітофэнолёгічных

нагляданьняў (табл. II) магчыма бачыць, што часта сустракаюцца выпадкі больш позьняй рэгістрацыі гэтай зьявы на поўдні, а не на поўначы. Мабыць, мэтоды нагляданьня ў розных наглядальнікаў неаднолькавы.

II. Бяроза і чарэмха.

| № па чарзе | ФЭНОПУНКТЫ | Бяроза (Betula verrucosa) | | | Чарэмха (Prudus Padus) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пачатак руху соку | Зеляненьне | Лік дзён | Зеляненьне | Зацьвітаньне | Лік дзён |
| 1 | Дзернавічы | 17-IV | 30-IV | 13 | 29-IV | — | — |
| 2 | Скароднае | 19-IV | 1-V | 12 | — | — | — |
| 3 | Рамязы | 30-IV | — | — | 27-IV | 12-V | 15 |
| 4 | Ельск | 4-IV | 1-V | 27 | — | 14-V | — |
| 5 | Бібікі | 16-IV | 30-IV | 14 | 30-IV | 13-V | 13 |
| 6 | Тураў | 20-IV | 10-V | 20 | — | — | — |
| 7 | Петрыкаў | 2-IV | — | — | 26-IV | 11-V | 15 |
| 8 | Людзяневічы | 8-IV | 1-V | 23 | 3-V | 14-V | 11 |
| 9 | Капаткевічы | 4-IV | 2-V | 28 | 5-V | 16-V | 11 |
| 10 | Яменск | 6-IV | 20-IV | 23 | 28-IV | 7-V | 9 |
| 11 | Любань | 4-IV | 2-V | 28 | — | 16-V | — |
| 12 | Чырвоная слабада | — | 2-V | — | 24-IV | 16-V | 22 |
| 13 | Якімава Слабада | 3-IV | 4-V | 31 | 29-IV | 13-V | 15 |
| 14 | Рагачэў | 2-IV | 4-V | 32 | 4-V | 20-V | 16 |
| 15 | Бабруйск | — | 1-V | — | 2-V | 13-V | 11 |
| 16 | Паўлаўшчына | 9-IV | 2-V | 23 | 2-V | 19-V | 17 |
| 17 | Клічаў | 7-IV | 2-V | 25 | 5-V | 15-V | 10 |
| 18 | Максімавічы | 20-IV | 7-V | 17 | 6-V | 19-V | 13 |
| 19 | Менск | 9-IV | 8-V | 29 | 6-V | 20-V | 14 |
| 20 | Барысаў | 4-IV | 8-V | 34 | 5-V | 19-V | 14 |
| 21 | Нікольск | 12-IV | 2-V | 20 | 5-V | 22-V | 17 |
| 22 | Дзякавіна | 6-IV | 11-V | 35 | 4-V | 20-V | 16 |
| 23 | Сакалішча | 2-IV | 3-V | 31 | 1-V | — | — |
| 24 | Белы | 5-IV | 11-V | 35 | 8-V | 22-V | 14 |
| | У сярэднім | — | — | 25 | — | — | 14 |

Лік дзён ад пачатку руху соку да зеляненьня бярозы хістаецца ад 12 да 35, а ў сярэднім з 20 нагляданьняў роўна 25 дням. Пэрыод зеляненьня бярозы пачынаецца з 29 красавіка і цягнецца да 11 мая, г. з. зьява прайшла Беларусь з поўдня-захаду на поўночны ўсход за 12 дзён, прасоўваючыся па 42 клм за суткі. З такой-жа хуткасьцю прасоўвалася зацьвітаньне балотнага курасьлепу (Caltha palustris) і чарэмхі (Prunus Padus).

Адзначанае амаль усімі наглядальнікамі пахаладаньне на працягу ўсёй другой дэкады красавіка, магчыма, адбілася на руху соку ў бярозы; мажліва думаць, што мела месца ў некаторых выпадках нават прыпыненьне руху соку, што неабходна было мець на ўвазе пры вылічэньні вэгетацыйнага пэрыоду. Таму вельмі пажаданы нагляданьні ня толькі аб пачатку руху соку, але і далейшыя нагляданьні над ім. У сувязі з адзначаным пахаладаньнем ход фэнолёгічных зьяў у сярэдзіне красавіка зьмяняецца па ўсёй Беларусі. У Барбараве 13 красавіка нават наглядаўся зварот гусей і жораваў. У гэты-ж час наглядаўся і апошні выпад сьнегу.

З 18 нагляданьняў над працягам пэрыоду ад зеляненьня да зацьвітаньня чарэмхі сярэдняе вызначаецца ў 14 дзён. Зеляненьне чарэмхі

наглядалася паміж 24 красавіка (Чырвоная Слабада) і 8 мая (Смалявічы і г. Белы). Зацьвітаньне—паміж 7 мая (Менск) і 22 мая (Нікольск, Кабылянка, Белы), г. з. абедзьве зьявы прайшлі праз Беларусь амаль у аднолькавы час 14—15 дзён. Аднак, і тут, як і пры наглядданьнях за бярозай, адчуваецца адсутнасьць адзінства мэтадаў наглядданьняў. Гэта адносіцца ня толькі да бярозы і чарэмхі, але і да ўсіх фітофэнолёгічных наглядданьняў.

Амаль па ўсёй Беларусі першая навальніца наглядалася 9 мая, аднак на поўдні (у некаторых раёнах Мазырскай, Бабруйскай і Менскай акруг) яна наглядалася ўжо ў красавіку. Адначасова з ёю ахапіла ўсю Беларусь і першая бура, учыніўшая ня мала шкоды, галоўным чынам у Менскай акрузе. У м. Самахвалавічах былі сарваны ня толькі драўляныя дахі, але разбураны і чарапічныя, выварачана шмат дрэў, ціскам ветру выбіты шыбы ў вокнах. У Менску гэтая бура пацягнула за сабой нават дзьве чалавечыя ахвяры. У в. Стукацічы таксама было шмат разбурэньняў будынкаў і ў садох, „а авечак з стада ў полі катала па зямлі“,—піша К. А. Баяровіч.

З пачатку другой дэкады мая ў Бабруйскай акрузе наглядалася нязначнае пахаладаньне, а з м. Любань ёсьць паведамленьне, што раніцою 11 мая наглядаўся іней. У першай дэкадзе чэрвеня ў Бабруйшчыне зноў наглядалася пахаладаньне.

Для адзначэньня фэнолёгічных працэсаў улетку скарыстаны матар'ял пасьпяваньня жыта і лясных ягад, ход якіх магчыма бачыць з табліц. Найвялікшая лічба наглядданьняў (9) над пасьпяваньням жыта табл. III) дала пэрыод ад 38 да 43 дзён, тры наглядданьні ад 32 да 37

**III. Працяжнасьць пасьпяваньня жыта.**

| № па чарзе | Фэнопункты | Зацьвітаньне | Першае жніво | Працяжн. пасьпяваньня |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Буйнавічы | 16-VI | 18-VII | 32 |
| 2 | Бібікі | 15-VI | 28-VII | 43 |
| 3 | Слабада | 20-VI | 25-VII | 35 |
| 4 | Хуснае | 11-VI | 23-VII | 42 |
| 5 | Капаткевічы | 11-VI | 23-VII | 42 |
| 6 | Азарычы | 9-VI | 20-VII | 41 |
| 7 | Яменск | 16-VI | 28-VII | 42 |
| 8 | Якімава Слабада | 15-VI | 19-VII | 34 |
| 9 | Семежава | 13-VI | 30-VII | 47 |
| 10 | Барбарава | 14-VI | 22-VII | 38 |
| 11 | Журавец | 15-VI | 28-VII | 43 |
| 12 | Паўлаўшчына | 22-VI | 30-VII | 38 |
| 13 | Сукачова | 26-VI | 11-VIII | 45 |
| 14 | Нікольск | 15-VI | 26-VII | 41 |
| 15 | Кабылянка | 18-VI | 3-VIII | 46 |
| | Усярэднім | | | 40,6 |

дзён і тры ад 44 да 47. У сярэднім з 15 наглядданьняў пэрыод пасьпяваньня жыта вызначыўся ў 40,6 дзён.

З дасланых матар'ялаў, акрамя працяжнасьці пасьпяваньня жыта, удалася выявіць вэгетацыйныя пэрыоды і іншых культур. У аўсу ён цягнецца, лічачы ад першага севу да пачатку ўборкі, ад 102 да 135

дзён, а ў ячменю ад 83 да 113 дзён (табл. IV). Малы лік дасланых матар'ялаў не дазваляе зрабіць больш падрабязных вывадаў над вэгетацыяй карысных культур, нагладаньні над якімі зьяўляюцца вельмі пажаданымі.

**IV. Вэгетацыйныя пэрыоды аўсу і ячменю.**

| № па чарзе | Фэнопункты | Авёс | | | Ячмень | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Першы сеў | Першае жніво | Вэгетацыйны пэрыод | Першы сеў | Першае жніво | Вэгетацыйны пэрыод |
| 1 | Буйнавічы . . . . | 27-IV | 28-VIII | 123 | 27-IV | 23-VII | 87 |
| 2 | Бібікі . . . . . | 25-IV | 8-VIII | 105 | 25-IV | 28-VII | 94 |
| 3 | Азарычы . . . . | 10-IV | 7-VIII | 119 | — | — | — |
| 4 | Яменск . . . . . | — | — | — | 4-V | 29-VII | 86 |
| 5 | Чырвоная Слабада . | 30-IV | 18-VIII | 110 | 12-V | 13-VIII | 93 |
| 6 | Якімава Слабада . . | 19-IV | 21-VIII | 124 | 19-IV | 28-VII | 100 |
| 7 | Семежава . . . . | 3-V | 17-VIII | 106 | — | — | — |
| 8 | Барбарава . . . . | 9-V | 26-VIII | 109 | 4-V | 26-VII | 83 |
| 9 | Журавец . . . . . | 15-V | 25-VIII | 102 | 11-V | 7-VIII | 88 |
| 10 | Паўлаўшчына , , . | — | — | — | 25-IV | 2-VIII | 99 |
| 11 | Нікольск . . . . . | 16-IV | 29-VIII | 135 | 16-V | 20-VIII | 96 |
| 12 | Кабылянка . . . . | 10-V | 5-IX | 113 | 12-V | 2-IX | 113 |
| | У сярэднім . | — | — | 114,6 | — | — | 93,6 |

Хістаньне пэрыоду пасьпяваньня лясной суніцы (Fragaria vesca) паводле паданых нагляданьняў (табл. V) заключаецца ў межах ад

**V. Працяжнасьць пасьпявеньня лесавых ягад.**

| № па чарзе | ФЭНОПУНКТЫ | Суніца Frangaria vesca | | | Маліна Rubus | | | Чарніца Vaccinium Myrtillus | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Зацьвітаньне | Першыя плады | Працяжнасьць пасьпяваньня | Зацьвітаньне | Першыя плады | Працяжнасьць пасьпяваньня | Зацьвітаньне | Першыя плады | Працяжнасьць пасьпяваньня |
| 1 | Буйнавічы . . . . | 20-V | 22-VI | 33 | 10-V | 1-VII | 51(?) | 9-V | 24-VI | 46 |
| 2 | Слабада . . . . . | 12-VI | 29-VI | 17 | — | — | — | — | — | — |
| 3 | Людзяневічы . . . | 21-V | 25-VI | 35 | — | — | — | — | — | — |
| 4 | Яменск . . . . . | 23-V | 23-VI | 31 | — | — | — | 23-V | 30-VI | 38 |
| 5 | Любань . . . . . | 17-V | 23-VI | 37 | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Якімава Слабада . . | 14-V | 21-VI | 38 | 15-VI | 17-VII | 33 | 15-V | 1-VII | 46 |
| 7 | Семежава . . . . | 3-V | 23-VI | 51(?) | 20-VI | 28-VII | 39 | 25-V | 8-VII | 44 |
| 8 | Рагачэў . . . . . | 26-V | 27-VI | 32 | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Паўлаўшчына . . . | 17-V | 8-VII | 22 | 10-VI | 22-VII | 43 | 17-V | 8-VII | 52 |
| 10 | Нікольск. . . . . | 24-VI | 25-VII | 31 | 1-VII | 3-VIII | 32 | 20-V | 28-VII | 69(?) |
| 11 | Кабылянка . . . . | — | — | — | 20-VI | 25-VII | 35 | — | — | — |
| 12 | Сялюты . . . . . | — | — | — | 26-VI | 30-VII | 34 | — | — | — |
| 13 | Дзякавіна . . . . | 2-VI | 9-VI | 7(?) | — | — | — | — | — | — |
| 14 | Сукачова. . . . . | 21-VI | 8-VII | 17 | — | — | — | 20-VI | 15-VII | 25(?) |
| | У сярэднім . . | — | — | 29,2 | — | — | 38,1 | — | — | 45,7 |

7 да 51 дня. Але трэба думаць, што крайнія з гэтых тэрмінаў памылковы; запраўдны пэрыод, зразумела, заключаны ў менш шырокіх межах. Калі зьменшыць лік нагляданьняў, адкінуўшы крайнія тэрміны, сярэдні пэрыод пасьпяваньня лясной суніцы будзе 32,2 дня, а ня 29,2, як ў табліцы, дзе пэрыод вылічаны з усіх 12 нагляданьняў.

Па тых-жа прычынах, прыдзецца выключыць адно нагляданьне над пэрыодам пасьпяваньня лясной маліны (Rubus) і два — чарніцы

(Vaccinium Myrtillus), супроць якіх у табліцы стаяць пытальнікі (?) Пасьля гэтага пэрыод пасьпяваньня лясной маліны ў сярэднім будзе 36,0 (а ня 38,1), а чарніцы—45,2 (а ня 45,7) дзён.

Зацьвітаньне лясной суніцы ў Нікольску пачалося з спазьненьнем на 2 дні супроць сярэдняга за 6 год, а ў Белым на 5 дзён. Зацьвітаньне верасу (Calluna vulgaris Salisb.) наглядалася ўсюды з пачатку верасьня, толькі ў Якімавай Слабадзе 24 жніўня (магчыма зьяўленьне лілёвага колеру, а не раскрыцьце венчыка, калі паказваюцца тычынкі—момант, які трэба лічыць за пачатак цьвіценьня). У першай дэкадзе верасьня наглядаўся лёт васеньней павуціны.

Былі выпадкі васеньняга зацьвітаньня расьлін. Так у Барбараве паўторна зацьвілі вішні 1-га, а ў Кабылянцы 6-га жніўня. У Рагачэве 4 верасьня зацьвёў дзьмухавец.

З другой паловы верасьня наглядаўся пачатак афарбаўкі лісьця ў клёна і ў сярэднім праз 4 дні ў асіны. Пачатак лістападаньня ў тых-жа парод адносіцца да часу паміж 23 верасьня і 18 кастрычніка, а канец—паміж 3 і 30 кастрычніка. У сярэднім працяжнасьць лістападу была 13—15 дзён. У Рагачэве агаленьне дубу наглядалася 21 верасьня. Аб вэгетацыйных, і асыміляцыйных пэрыодах і лістападаньні ў іншых дрэўных парод, за малалічнасьцю назіраньняў, вывадаў зрабіць немагчыма. Наогул, васеньнія назіраньні надзвычайна малалічны,—аднак яны вельмі патрэбны, асабліва над зацьвітаньнем верасу, чарнобылю-палыну, псяркі, над лістападаньнем у клёна, асіны, бярозы, а таксама цікавы назіраньні над пародамі, межы распаўсюджанасьці якіх праходзяць па Беларусі, так напрыклад: тутавае дрэва, дуб, пірамідальны топаль.

Васеньнія назіраньні над птушкамі таксама не зьяўляюцца дастаткова поўнымі, параўнаўча з вясеньнімі. Адлёт белага бусла наглядаўся ўжо ў канцы жніўня, а ў Азарычах (Мазырскае акр.) нават 10 жніўня, і цягнуўся першую дэкаду верасьня. У Нікольску бусел пражыў да 20 верасьня. Першы адлёт ластаўкі-касаткі адзначаны ў Салютах (Віцебскай акр.) 6-га, а апошні ў Азарычах 28 верасьня. Час пражыцьця гусей, жораваў, белага бусла і ластаўкі-касаткі можна бачыць з табліцы VI.

**I. Працяжнасьць пражываньня некаторых птушак у 1928 г. у Беларусі.**

| № па чарзе | Фэнопункты | Гусі (Anser) | | | Жураўлі (Grus) | | | Белы Бусел (Cyconia alba) | | | Ластаўка-касатка (Hirundo rustica) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Вясновы пралет | Васеньні пралет | Лік дзён пражываньня | Вясновы пралёт | Васеньні пралёт | Лік дзён пражываньня | Зьяўленьне | Адлёт | Лік дзён пражываньня | Зьяўленьне | Адлёт | Лік дзён пражываньня |
| 1 | Бібікі . . . . | 27-III | 22-IX | 177 | — | 3-IX | — | 16-IV | 10-IX | 147 | 27-IV | 13-IX | 139 |
| 2 | Хуснае . . . . | 25-III | 15-IX | 174 | — | 1-IX | — | 5-IV | 1-IX | 149 | 22-IV | — | — |
| 3 | Капаткевічы . . | 26-III | 3-X | 189 | — | 3-X | — | 4-IV | — | — | — | — | — |
| 4 | Азарычы . . . | 25-III | 15-X | 204 | 31-III | 28-IX | 181 | 2-IV | 10-VIII | 130 | 22-IV | 28-IX | 159 |
| 5 | Парычы . . . | — | — | — | 3-IV | 2-IX | 152 | — | — | — | — | — | — |
| 6 | Чырв. Слабада | — | 29-IX | — | 3-IV | 4-IX | 154 | 1-IV | 2-IX | 154 | 22-IV | 22-IX | 153 |
| 7 | Семежава . . . | 18-III | 29-IX | 195 | — | — | — | 2-IV | 24-VIII | 144 | — | — | — |
| 8 | Пархімавічы . . | 2-IV | 3-X | 184 | — | 14-X | — | 2-IV | 24-VIII | 146 | 30-IV | 24-IX | 147 |
| 9 | Рагачэў . . . | 29-III | 25-IX | 180 | 29-III | 25-IX | 180 | 7-IV | — | — | 22-IV | 20-IX | 151 |
| 10 | Журавец . . . | 25-III | 27-IX | 186 | — | 5-X | — | — | — | — | — | — | — |
| 11 | Нікольск . . . | 16-IV | 10-X | 177 | 15-IV | — | — | 7-IV | 20-IX | 166 | 13-V | 24-IX | 134 |
| | У сярэднім . | — | — | 185 | — | — | 167 | — | — | 148 | — | — | 147 |

Пражыцьцё жораваў каля Менску ў сярэднім (за 3 гады) раўно 161 дню, з 14 красавіка па 22 верасьня, а ў 1928 годзе яны пражылі на 10 дзён менш, г. з. 151 дзень, з 22 красавіка па 20 верасьня. У Нікольску (табл. VII) сярэдняе (за 7 лет) пражыцьцё—179 дзён, з

**VII. Працяжнасьць пражываньня некаторых птушак (за 6 год у сярэднім) у Нікольску (старыя Алейнікі) Аршанскай акругі.**

| Назва птушак | Зьяўленьне | | Адлёт | | Лік дзён пражываньня | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У сярэд. за 6 год | У 1928 г. | У сярэд. за 6 год | У 1928 г. | У сярэд. за 6 год | У 1928 г. |
| Гусі (Anser) . . . . | 10-IV | 16-IV | 16-X | 10-X | 189 | 177 |
| Жоравы (Grus) . . . | 12-IV | 15-IV | 8-X | — | 179 | — |
| Белы бусел (Cyconia alba) | 8-IV | 7-IV | 20-IX | 20-IX | 155 | 156 |
| Ластаўка-касатка (Hirundo rustica) . . . . . | 26-IV | 13-V | 25-IX | 24-IX | 152 | 134 |

12 красавіка па 8 кастрычніка, а гусей 189 дзён, з 10 красавіка па 16 кастрычніка. У 1928 годзе гусі пражылі ў Нікольску на 12 дзён менш, іменна 177 дзён, з 16 красавіка па 10 кастрычніка.

Нязначная колькасьць паступіла ў ЦБК назіраньняў аб узьняцьці і замярзаньні рэк. (табл. VIII). Гэтыя зьявы важны ня толькі

**VIII. Узьняцьце і замярзаньне рэк у БССР у 1928 г.**

| Рака | Узьняцьце | Замярзаньне |
|---|---|---|
| Бярэзіна каля Барысава . . . . . | 4 красавіка | — |
| „ „ Якімавай Слабады . . . | 9 „ | 20 сьнежня |
| Дняпро „ Рагачэва . . . . . | 10 „ | — |
| Сьвіслач „ Менску . . . . . | 27 сакавіка | 16 сьнежня |
| Арэса „ м. Любань. . . . . | 2 красавіка | — |

для гідралёгаў і мэтэоролёгаў, але і для фэнолёгаў. Калі-б хто адшукаў даныя пра гэтыя цікавыя і важныя назіраньні за шэраг гадоў назад, ён зрабіў-бы значную паслугу навуцы.

Наогул, агляд фэнолёгічных назіраньняў па БССР за 1928 год (табл. IX і X) паказвае, што нізавыя краязнаўчыя організацыі і пасобныя краязнаўцы далі значную колькасьць пэўных вестак аб сэзонных зьменах у органічнай прыродзе. Але весткі гэтыя яшчэ недастатковы для якіх-колечы пэўных вывадаў аб біоклімаце нашае краіны. Гэта пакуль што толькі матар'ялы для скарастаньня ў будучым.

Далейшая задача краязнаўчых організацый на мясцох—замацаваць вызначаную ўжо сетку фэнопунктаў (2-3 на раён) і наладзіць сталыя нясупынныя назіраньні і сваечасовую сыстэматычную дасылку іх у акруговае таварыства, або ў ЦБК.

У сучасны момант узгоднена з Белгеофізам (Беларуская геофізычная служба), наладжваецца правядзеньне фэнолёгічных наглядацьняў праз мэтэоролёгічныя станцыі БССР, якіх налічваецца 50. Можна спадзявацца, што весткі з мэтэоролёгічных станцый будуць паступаць у ЦБК сыстэматычна і бяз спыненьня на працягу ўсяго году. Сыстэматычныя фэнолёгічныя нагляданьні за шэраг гадоў побач з мэтэоролёгічнымі павінны зьявіцца пэўным грунтам для вывадаў аб біоклімаце БССР.

---

Д. В.

# Кумысалячэньне на Беларусі.

Цяжкія ўмовы жыцьця на Беларусі, асабліва ў часы царызму, спрыялі разьвіцьцю ў нас соцыяльных хвароб. Мяжа аселасьці заганяла ў наш край і ўцісквала ў цесныя экономічныя асадкі беларускага мястэчка і гораду яўрэйскую беднату. Колёніяльная політыка расійскага капіталізму пакідала Беларусь бяз фабрык і заводаў, бяз відаў на разьвіцьцё вытворчых сіл краю. Віды на Беларусь польскага прамыслова-гандлёвага капіталу таксама ня спрыялі, а затрымлівалі экономічны рост дабрабыту насельніцтва. Пры такіх умовах. зразумела надзвычайна шырокае пашырэньне на Беларусі соцыяльных хвароб. Сухоты займаюць сярод іх першае месца. На 10000 чал. гарадзкога насельніцтва ў 1925 годзе зарэгістравана 507 хворых сухотамі, а ў 1926 г.—558 чалавек [1]).

Нізкі экономічны і культурны ровень насельніцтва спрые пашырэньню соцыяльных хвароб; яны ўзрастаюць за кошт цемры нашага быту, і слабога разьвіцьця дыспансэрызацыі, санаторнае справы ў нас. Нашы прыродныя багацьці толькі што пачынаюць намі выкарыстоўвацца. Маленькая Фіншчына яшчэ пры царызьме патрапіла скарыстаць свае бары для шырокага разгортваньня дачных пасёлкаў і пабудовы санаторый для сухотнікаў.

У нас на Беларусі толькі папы ўсіх вызнаньняў выкарыстоўвалі хараство нашае прыроды. Звычайна над крыніцай у багатым прыродай кутку папы вешалі на дрэве абраз і пашыралі чуткі пра цудадзейную сілу крыніцы. Сялянства тысячамі цянулася ў такія, звычайна прыгожыя, мясьціны папоўскія прыбыткі ўзрасталі з кожным годам. Але ўслаўленасьць тае ці іншае „пяцінкі“, шырата іх раскіданасьці па абшары Беларусі ня могуць тлумачыцца толькі ўмецтвам папоўскае пропаганды; 80% славутнасьці такіх „капліц“ трэба аднесьці за кошт прыроднага хараства мясьціны, чыстаты, мінэральнай прыемнасьці крынічнай вады.

Вывучэньне такіх куткоў і крыніц з лячэбнымі мэтамі—неадкладная задача нашага краязнаўства.

Наша ўсебеларуская санаторыя „Сасноўка“ ў дарэволюцыйныя часы мела шырока вядомую „пяцінку“ для спажывы папоў і шматлікія дачы для панскага прыбытку. Цяпер Сасноўка дае надзвычайна стойкі эфэкт папраўкі хворых з пачаткамі сухотаў. Курорты Крыму звычайна не давалі такога паляпшэньня здароўя за 2 месяцы, як Са-

---

[1]) Пяцігадовы плян разьвіцьця БССР, ст. 265-266.

сноўка за 6 тыдняў. Прызвычаенасьць хворых да клімату Беларусі, бор, смалістае паветра—усё гэта спрыяе бадзёрым настроям хворых і хуткаму паляпшэньню здароўя сухотніка.

Пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР прадугледжвае павялічэньне на 44,1% ложкаў у санаторыях і дыспансэрах Беларусі. Адначасова з колькасным павялічэньнем ложкаў у санаторыях варта падумаць аб якасным паляпшэньні лячэбных узьдзейнічаньняў на хворых. Да ліку такіх сродкаў можна аднесьці кумыс. Кумысалячэньне не навіна для Беларусі. Пасяліўшыся на Беларусі татары занясьлі сюды свой звычайны напітак—кумыс. Але рэлігійны фанатызм шляхты і шматлікага духавенства затрымаў пашырэньне кумысу сярод іншых нацыянальных груп насельнікаў краю. Старадаўныя акты з жыцьця татар, якія досыць падрабязна апісваюць іх звычаі, адзначаюць ўжываньне татарамі кумысу яшчэ ў пачатку 18 стагодзьдзя.

19 стагодзьдзе вызначаецца спробамі паасобных прадпрыемцаў скарыстаць лекавыя якасьці кумысу для ўласнага ўзбагачэньня. Кумыс прадаваўся ў некаторых малочных лавачках вялікіх гарадоў Беларусі: Віцебск, Вільня, Магілеў.

З 1870 году да 1888 г. ў г. Дуброўне, сучаснай Аршанскай акругі, працавала кумысаздароўніца саматужнага тыпу, якая прапускала за лета ад 40 да 200 хворых; за лета некаторыя з іх зусім добра папраўляліся. Здароўніца функцыянавала кожнае лета з 1 траўня па 1 верасьня; кумыс адпускаўся хворым па 3 бутэлькі на дзень, цаной 30 кап. з пасудай. За сэзон 1883 году хворыя выпілі 16000 бутэлек кумысу. Для нагляду за хворымі наяжджаў у Дуброўну доктар з Пецярбургу. Харчаваньне хворых у Дуброўне абыходзілася ў месяц 18 руб., на кватэру—6-10 руб.

У сярэднім кожны сухотнік выпіваў 150 бут. кумысу за месяц. Кумыс абыходзіўся яму ў 45 руб. за месяц, кватэра і харчы—25-35 р., дактары—3-5 руб. месяц. Увесь курс лекаў—75-90 рублёў за месяц. Для прагулак хворым служылі прыгожыя бары ваколіц г. Дуброўны па беразе Дняпра, сады і славутны парк маёнтку Дуброўны.

Для бесьперабойнага забесьпячэньня здароўніцы кумысом было пастаўлена на паплавох у 8 вярстах ад Дуброўны 75 кабыл з жарабятамі; калі прабавалі адымаць жарабят ад матак, то кабылы зараз-жа запускаліся і не давалі больш малака. Організатарам здароўніцы быў мясцовы аптэкар Рэйнгольд з дапамогай землеўласьніка князя Любамірскага. Здароўніца існавала да прыезду ў Дуброўну на часовае жыцьцё сям'і князя. Баючыся сухот, князь ня здаў у арэнду сваіх лугоў, парку, Рэйнгольд прымушаны быў закрыць сваё прадпрыемства[1]).

Саматужнае прадпрыемства сваім посьпехам гаворыць за тое, што нам зусім ня трэба езьдзіць у далёкую Башкірыю для папраўкі ад сухот. 57% усіх хворых, якія былі ў Дубровенскай здароўніцы, зусім паздаравелі. Дубровенскі вопыт можна скарыстаць у дзяржаўным маштабе. Галоўная перашкода—сталы запас кабыльляга малака: кабыла кожную дойку дае толькі $^1/_4$—$^1/_2$ бутэлькі малака. Затым мясцовых кабыл трэба многа, каб ня было перабояў у дастаўцы малака. Два саўгасы можна будзе перавярнуць у базы для забесьпячэньня

---

[1]) Опыт описания Могилевской губернии, т. II, 999 ст.

санаторыя малакам і кумысом. Такую базу можна пабудаваць паблізу Сасноўкі, ці ў якім-небудзь іншым падыхадзячым бары Беларусі. Нашы лугі сваімі прыгожымі пахучымі кветкамі могуць з аднолькавым посьпехам замяніць славутны кавыль башкірскіх стэпаў. Нашым хворым можна будзе папраўляцца ў сваіх звычайных кліматычных умовах.

Нашаму мэдфаку трэба заняцца вывучэньнем гэтага пытаньня.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

М. Самцэвіч.

## Па Барысаўшчыне[1]).

### У в. Забашавічы.

Вёска Забашавічы ляжыць у паўднёвай частцы Барысаўскага раёну ў 29 клм. ад раённага цэнтру пры дарозе Барысаў — Бярэзынь. З паўночнай, заходняй (па р. Рава) і паўднёва-заходняй старон вёску абкружаюць балоты. Навакол Забашавіч яшчэ ў 80-я гады мінулага стагодзьдзя было шмат лясоў, у якіх было „dużo niedźwėdzi i losi“ [2]). Цяпер лясы ў значнай меры высечаны, аб мядзьведзях ужо ня чуваць; ласі да вайны сустракаліся.

Вёска некалі належала да Ванькові́чаў. Каля вёскі знаходзіўся і захаваўся да гэтага часу панскі палац і парк. У палацы цяпер знаходзіцца сямігадовая школа.

У вёсцы налічваецца 148 двароў. Ёсьць сельсавет, сямігадовая школа, хата-чытальня (нясеткавая) з радыё, фэльчарскі пункт, спажывецкая і сельска-гаспадарчая коопэрацыя, мэліорацыйнае таварыства, працуе дзіцячая пляцоўка. У вёсцы ёсьць досыць моцная і аўтарытэтная ячэйка КПБ(б) і ЛКСМ; працуюць розныя гурткі і грамадзкія організацыі. У працы апошніх і коопэрацыі вялікі ўдзел прымае мясцовае настаўніцтва.

Сельска-гаспадарчае крэдытнае т-ва налічвае 352 члены. Зваротны капітал на 1/X 1928 г. быў 9797 руб. 66 кап., а на 15/VI гэтага году— 71.840 руб. 80 кап. Таварыствам разьмеркавана сярод насельніцтва сельска-гаспадарчых машын [3]) і жалезных тавараў на 14598 руб. Таварыствам была організавана гарбарня, якая перададзена арцелі.

У часе вясеньняй пасяўной кампаніі насельніцтву бліжэйшых вёсак выдана насеннага матар'ялу: аўсу — 23141 клгр., ячменю —8602 клгр., сэрадэлі—2969 кгр., вікі—530 кгр., лёну (насеньня)—1122 клгр., лубіну—4873 клгр., канюшыны 111 клгр. Як бачым, на насеньне лубіну для ўгнаеньня і насеньне кармовых траў запатрабаваньне ёсьць, але далёка недастатковае, што сьведчыць часткова і аб недастатковай інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі. Сярод насельніцтва адчуваецца ўсё больш і больш запатрабаваньне на штучнае ўгнаеньне, хаця, да рэчы сказаць, для ўгнаеньня яшчэ зусім ня ўжываецца торф; толькі прабуецца ўжываньне попелу.

Мэліорацыйнае т-ва зорганізавалася толькі ў гэтым годзе і налічвае 80 сяброў. За кароткі час свайго існаваньня т-ва змагло ўжо

---

1) Гл. „Наш Край“ № 11, 1929 г.

2) Słownik Polski Geograficzny, t. XIV, st. 177.

3) Насельніцтва набывала такія машыны, як веялкі, сеялкі, трыеры, сала марэзкі, плугі, бароны.

пракапаць каля 9 клм. канаў для асушкі забалочаных палёў, у значнай меры расьцерабіць хмызьнякі на палёх і лугох. У далейшым мяркуецца распачаць асушку балота.

Побач з старымі, уехаўшымі ў зямлю хатамі з маленькімі вокнамі, ужо будуюцца новыя, прасторныя, з вялікімі вокнамі домікі на прымітыўных падмурках; шэсьць хат ужо пакрыты чарапіцай (наваўвядзеньне ў вёсцы). Прыемна было заўважыць, што паасобныя гаспадары рабілі ўжо цёплыя хлявы (імшоныя сьцены і столь) з ваконцамі. У гародніцкай справе вёска, за апошнія гады, перайшла на градкавы і радавы пасеў. Пасевы рассыпным спосабам мне ня прышлося бачыць. Паасобныя гаспадары імкнуцца сеяць жыта, напр., гатунковым насеньнем (выменьваючы ў суседнім саўгасе Палялюм), але з тае прычыны, што на суседніх палосках расьце звычайнае жыта, адбываецца крыжавое апылкаваньне, і праз 2-3 гады гатунковае збожжа зусім набліжаецца да звычайнага.

У вёсцы ўсё часьцей і часьцей бядняцка-серадняцкай часткай сялянства ставяцца пытаньні аб землеўпарадкаваньні, аб організацыі колектыўных гаспадарак, але практычна ў гэтым кірунку яшчэ вельмі мала чаго зроблена, калі ня лічыць організацыі мэліорацыйнага таварыства. У выгадзе буйное гаспадаркі сяляне ўжо ўпэўніліся на бліжэйшым саўгасе Палялюм, але прыкладу організацыі колектыўнае гаспадаркі паблізу няма, а сяляне хочуць бачыць прыклад, вопыт і прапануюць настаўнікам і іншым культурным і партыйным працаўніком першым організаваць колектыўную гаспадарку.

Пад уплывам працы ячэйкі КПБ(б), ЛКСМ, школы ў вёсцы нараджаюцца новыя формы быту[1]), паляпшаюцца сямейныя і грамадзкія ўзаемаадносіны, жанчыны пачынаюць прымаць удзел у грамадзкім жыцьці, памяншаецца лаянка і г. д.; рэлігійныя забабоны адміраюць.

## Саўгас Палялюм.

З в. Забашавічы да саўгасу спачатку прышлося ісьці праз сялянскія палі, засеяныя жытам. На ўгноеных палёх відаць добры ўраджай. Настаўнік т. Пашкевіч зьвярнуў увагу на адну палоску надзвычайна добрага жыта. „У гаспадара гэтае палоскі ўсюды такі ўраджай“ — зазначыў т. Пашкевіч—„ён вельмі старанны: добра апрацоўвае зямельку, а гной дык аж з Барысава возіць. Іншыя сяляне ўпоражня едуць з гораду, а ён гной або якія-небудзь адкіды вязе на поле... У яго і дома нічога не прападае — сьмяцьцё, лісьцё — усё ідзе ў гной“.

Нізкія мясьціны асушаюцца, пракопваюцца канавы. Зарасьнікі на нізінах расьцярэбліваюцца, пачынаюць распахвацца. „Гэта праца мэліорацыйнага таварыства“ — дадае т. Пашкевіч.

З правага боку ад дарогі, у канцы сялянскіх палеткаў, на ўзгорку ў хмызьнячку некалькі пахавальнага тыпу курганоў; частка іх ужо разворана[2]). Узышоўшы на саўгаскае поле, адразу кінулася ў вочы нібы няўзоранае папарнае поле. Потым высьветлілася, што тут павінна была быць канюшына першага ўкосу, але з прычыны высілка-

---

[1]) Гл. артыкул „Рысы новага быту ў сучаснай народнай поэзіі в. Забашавічы Барысаўскага р., „Наш Край“ № 5. 1929.

[2]) У гэтай мясцовасьці, здаецца, рабіў раскопкі Татур.

ванасьці глебы і засушлівай вясны канюшчына павыгарала. Толькі на нізінках ды на больш угноеных мясцох зелянеюць плямы канюшыны. Авёс у аднэй зьмене нявысокі, радкаваты, зарослы сурэпіцай. Назаўтра (8/VII) мне прышлося бачыць авёс у другой зьмене, які зусім інакш выглядае: роўны, чысты, высокі, бо тут больш сугліністая і больш угноеная глеба. Жыта выглядае добра і суліць ураджай каля 12 цэнтн. з гэктару.

Саўгас Палялюм ляжыць у 3 клм. на ўсход ад в. Забашавічы і організаваўся на месцы былога маёнтку памешчыка Ваньковіча пасьля рэволюцыі. Становішча саўгасу да 1927 г. было досыць кепскае: не хапала будынкаў [1]), жывёлы было мала, угнаеньня ня было, зямля высілкоўвалася і дрэнна радзіла. З прычыны недахопу інвэнтару і кепскай організацыі ўсяе сыстэмы гаспадаркі, адсутнасьці належнага кіраўніцтва зямля ў значнай частцы знаходзілася ў эксплёатацыі сялян суседніх вёсак. З 1927-28 г. становішча саўгасу пачынае паляпшацца ў сувязі з лепшым кіраўніцтвам гаспадаркай і падняцьцем працоўнай дысцыпліны сярод рабочых.

У гэтым годзе гаспадарка саўгасу значна павялічылася з далучэньнем былой колёніі папраўчага дому „Прабуджэньне“(ля в. Слабодка). Апрача гэтага, саўгас мае яшчэ ў в. Гара вадзяны млын.

Асноўнымі галінамі гаспадаркі зьяўляюцца палявая гаспадарка (зернавая культура) і жывёлагадоўля.

Зямельная плошча саўгасу па ўгодзьдзях разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Плошча па ўгодзьдзях у гэкт. / Гаспадаркі | Сядзіба | Гарод | Сад | Пашня | Сенажаць: По-плаўн. | Сенажаць: Балотн. | Выган | Лес | Хмызьнякі | Няўдобіца | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Палялюм . . . | 9,0 | 6,96 | 1,65 | 415,55 | 32,72 | 140,0 | 10,19 | 94,0 | 66,05 | 14,18 | 776,12 |
| Слабодка. . . | 5,89 | 0,83 | 1,0 | 62,26 | 5,45 | 30,52 | 2,75 | 35,43 | 5,45 | 8,58 | 149,56 |
| Усяго . | 14,89 | 7,69 | 2,65 | 477,81 | 38,17 | 170,52 | 12,92 | 129,43 | 71,50 | 22,74 | 925,68 |

Як бачым, значная плошча ячшэ зьяўляецца няўжыткоўнай (няўдобіца, хмызьнякі) альбо малаўжыткоўнай (балотная сенажаць яшчэ неасушаная).

З 1924 г. у саўгасе ў палявой гаспадарцы ўжываецца дзевяціпольны севазварот: 1) жыта азімае, 2) бульба, 3) ярына+канюшына, 4) канюшына (1 г.), 5) канюшына (2 г.), 6) канюшына (3 г.), 7) азімае жыта, 8) ярына і 9) папар.

Досыць характэрным зьяўляецца хістаньне ўраджайнасьці розных культур па гадох у залежнасьці ад якасьці глебы і ступені яе ўгноенасьці; пяшчаная і высілкаваная глеба давала часамі зусім нізкія ўраджаі, як гэта відаць з ніжэйпаданай табліцы:

---

[1]) Паводле слоў рабочых і тыя будынкі, якія былі, разьбіраліся і прадаваліся па загаду былога загадчыка саўгасу; справа даходзіла да прокурора.

| Ураджайнасьць з дзесяціны ў пуд. / Назва культур | 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | | 1927 г. | | 1928 г. | | Сярэдні за 5 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | п. | ф. | п. | ф. | п. | ф. | п. | ф. | п. | ф. | п. | ф. |
| Жыта . . . . . | 53 | — | 69 | 28 | 41 | 12 | 48 | 29 | 38 | — | 52 | — |
| Авёс . . . . . . | 54 | 36 | 47 | 20 | 25 | 02 | 33 | 07 | 42 | 38 | 40 | 24 |
| Бульба . . . . . | 420 | — | 293 | 31 | 630 | 30 | 555 | — | 372 | — | 454 | — |
| Канюшына (насенная) . | 6 | — | 1 | 13 | 1 | 16 | 5 | 07 | 4 | 24 | 3 | 28 |
| Канюшына (сена) . . . | 303 | 28 | 132 | 16 | 49 | 20 | 61 | — | 90 | 28 | 126 | — |
| Сена лугавое . . . . | 30 | 14 | 92 | 23 | 144 | — | 128 | 13 | 86 | 16 | 96 | — |
| Кораньплоды . . . . | — | — | — | — | 506 | — | — | — | 851 | — | 687 | — |
| Сэрадэля . . . . . | — | — | 28 | — | — | — | 13 | 08 | 7 | — | 16 | 3 |

Саўгас яшчэ, як відаць, ня можа пахваліцца сыстэматычным павялічэньнем ураджайнасьці ў пораўнаньні з сярэднімі сялянскімі ўраджаямі (жыта 42—45 пуд. і авёс каля 40—42 пуд.), але ва ўсёй сыстэме гаспадаркі адчуваецца пэўнае ўзмацненьне ў сувязі з палепшаньнем жывёлагадоўлі і лепшай організацыі працы.

У мінулым 1928 г. саўгас здаў па нараду:

Бягомльскаму крэдытнаму таварыству . . 16380 кгр. жыта
Хлебсаюзу . . . . . . . . 9828 „ „
На Бярэзінскі бараварны завод . . . 73710 „ бульбы
Вайсковым часьцям у час манэўраў. . . 16380 „ сена
і абменена 21312 кгр. аўсу мясцоваму насельніцтву.

Продукты гародніны (капуста, буракі, морква і інш.) збываліся ў Барысаўскі ЦРК (на суму 10.000 руб.). У гэтым годзе закантрактаваны ўраджай капусты, бульбы, морквы, сталовых буракоў і гуркоў. Што да садоўніцтва, дык яно прамысловага значэньня ня мае і задавальняе толькі запатрабаваньні саўгасу.

У апошнія два гады зьвернута вялікая ўвага на апрацоўку глебы і ўгнаеньне. У гэтым годзе пад лубін засеяна 30,25 гэкт., атрымана і ўнесена штучнага ўгнаеньня:

Супэрфасфату . . . . . . 2170 кгр.
Касьцяной мукі. . . . . . 12500 „
Попелу . . . . . . . 3276 „
Фасфарытнай мукі . . . . . 16500 „
Сульфатамонія. . . . . . 1000 „

Штучнае і зялёнае ўгнаеньне ў гаспадарцы саўгасу набывае асабліва вялікае значэньне ў сувязі з недахопам натуральнага ўгнаеньня дзеля недаходу саломы для подсьцілу.

Апрацоўка зямлі значна палепшылася з набыцьцём трактара і павялічэньнем ліку рабочых коняй (35 у Палялюме і 7 у Слабодцы).

Сельска-гаспадарчым інвэнтаром саўгас забясьпечаны. У сучасны момант у саўгасе ёсьць такі інвэнтар:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Трактар | 1 | Малатарань (розных) | 3 |
| Плугоў | 39 | Трыер | 1 |
| Барон зыг-заг. | 33 | Барон іншых сыстэм | 12 |
| „ спружыновых | 8 | Акучнікаў | 11 |
| Дыскавая барана | 1 | Грабель конных | 2 |
| Сеялак радавых | 1 | Бульбакапацеляў | 2 |
| „ рассыпных | 2 | Ільнатрапалак | 1 |
| „ дыскавых | 1 | Кораньрэзак | 1 |
| Жняярак | 4 | Саламарэзак | 2 |
| Касілак | 3 | і інш. | |
| Веялак і сартовак | 5 | | |

Частка машын папсавалася ўжо і патрабуе рамонту. З-за нядбайнасьці і непадрыхтаванасьці памоцніка машыніста-трактарыста вясной гэтага году папсаваны трактар, які знаходзіцца ў рамонце (у Менску). У даным выпадку яшчэ лішні раз падкрэсьліваецца неабходнасьць падрыхтоўкі тэхнічных кадраў у буйныя савецкія і колектыўныя гаспадаркі.

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі характарызуецца наступнай табліцай (на 1 студзеня кожнага году):

| НАЗВА ЖЫВЁЛЫ | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Коняй (рабочых) | 5 | 14 | 26 | 22 | 25 | 35+7 | 7 коняй атрымана з б. калёніі ў Слабодцы. |
| Жаробкаў | 1 | 2 | 1 | — | — | (?) | |
| Конскага маладняка | — | 6 | 11 | 13 | 11 | 5 | |
| Кароў | 3 | 14 | 11 | 15 | 24 | 67 | |
| Рагатага маладняка | 1 | 15 | 11 | 8 | 13 | 38 | |
| Валоў (рабочых) | 22 | 23 | 21*) | — | — | — | *) Пасьля набыцьця трактару валы, як рабочая сіла, ня ўжываюцца. |
| Быкоў-вытворнікаў | – | — | 1 | 1 | 2 | 4 | |
| Авечак | 5 | — | — | — | — | — | |
| Сьвіней | 3 | 9 | 6 | 5 | 2 | 4 | |
| Парасят | 5 | 9 | 3 | — | 3 | — | |
| Кныроў-вытворнікаў | — | — | — | — | — | 3 | |

Саўгас яшчэ ня ўзяў пэўнага кірунку на тыя або іншыя пароды жывёл. Так, каровы ў саўгасе мяшанай пароды, бык-вытворнікі сэмэнтальскай і яраслаўскай пароды; коні—палепшанай мясцовай пароды, сьвіньні—ёркшырскай пароды.

Калі саўгас узяў ужо пэўны кірунак на павялічэньне і палепшаньне рагатае жывёлы, а таксама і коняй, дык гэтага нельга сказаць адносна сьвіней, а між іншым саўгас мае ўсе магчымасьці для разьвіцьця сьвінагадоўлі. Гэта было-б карысна для падняцьця гаспадаркі, а таксама ў пэўнай меры гэта патрэбна было-б і для разьвіцьця сьвінагадоўлі ў вакольных вёсках.

Сярэдні гадавы ўдой каровы ў 1927 г. быў каля 1350 кгр., а ў 1928 г.—каля 1630 кгр. Малако на месцы пераапрацоўваецца ў масла, якое збываецца ў Барысаўскі ЦРК.

Прамысловымі прадпрыемствамі саўгасу зьяўляюцца: вадзяны млын у в. Гара, паравы ў саўгасе Палялюм і тут-жа сукнавальня, цыркулярка; вадзяны млын і лесапільная рама ў Слабодцы, маслабойня ў Палялюме. За 1927 г. млыны ў Палялюме і в. Гара перамалолі 1117 тон зерня. Усе прадпрыемствы ў 1928 г. былі прыбыткоўны для саўгасу за выключэньнем млыну ў Палялюме.

Асноўны капітал саўгасу роўны 72884 руб. 24 к., запазычанасьць (Белсельтрэсту) на 1/IV—36133 руб. 26 к.

Рабочых у саўгасе налічваецца 40 чал. (37 мужч. і 3 жанч.) штатных і 28 сэзонных (14 м. і 14 ж.). Зарплату штатныя рабочыя атрымліваюць па 3-х катэгорыях: па першай—35 руб. 70 кап. у месяц, па другой—31 руб. 45 кап. і па трэцяй—26 руб. 35 кап. [1]). Хлеб і продукты сельскай гаспадаркі (бульбу, гародніну) рабочыя атрымоўваюць па цьвёрдых цэнах. Амаль усе сем'і рабочых маюць невялічкія гародчыкі (каля 150 кв. саж.), гадуюць сьвіней. Кожны штатны рабочы мае права на 1 падводу ў г. Барысаў. Матар'яльнае становішча рабочых неаднолькавае: сем'і, дзе ёсьць 2-3, а то 3-4 рабочых, жывуць досыць добра, тыя-ж семь'і, дзе едакоў шмат, а рабочых 1-2, жывуць значна горш. Гэтая неаднолькавасьць у матар'яльным становішчы сем'яў рабочых выклікае часамі непажаданыя сваркі паміж жанчынамі.

Жывуць рабочыя ў пабудаваных да рэволюцыі хатах для батракоў. Хатнія ўмовы патрабуюць значнага палепшаньня: пашырэньня жылой і сьветлавой плошчы, забясьпечаньня лепшым абсталяваньнем і інш. [2]). Кожная сям'я вядзе сваю асобную гаспадарку, мае сваю асобную кухню (печ). Хатняя праца (асабліва зімой) у сем'ях таксама неорганізавана, як і ў вёсках, і ў колгасах. Белселькустпромсаюзу трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на організацыю хатняе працы, на організацыю кустарных промыслаў і на іх пашырэньне, што прадбачана і ў пяцігадовым пляне.

Адносіны рабочых да працы ў саўгасе, да дзяржаўнай маемасьці за апошнія 3 гады значна палепшыліся. Ад сялян суседніх вёсак мне прышлося чуць такія заўвагі: „Рабочыя працуюць сумленна... Скаціну даглядаюць, як гаспадары, ня тое, што было калісь раней...“ Тое-ж прыблізна пацьвердзілі загадчык саўгасу і старшыня рабочкому. Працоўная дысцыпліна значна паднялася. Рабочыя самі і рабочком вядуць барацьбу з прагуламі, з нядбайнымі адносінамі да працы.

Досыць актыўны ўдзел прыймаюць рабочыя ў вытворчых нарадах. На аднэй з такіх нарад, калі абгаварвалася пытаньне аб соцыялістычным спаборніцтве саўгасу, мне давялося быць. Абгаварвалі падзелавому дружна ўсёй сям'ёй, рабочком, рабочыя, загадчык саўгасу. Крытыкавалі Белсельтрэст, які да гэтага часу ня даў пэрспэкцыйнага пяцігадовага пляну, без чаго цяжка орыентавацца і пры складаньні пляну разьвіцьця паасобных гаспадарак [3]); усебакова абгаварвалі, па некалькі разоў прымервалі, наколькі можна будзе павялічыць ураджай

[1]) Сэзонныя жанчыны—работніцы атрымоўваюць 21-25 руб. у месяц.

[2]) У пэрспэктыве ў бліжэйшыя пяць год ёсьць на ўвазе пабудаваць адзін спэцыяльны дом для кватэр рабочых.

[3]) А прадстоўнік Белсельтрэсту, калі я сказаў яму аб гэтым, заўважыў: „Мала бываюць у Менску. Там пяцігадовы плян ёсьць“. Выходзіць, што ўсе саўгасы павінны пасылаць спэцыяльна людзей у Менск знаёміцца з пяцігадовым плянам. А ці ня трэба гэты плян, аб якім на мясцох ня ведаюць (ня толькі ў Палялюмскім саўгасе), разаслаць на месцы ды популярызаваць яго шырэй сярод рабочых саўгасаў?! Відаць і Белсельтрэст яшчэ не пазбавіўся чыноўнічага бюрократызму.

розных культур. У выніку абгаварэньня была заключана з Бярэзінскім саўгасам умова аб социялістычным спаборніцтве: на працягу пяці год павялічыць ураджай жыта на 55%, аўсу—на 75%, канюшыны (сена—на 35% і насеньня на 100%), бульбы—на 80%, сенажацяй—на 15%, караньплодаў—на 150%, сэрадэлі—на 50%; працоўную дысцыпліну павялічыць да 100% (дасягнуць максымальнай продукцыйнасьці працы); колькасьць жывёлы павялічыць да 200 штук (цяпер 115), пашырыць плошчу пад хмелем з 5,5 гэкт. да 10; да працягу 2-х год ліквідаваць няпісьменнасьць сярод дарослага насельніцтва (да 45 год).

Тая сур'ёзнасьць, з якой абгаварвалася пытаньне соцыялістычнага спаборніцтва і дасягненьні апошніх двух год зьяўляюцца да пэўнай меры гарантыяй таго, што задачы, пастаўленыя ў парадку соцыялістычнага спаборніцтва, рабочымі саўгасу будуць выкананы.

Усе штатныя рабочыя саўгасу зьяўляюцца членамі саюзу Рабземлесу. Членаў партыі 2 і 2 кандыдаты; у ячэйцы ЛКСМБ—10 чал. У саўгасе праз усю зіму працаваў профгурток, які наведвалі ўсе рабочыя. У гуртку вывучаўся кодэкс законаў аб працы, статут саюзу, колдагавор і інш.; у палітгуртку (35 чал.) абгаварваліся пытаньні бягучай палітыкі, пастановы VI конгрэсу Комінтэрну, 16 партконфэрэнцыі Усе КП(б) і 12 зьезду КПБ(б); драмгурток рыхтаваў пастаноўкі і ставіў спэктаклі ў дні рэволюцыйных сьвят; на жаль, слаба працаваў сельска-гаспадарчы гурток. Рабочых вельмі цікавілі кінопастаноўкі (кіноперасоўка працавала раз у месяц). Паступова разгортвае сваю працу ячэйка бязбожнікаў. Рэлігійныя абрады ў саўгасе зжываюцца канчаткова; нараджэньні, шлюбы і іншыя моманты ў жыцьці рабочых абыходзяцца без папа.

У саўгасе ёсьць сеткавая школа, у якой навучалася 40 вучняў (дзяцей рабочых 25 і 15 дзяцей з бліжэйшых вёсак); працавала вячэрняя школа для дарослых (24 ч.). Няпісьменных у саўгасе (да саракагадовага ўзросту) налічваецца 10 чал. (прыбыўшых з вёсак батракоў). Ёсьць у саўгасе і бібліотэка ў колькасьці 500 экзэмпляраў кніг (белетрыстыка, літаратура па палітычных і профэсыйных пытаньнях і па сельскай гаспадарцы); чытаецца пераважна навейшая мастацкая літаратура на расійскай і беларускай мовах.

Саўгас у гэтым годзе правёў наступную працу сярод мясцовага насельніцтва (да г. г. праца была вельмі слаба організавана): ачышчана 77 тон насеньня для сямян, аказана дапамога бядняцкім гаспадаркам у вясеньнюю пасяўную кампанію (30 конядней), прыпушчана да вытворнікаў: 4 кабылы, 32 каровы, 16 сьвіней бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак; у кузьні адрамантавана 14 плугоў, 1 барана і 8 калёс. Апрача таго, сувязь саўгасу з ваколічнымі вёскамі падтрымлівалася яшчэ тым, што ў вёсках праводзіліся сходы, гутаркі аб палепшаньні сельскай гаспадаркі і павялічэньні ўраджайнасьці.

У далейшым саўгас павінен: 1) перайсьці на пэўную плянавую працу ў разьвіцьці гаспадаркі; 2) паставіць на належную вышыню жывёлагадоўлю, організаваць малочную гаспадарку з апрацоўкай продуктаў на месцы, разьвіць сьвінагадоўлю; 3) дабіцца павялічэньня ўраджайнасьці зернавых культур і бульбы і пабудаваць на месцы крухмальню; 4) павялічыць ужываньне больш складаных машын і палепшыць апрацоўку і ўгнаеньне глебы; 5) пабудаваць больш адпаведныя жылыя будынкі для рабочых, хлявы для скаціны і сьвіран для захаваньня збожжа, у чым адчуваецца вострая патрэбна; 6) палепшыць культурнае абслугоўваньне рабочых, зьліквідаваць ня-

пісьменнасьць і дабіцца павялічэньня тэхнічных сельска-гаспадарчых ведаў у рабочых; 7) пашырыць і паглыбіць сувязь з насельніцтвам вакольных вёсак, узяўшы пэўны кірунак на павялічэньне продукцыйнасьці сялянскай гаспадаркі, на колектывізацыю індывідуальных сялянскіх гаспадарак, скарыстоўваючы для гэтых мэт машыны саўгасу (трактар, трыер і інш.). Часткова гэтыя задачы ўвайшлі ў плян соцыялістычнага спаборніцтва саўгасу. З боку Белсельтрэсту патрэбна належная агрономічная дапамога і кіраўніцтва саўгасам, а не выпадковыя наезды і агляды саўгасу для справаздач у цэнтры.

**Вёска Чарневічы.**

У адлегласьці 4,5 км. ад саўгасу Палялюм у ўсх.-ўсх.-паўдн. кірунку па дарозе на м. Чэрняўку распаложана в. Чарневічы пры р. Чапа, правай утоцы р. Бярэзіны. На р. Чапа пры ўваходзе ў вёску знаходзіцца невялікі вадзяны млын. Рэчка тут няшырокая (каля 6-7 м.), з нізкімі балоцістымі берагамі. Самая вёска распаложана ў нізіне; вуліца вясной і ўвосень, а таксама і ўлетку пасьля дажджоў гразкая і праехаць па ёй досыць цяжка.

У вёсцы налічваецца каля 50 двароў. Хаты ў большасьці старыя, двары гразныя. Насельніцтва (беларусы) займаецца амаль выключна земляробствам і толькі часткова заработкамі ў лесе. У вёсцы налічваецца 317,4 гэкт. пахаці і 124,4 гэкт. сенажацяй; кароў—159, коняй—70, авечак 116 і сьвіней 162; пабочныя заняткі насельніцтва вылічваюцца ў суме каля 8000 руб. у год. Глеба глiністая і, праходзячы па полі, відаць досыць добрыя ўраджаі жыта і ярыны. Зусім мала сеецца лубіну і кармовых траў. У вёсцы пануе трохпалёўка з часткова занятым папарам. Новым у вядзеньні сельскай гаспадаркі зьяўляецца ўжываньне ачысткі насеньня, пасеў (хаця і зусім нязначнай колькасьці) кармовых траў (канюшына). Дапаможныя галіны сельскае гаспндаркі—садоўніцтва, гародніцтва і пчалярства ў вёсцы ня разьвіты.

Вёска культурна расьце, імкнецца да будаўніцтва новага жыцьця, ня гледзячы на розныя скаргі і нараканьні старых на кепскае жыцьцё. У вёсцы ёсьць сельсавет, школа, пажарны будынак і прылады,—2 бочкі, насос, багры, вёдры і інш.

8-VII мне прышлося папасьці на сялянскі сход, які адбываўся ў адзіным пакуль у вёсцы грамадзкім будынку, які прыстасаваны для ўсіх мясцовых патрэб: для захаваньня пажарных інструмантаў, для сходаў, дакладаў, спэктакляў (на летні час) і інш. На сходзе абгаварваліся актуальныя пытаньні: пастановы XIV партконфэрэнцыі аб падвышэньні ўраджайнасьці і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, аб організацыі тарфянога таварыства і аб організацыі дапамогі цяжарным жанчынам. Сход праходзіў пры ўдзеле прадстаўніка рабочых Н.-Барысаўскага дрэваапрацоўчага заводу „Розы Люксембург". Моладзь цалкам далучаецца да пастаноў XVI партконфэрэнцыі і лічыць, што коопэрацыя і колектывізацыя—адзіны выхад вёскі з яе цяжкага становішча. У выступленьнях старых чуваць ноты пэсымізму, няўпэўненасьці ў магчымасьці хуткага падняцьця ўраджайнасьці.

„45 гадоў я ўжо бачыў лубін і ведаў, зачым ён... Але сеяць няма дзе,—бульбы недзе пасеяць: 15 пуд. пасеяў, а 10 засталася. А вы ўсё лубін лубін" выказваецца адзін з „консэрватараў", якія лічыць, што толькі павялічэньне пахатнай плошчы індывідуальных гаспадарак палепшыць

жыцьцё вёскі. Супроць такіх поглядаў рашуча выступае моладзь, комсамольцы.

На вялікі жаль, вялікае і блізкае для сялян пытаньне формулюецца ў доўгую, заблытаную і малазразумелую для сялян рэзолюцыю з ужываньнем такіх выказаў, як „*аргарна*-індустрыяльная краіна“ і інш. Так і ў дакладах: многа слоў, сказаў, выхваченых з газэты і зусім мала рэальных і фактычных даных, расказаных проста і ясна. І ў галаве застаецца думка, што мы куды большыя посьпехі мелі-б у працы з сялянамі, каб умелі ім лепш *паказаць* і *расказаць*, як трэба будаваць новае жыцьцё, новую гаспадарку, чым наогул гаварыць аб гэтым. Вось прыклад. У бліжэйшай вёсцы Восаве ў мінулым годзе організавалася агнятрывалае таварыства, якому ўдалося добра паставіць справу заводу па вырабу чарапіцы, і гэты прыклад заахвочвае сялян вёскі Чарневічы організаваць тарфяное таварыства. Асушка 600 гэкт. балота, пэрспэктыва здабычы торфу для ўгнаеньня і апалу ня толькі сваёй вёскі, але і заводаў Н.-Барысава—выклікаюць толькі некаторыя заўвагі скептыкаў і прымаюцца сходам як зусім магчымыя для выкананьня задачы ў бліжэйшыя гады.

### Па дарозе ў Чэрняўку.

Ня ўсе ў Чарнявічах прымаюць удзел у грамадзкім жыцьці: адны на сходзе вырашаюць важныя справы, а другія сядзяць на прызбах, гутараць аб хатніх справах. Адзеты больш-менш пасьвяточнаму (была нядзеля): хлапцы ў фрэнчах, чорных штанох і гамашох або ботах; старыя ў лапцёх, белых або фарбаваных зрэбных штанох, саматканых кароткіх сьвітках; у мужчын сярэдняга ўзросту—вопратка з палатна і сукна хатняга вырабу мяшаецца з вопраткай фабрычнага вырабу; можна, напр., убачыць мужчыну ў ботах, купленых штанох (верхніх), белай рубашцы і ў сьвітцы. Бялізна як у мужчын, так і ў жанчын звычайна з палатна свайго вырабу, верхняя частка кужэльная, а ніжняя—зрэбная. Але трэба сказаць наогул, што ў Барысаўшчыне крамніна для верхняй летняй вопраткі з кожным годам выціскае тканіну хатняга вырабу (чаго нельга сказаць аб зімовай вопратцы).

Дарога ў Чэрняўку праходзіць спачатку праз поле, хваёвы бор, зноў невялікае поле і досыць стромка спускаецца ў шырокую даліну р. Бярэзіны. На схіле высокага правага берагу ракі, пакрытага лесам, раскінулася захаваная ў лесе в. Мурава. Мясцовасьць тут досыць прыгожая: шырокая даліна Бярэзіны, па якой нібы гадзюка зьвіваецца і робіць выкрутасы рака з парослымі лазой і вольхай берагамі, высокі хвалісты і пакрыты лесам правы бераг, праз раку новы вялікі мост у м. Чэрняўку з рэчнай прыстаньню. „Z jednej strony wsi leży ogromne swentarzysko przedchrzes (kurgany), z drugiej zaś nad stromym brzegiem rz. Berezyny starożytne okopy, które dzisiaj włościanie nazywają zamkiem“ [1]). Курганы я бачыў праездам зімой два гады таму назад.

### М. Чэрняўка.

Насупроць в. Мурава на левым беразе р. Бярэзіны, недалёка ад вусьця р. Бабра ляжыць м. Чэрняўка, у якой налічваецца каля 350 ч. насельніцтва. У „Słowniku geograficznym“ мы знаходзім указаньне на

[1]) Słownik geograficzny, t. VI, ст. 808.

тое, што ў мястэчку „wszyscy są izraelici i trudnią się handlem... mieszkańcy płacą czynsz po rs. 6 rocznie za każdy płac 400—sażniowy kwadra“. (t. I, ст. 820). Такім чынам выходзіць, што ў 80-х гадох мястэчка заселена было выключна яўрэямі, якія плацілі чынш і займаліся гандлем. У сучасны момант у мястэчку (на акраіне) жыве каля 10 двароў беларусаў, якія займаюцца земляробствам. Зямельная плошча разьмяркоўваецца наступным чынам: пахаці 52,92 гэкт., сенажаці 36,05 гэкт.; жывёлы ў 1927 г. налічвалася: коняй—26, кароў—88, авечак—2, сьвіней—31 [1]). Раней да рэволюцыі яўрэйскае насельніцтва, паводле слоў старажылаў, запраўды шырака займалася гандлем. Гэтаму спрыялі экономічна-географічныя ўмовы: палажэньне мястэчка на суднаходнай рацэ, прыстань, скрыжаваньне найбольш буйных прасёлачных дарог з пераправай праз Бярэзіну; м. Чэрняўка звычайна было і застаецца значным сплаўным пунктам. Сплаў лесу на Украіну па р. Бабру невялікімі партыямі плытоў тут заканчваўся, плытагоны „практыканты“ варочаліся назад у свае вёскі, а спэцыялісты перавязвалі плыты ў „лавы“ [2]) Бярэзінскага маштабу і гналі да Крамянчуга.

Чэрняўка здаўна была вядома сваімі ганчарскімі вырабамі. У тым-жа „Słowniku geograficznym“ пішацца, што „Cwerniawka słynie na całą gubernią z wyrobów ganczarskich“ (t. I, st. 820). Да рэволюцыі чэрняўская „паліва“ (ганчарскія вырабы—гаршкі, гладышы, міскі) развозілася па ўсім былым Барысаўскім павеце. Цяпер гэтая справа значна падупала, хаця цалкам і ня спынілася. Гандлёвае значэньне мястэчка ў значнай меры страцілася ў сувязі з адчыненьнем аддзяленьня коопэратыву, але дробны прыватны гандаль зусім ня спыніўся. Насельніцтва ў значнай меры занята ў лесазагатоўках, шмат служачых. Неземляробскі прыбытак у мястэчку ў мінулым годзе вылічаны ў 18.303 руб. (358 чал.).

Ваколіцы мястэчка досыць прыгожыя. Блізка лес. Кожнае лета ў мястэчку бывае 15—20 чал. дачнікаў. У мястэчку за апошнія гады пабудавана некалькі прыгожых драўляных дамоў; найлепшыя з іх дом фэльчара і сынагога. Каля дамоў відаць розныя дэкарацыйныя дрэвы і кусты.

У мястэчку ёсьць аддзяленьне Азьдзяціцкага спажывецкага коопэратыву, фэльчарскі пункт, клюб і чытальня для служачых лесазагатоўчай канторы і рабочых па эксплёатацыі лесу, вядзецца партыйная праца, працуе ўжо 3 гады яўрэйская школа і ў мінулым годзе адбудованы новы вялікі дом для сынагогі, у той час калі школа знаходзіцца ў наёмным будынку. Самы факт узьнікненьня ў мястэчку такой „культурнай“ установы як сынагога, у той час як у вакольных вёсках рэлігія замірае, цэрквы пусьцеюць і занепадаюць, сьведчыць аб настроях мяшчанскіх мас мястэчка і грамадзкай працы сярод насельніцтва.

У 80-я гады мінулага стагодзьдзя каля м. Чэрняўка яшчэ існавала фабрыка па вырабу жалеза. Аб ёй ёсьць наступныя весткі: „O wiorctę od osady nad rz. Bobren leży fabryka żelaza, założona przez ks. Leona Radziwiłła; przy niej są domy porządnie zbudowane, nawet jest kilka murowanych. Fabryka składa się z huty, walkowni i tokarni; wszystko za pomocą pary. Wyrób żelaza obecnie zawieszony. Przy fab-

[1]) Паводле даных ападаткаваньня 1928 г.

[2]) Вёска Лаўніца ў вусьці Бабра атрымала, трэба думаць, сваю назву ад слова „лава“, хаця мясцовае насельніцтва выводзіць чамусь назву „Лаўніца“ ад нібы быўшай раней назвы вёскі „Слаўніца“ (слаўная, добрая для жыцьця вёска).

ryce na rzece Bobrze jest tartak, w ktòrym rocznie piłuje się do 40000 kłód drzewa... Fabryka napszód należała do dóbr borysowskich ks. Radziwiłła, po roku 1857 do wielkiego ks. Mik. Mik., a w r. 1878, po przejściu dòbr borysowskich na skarb, fabryka została przy obszarze 240 mòrg. ziemi i obecnie jest własnością Wasiliewa" (Słown. Geogr., t. I, st. 820). Як бачым, існаваў цэлы прамысловы комбінат, досыць выгодны для прыватнаўласьніцкай гаспадаркі, якая на месцы мела ўсю патрэбную для фабрыкі сыравіну (балотную жалезную руду, дрэва і інш.) і да 1861 г. дармовую, а потым вельмі танную рабочую сілу.

Мне ня ўдалася дакладна даведацца аб часе і прычынах зачыненьня фабрыкі. Трэба думаць, што адсталасьць тэхнікі, нізкая якасьць продукцыі вырабу, параўнаўча нявыгодныя транспортныя сродкі, уздаражаньне рабочых рук і зьмяншэньне запасаў сыравіны былі асноўнымі прычынамі зачыненьня фабрыкі, якая не магла ўжо конкураваць з буйнымі фабрыкамі навейшага тыпу. Цяпер на месцы фабрыкі і належных да ея будынкаў засталіся адны руіны ды кучы адкідаў (выгаркі) на левым беразе Бабра. Гэтымі-ж адкідамі высыпаны дарогі ў кірунку на Мурава-Чарневічы, Вяляцічы, Азьдзяцічы (на працяжнасьці каля 1 клм.).

### Вёска Азьдзяцічы.

Дарога ў в. Азьдзяцічы перасякае нізкую, балоцістую, пакрытую балотнай расьліннасьцю, даліну Бабра (кілёмэтрах у двух ад яго ўтоку ў Бярэзіну), дзе ён падзяляецца на некалькі рукавоў. Вясной гэтага году ў часе вясеньняга разьводзьдзя Бабра вада ў некалькіх мясцох размыла дамбу, якая была пракладзена на працяжнасьці каля 2 клм. Амаль да самае вёскі дарога ідзе лесам з невялікімі развораными палянкамі, на якіх пабудаваны малюсенькія хаткі.

Вёска Азьдзяцічы выцягнулася з поўначы на поўдзень у дзьве вуліцы, паміж іх раўчак і выган, які кожны год усё больш і больш займаецца пад гародчыкі. Адна вуліца цягнецца да 3 клм. у даўжыню. Вёска распаложана ў нізіне, вуліцы надзвычайна гразкія, месцамі выбрукаваныя гальлём і тонкімі бярвенчыкамі. Увосень і весну па вёсцы ня толькі праехаць, але і прайсьці вельмі цяжка. У вёсцы ёсьць некалькі невялічкіх садоў.

Азьдзяцічы зьяўляюцца серадняцка-бядняцкай вёскай з агульным лікам 1535 чал. насельніцтва, якое займаецца земляробствам. Паводле падатковай ведамасьці ў вёсцы ў 1928 г. налічвалася 923,40 гэкт. пахатнай зямлі (пасеву 664,6 гэкт.), 241,65 гэкт. пад заліўнымі і 42,85 гэкт. пад сухадольнымі сенажацямі; жывёлы налічвалася: коняй 260 і 14 шт. маладняка, кароў 407 і 39 шт. маладняка, сьвіней 423 і авечак 412; пчол—17 сем'яў. Неземляробскі прыбытак вёскі вылічваўся ў 30038 руб. У вёсцы застаецца трохпалёвая сыстэма гаспадаркі з вельмі слаба пашыранай культурай кармовых траў. Асноўнымі палявымі культурамі зьяўляюцца, як і ў іншых суседніх вёсках, жыта, авёс, ячмень, бульба.

У вёсцы ёсьць сельсавет, спажывецкая коопэрацыя, двухкомплектная школа (у б. папоўскім доме). Вёска з даўных гадоў была вядома тым, што ў ёй было пашырана п'янства, ад чаго яна не пазбавілася яшчэ і да гэтага часу, ня гледзячы на пэўныя культурныя дасягненьні: пашырэньне пісьменнасьці, павялічэньне актыўнасьці ў грамадзкім жыцьці, удзел у розных політычных компаніях.

Паводле слоў старажылаў вёска Азьдзяцічы знаходзілася раней (яшчэ ў часы прыгоннага права) у іншым месцы, кілёмэтрах у 3-4 на паўн.-захад, дзесь бліжэй да р. Вейніца, (па 3-х вёрсн. карце) але па загаду кіраўніка маёнткамі кн. Радзівіла сяляне мусілі перабрацца на новае месца. Адносна прычын такога перасяленьня ўсёй вёскі існуе некалькі вэрсій: паводле аднэй з іх—сяляне былі пераселены бліжэй да жалезнай фабрыкі, аб якой гаворылася вышэй, паводле другой — высяленьне было зьвязана з нейкім непаслушэнствам сялян да выкананьня прыгоньніцкіх абавязкаў [1]).

Па дарозе Азьдзяцічы — Барысаў я спыніўся толькі 9/VII у яўрэйскім калгасе „Новы мір“ (Мяччанскага с/с.).

## Колгас „Новы мір“ [2]).

Колгас „Новы мір“ організаваўся ў мінулым 1928 г. у складзе 5 яўрэйскіх сем‘яў, але адна сям‘я ужо вышла з колектыву, засталося 4 сям‘і. Колектыў атрымаў 43 гэктары зямлі з-пад толькі што высечанага лесу. Трэба было працу пачынаць з самага пачатку: выкарчаваць пні, узьняць цаліну, засеяць пабудаваць самыя неабходныя будынкі, каб можна было дзе распачаць жыць, паставіць жывёлу. На будоўлю колектыў атрымаў 3300 руб. крэдыту і 80 руб. беззваротнай пазыкі на раскарчоўку. З гэтымі сродкамі ды з паявымі ўзносамі па 170 руб. з сям‘і колектыў і распачаў сваю працу.

Да цяперашняга часу колектыў пабудаваў 3 хаты, сырабойню, хлеў для скаціны, калодзеж, будуе лазьню. Будынкі яшчэ не закончаны, няма абсталяваньня. Але праца ідзе. Да восені колгасцы думаюць закончыць усе будынкі, паставіць печы ў хатах, абсталявацца.

У колектыве цяпер 4 каровы, двое коняй. Раней было 6 коняй, але 4 прадаты на розныя патрэбы, на будынкі. Ёсьць самы неабходны сельска-гаспадарчы інвэнтар: плугі, бароны, калёсы і інш. „Працаваць можна“, кажуць колектыўцы.

Колектыў у мінулым годзе змог засеяць жытам 10 гэктараў. Жыта досыць добрае. Вясной 20 гэктараў засеяна аўсом, лубінам, бульбай. 10 гэктараў яшчэ ня выкарчавана і не распахана. Зямля яшчэ не разьбіта на палі, не ўстаноўлены плодазьмен. Цяпер фактычна існуе двухпалёўка: пасьля зьняцьця ярыны колектыўцы думаюць сеяць жыта, жытнюю зьмену рыхтуюцца засеяць ярыной. Агрономічнага кіраўніцтва ня відаць, а колектыўцы, ранейшыя шаўцы, кавалі весьці гаспадарку належным чынам ня ўмеюць. Адсутнасьць своечасовай агрономічнай дапамогі можа ня толькі значна пашкодзіць разьвіцьцю гаспадаркі колгасу, але і самому колгаснаму руху ў раёне, бо вакольнае насельніцтва яшчэ падазрона глядзіць на колектыўныя гаспадаркі і для пераконаньня яго ў выгоднасьці колектыўнае гаспадаркі, патрэбна было-б як найлепш паставіць гаспадарку маладога колгасу. А між тым, у той час як сяляне ўжо перайшлі да радковага пасеву гародніны (морквы, буракоў і інш.), у колектыве мы бачым яшчэ рассыпны характар пасеву. Няма ў колгасе ні кармовых траў, ні караньплодаў.

---

[1]) Такія перасяленьні вёсак адбыліся і ў іншых месцах б. Барысаўскага павету, напр., в. Дакудава (цяпер Крупск. Аршанск. акр.), дзеля чаго цікава было-б дасьледваць запраўдныя прычыны такіх перасяленьняў.

[2]) Справа ад дарогі паміж вёскамі Мечча і М. Ухалодай.

Колектыў мог-бы разьвівацца і мацнець, калі-б там належным чынам весьці гаспадарку. На вялікі жаль, у колектыве няма згоды. Паміж сябрамі ідуць спрэчкі, сваркі. Адны сябры ўпікаюць другіх у нядбайных адносінах да працы, у гультайстве, у крадзежы, у няўменьні працаваць і г. д. Часамі справа даходзіць чуць не да боек, хаця ўсе сем'і знаходзяцца ў сваяцтве. Сябры колектыву вельмі слаба знаёмы з сельска-гаспадарчаю працай, малапісьменны, або і зусім няпісьменны. Мала гэтага. У колектыве: жывуць і працуюць сыстэматычна толькі 4 сябры (па аднаму ад кожнае сям'і), а ўсе іншыя члены сем'яў жывуць у Барысаве і іншых мясцох. Гэта зусім ненормальна. Праца ў колектыве не зьяўляецца асноўнай працай усяго колектыву. Продукты ўраджаю ідуць на харчаваньне членаў сем'яў, якія ў працы колектыва прымалі нязначны ўдзел або і зусім ня прымалі.

Колектыўная гаспадарка зьяўляецца толькі дапаможным сродкам існаваньня сем'яў, якія цалкам не адданы колектыўнай гаспадарцы. Сябры колектыву не пазбаўлены яшчэ рэлігійных забабонаў; на сьвяты некаторыя ходзяць у Барысаў на 2-3 дні; сьвіней ня трымаюць. У колектыў хочуць уступіць некаторыя сем'і беларусаў, але колектыўцы ўсё яшчэ разважаюць, ці добра гэта будзе. Умовы для разьвіцьця колгасу ёсьць. Першыя цяжкія этапы разьвіцьця гаспадаркі пройдзены, хаця з значнымі недахопамі і памылкамі. У далейшым трэба дапамога з боку парторганізацый у зжыцьці індывідуалізму, у наладжаньні колектыўнага жыцьця; у вялікай меры патрэбна агродапамога і кіраўніцтва. Трэба, каб колектыўная гаспадарка ўцягнула ў працу ўсіх сяброў колектыву, якія да гэтага часу маюць нязначнае дачыненьне да колгасу.

---

С. Шаўковіч

# Некаторыя весткі аб Танескім сельсавеце Тураўскага раёну [1].

Танеж—цэнтар сельсавету знаходзіцца ў 120 кл. ад Мозыра, ад раённага цэнтру Турава—у 35 кл. і ад чыгуначн. ст. Жыткавічы—у 56 кл. Сярэдняя гадавая тэмпэратура +6°С. Лік дажджавых дзён у год—140. Сьнег ляжыць 3 месяцы, таўшчыня сьнегавога насьцілу—18 см. Глеба ў большасьці пяшчаная, сустракаюцца слаёвыя суглінкі. Ворны слой—3-4 вяршкі, за ім белавата-жоўты пясок, па мясцовай тэрмінолёгіі „рыжэц“. Насяленьне сельсавету адчувае недахоп добрай зямлі і бярэ ў лясьніцтве зямлю, якая была пад лесам, для распрацоўкі. Часта лясьніцтва абменьвае няпрыгодную зямлю ў сялян на добрую. Няпрыгодная зямля адводзіцца пад лес, а добрая аддаецца пад колгасы (Слабадзкі колгас 105 га, Бабанскі колгас 200 га). Насяленьне мала трымае коняй, а больш валоў (110 коняй і 847 валоў). Гадоўля коняй пачала разьвівацца гады тры назад. Апошнія часы

[1]) Ад рэдакцыі. Краязнаўца Сяргей Шаўковіч даслаў у ЦБК „Кароткае апісаньне Танескага сельсавету Тураўскага раёну“. Ня маючы магчымасьці надрукаваць гэты нарыс з прычыны агульнага характару большай часткі фактычных матар'ялаў, рэдакцыя зьмяшчае тут некаторыя даныя аб сельсавеце (адзін з самых глухіх на Мазыршчыне), якія зьяўляюцца характэрнымі і ўдала падмечаны краязнаўчым вокам С. Шаўковіча.

пачынаюць абменьваць валы на коні, бо коні даюць магчымасьць мець і пабочны заробак—вазацтва. Садоўніцтва зусім не пашырана ў сельсавеце (ёсьць толькі два сады больш-менш прыкметныя). З гародніцтва шмат садзяць цыбулі, буракоў і „кітахоў“ (кіёўкі-кукуруза). На гародніну ўвосень цэны вялікія (буракі 1 руб. пуд, капуста—80 кап., бульба—70 к.). Пчалярства калоднае, рамачных вульлёў няма. Калоды ставяць у лесе, на дрэвах. Па сельсавеце, паводле офіцыйных вестак (запраўды ёсьць больш), пчалярствам займаецца 24 гаспадаркі, якія маюць 103 калоды. Але мёду ніхто не прадае. Пашыраны крадзёж калод з пчоламі.

У лясох апошні момант шмат разьвялося дзікоў і ваўкоў, ёсьць куніцы, расамахі (адзін выпадак) і кажуць шмат ласёў (у в. Данілевіцкі Млынок адзін паляўнічы забіў лася).

Лясьніцтва мае дзьве лясныя дачы (тры аб‘езды і 17 абходаў). Пароды дроў вельмі каштоўныя па сваёй грубіні і вышыні—хвоі і дубы. Каля в. Данілевіцкі Млынок ёсьць дуб, які завуць „цар-дуб“. Гэты дуб надзвычайна вялізны і магутны, ад зямлі толькі да кроны 25 арш. Яго трэба зарэгістраваць як помнік прыроды, належачы ахове і абароне законамі. Лесбел шмат вывозіць лесу з Танескага сельсавету, даючы заробак насяленьню. Найбольшая лічба заробку селяніна ад лесавывазу хістаецца між 700 — 1000 руб. за зіму. Замест высечанага лесу лясьніцтва засявае новы—засеяна 5,5 га сасны.

Лесу яшчэ вельмі багата і гэта адбіваецца на матар‘яльным быце насяленьня. Пабудова хаты такая: у зямлю няглыбока ўкопваюцца штандары (1/2 мэтра ў зямлю, 1/4 м. над зямлёю), затым кладуць вянкі з круглага бярвеньня (не расьпілоўваюць, не экономяць!). Для хаты ідзе 13—15 вянкоў. Крыюць хаты „драньню“. У хаце ня больш 4 вакон. Разьмер хаты 5,5 × 6,5 мэтраў, рубяць у просты кут. Апошнія гады сяляне пачалі рабіць вельмі добрыя „зашчыты“ (Танеж, Слабада). Вялікія хаты пабудаваны кулакамі. Тыпова з гэтага боку хата кулака в. Слабады Мірона Бакуновіча. У беднякоў больш распаўсюджаны хаты чатырохсьценкі без прыбудовы сенцаў, у больш заможных пяцісьценкі (хаты на дзьве паловы). Поплеч з хатамі хлявы, „сьцёпкі“, „сьвінюшнікі“. Хлявы халодныя, з тонкага бярвеньня, крыты „драньню“. Вышак у хлявох няма—сьвішча зімою вецер. „Сьценкі“ разьмерам 3 × 3 м., вянкі ў іх перакладаюцца кудзеляю, мохам, знадворку аббіваюць дошкамі. Гумно знаходзіцца далей за хлявамі, таксама крыта „драньню“. У гумне пасярэдзіне ток, дзе малоцяць, абапал — застаронкі для збожжа. Большая частка збожжа знаходзіцца ў стажкох на высокім падмосьце. Ток у гумнах з дошак, з гліны рэдка робяць бо яна глыбока залягае.

Двор ад двара рэдка адмяжоўваецца плотам, а ў большасьці хлявамі. Абсталяваньне хат простае: адзін зьбіты стол, доўгія лавы— „услоны“, скрыня, куды складаюць вопратку і ніткі, альбо бочку для тэй-жа мэты, „памост“ ці „пол“ для спаньня, лучнікі (новая назва іх „грамафоны“), альбо лямпы (часта ёсьць і лямпа і лучнікі, бо яны даюць цяпло зімою) жэрдка з вопраткай (жаночыя сарочкі, сьвіткі і „чабоці“), бажніца з лікам багоў ад 4 да 8, у больш чыстых хатах можна знайсьці і люстэрка, над вокнамі вешаюць газэты, размалёваныя ў розныя ўзоры.

Бялізна вельмі грубага вырабу і цяжкая вагою. Дзеці да 5 год носяць доўгую „кашулю“ і хлопчыка ад дзяўчынкі можна адрозьніць па валасох (стрыжаны хлопчык). Стрыгуць авечымі ножнамі.

Жанчыны носяць доўгія „кашулі“, зьверху іх спадніцы і кохты, у сьвята апранаюць „андарак“ са зборамі ці спадніцу са зборамі, якую ўнізе абшываюць рознакаляровымі стужкамі. Вышываюць як мужчынскія, так і жаночыя кашулі: каўнер, канцы рукавоў і ніз; вышываюць таксама і хусткі. Апошнія гады шмат носяць крамніны зыркага колеру.

Бялізну мяняюць па суботах, мыюць бяз мыла, у „жлукце“. Абутак — „пастолі“, летам „чабоці“. Амаль кожны гаспадар мае „чабоці“.

Ежа дрэнная. Сьнеданьне: „пячонікі“—печаная бульба з расолам ці кіслай (квашанай) капустай. Абед: буракі з крупамі і каша. Бульба і на вячэру. Раз у тыдзень бываюць грэцкія бліны, іх ядуць з салам, якое купляюць у коопэратыве. У коопэрацыі купляюць алей, рыбу (тараны, селядцы) і цукар. Апошні час сяляне часта п‘юць „кроп“ (чай, вар) і вельмі любяць „патаку“. Калі яе прывозяць у коопэратыў адразу разьбіраюць ўсю.

Санітарыя дрэнная. Глыбіня студняў ад 2,5 м. да 4 м., глыбіня вады 1 м. Скрыня ў студнях робіцца з дубовых слупікаў ці сасновых дошчак. Студня на 5—6 двароў, вада дастаецца крукамі, агульнага вядра няма, крышак на студнях няма. У хатах няма ніякай санітарыі і гігіены. Сьвіней кормяць у хатах, хату падмятаюць раз у дзень, ядуць з аднае місы, пасудзіну мыюць, але не выціраюць, падлогу вельмі рэдка мыюць. У вёдрах вада заўсёды брудная. Летам ужываюць бярозавік. Для гэтага ў часе „плаку бяроз“ падсекваюць дрэва і падстаўляюць бочку. Поўную бочку прывозяць дамоў і становяць у халоднае месца. Калі пераходзіць квас, тады падбаўляюць соладу з ячменных круп. Пасьля паступова ў квас падліваюць вады.

Мыюцца сяляне раз на дзень бяз мыла, у сьвята з мылам, цела ніколі ці зусім рэдка мыюць і на вуліцы можна спаткаць людзей, якія моцна „чухаюцца“. Лазьні толькі 2 ў с. Танежы і адна ў Слабадзе. Па сельсавеце ёсьць 20 чалавек хворых на „каўтун“. Веды па санітарыі і гігіене не распадсюджваюцца сярод насяленьня.

Сямейны быт зусім просты. „Мат“ пануе, часта бываюць сваркі, ніякага выхаваньня для дзяцей. Хлопцы жэняцца маладымі ад 18 да 20 год. Апошні час багата выпадкаў ёсьць, калі хлопцы без усялякіх сватоў бяруць дзеўку замуж. Ёсьць сем‘і, у якіх больш 10 дзяцей. Малых дзяцей падкормліваюць „суслаю“ (трапка з хлебам і цукрам).

Сярод насяленьня часам захаваліся старыя звычаі і абрады. Прывядзем найбольш цікавыя. Пры пабудове хаты перад тым, як пачынаць гэта, гаспадар ці гаспадыня ідзе да знахара, каб ён параіў, як трэба ставіць хату ці вокнамі на ўсход, ці дзьвярыма на захад і інш. Пры закладцы першага вянка гаспадар спраўляе пір — багата гарэлкі, каб у новай хаце добра і весела жылося. Пад куты кладуць срэбныя грошы.

Цікавы звычай на Купалу. У гэты дзень жанчыны ўстаюць вельмі рана перад усходам сонца. Яны кажуць, што ў гэты дзень само сонца купаецца. Бяруць дзяцей, распранаюць іх і самі распранаюцца ды голымі качаюцца ў аусе (каб ніхто ня бачыў). Робяць гэта, каб з цела сышла кароста ці іншая хвароба.

На першы дзень вялікага пасту пякуць аладкі „дужыкі“ і думаюць: хто іх зьесьць, той будзе адчуваць сябе дужым увесь год.

За дзень да Купалы з травы „самасец“ плятуць вяроўку і ў раньні на Купалу вяроўку гэтую перакідаюць праз вуліцу і якая карова ня хоча ісьці праз вяроўку, дык яе гаспадыня ведзьма. Наогул шаптухам, гадальшчыцам вельмі вераць. На хутары Сярэднія Печы жыве „Са-

ломенная баба". Яна гадае на саломе і да яе шмат прыходзіць народу за дзесяткі верст.

Бытавыя ці абрадавыя песьні ўжо мала захаваліся. Моладзь пяе пахабныя прыпеўкі, занесеныя ў часе вайны і окупацый, прычым саромныя песьні часта сьпяваюць і дзяўчаты.

Мова захавалася старая і часта можна пачуць вельмі рэдкія словы, якія ня знойдзеш у слоўніках. Замест былога „ѣ" у гутарцы чуваць дыфтонг і͡е (дзі͡ед). Гук ы часта чуваць як у (було, мула). Аканьня няма. Кажуць „молоды̀".

---

Р. Н. Гацко.

# Водная расьліннасьць Полацкай акругі.

## З прац экспэдыцыі Навук. Краязн. Т-ва Б. Д. У.

*(Матар'ял з экспэдыцыі ў Полаччыну ўлетку 1928 г.).*

I.

Полацкая акруга ўяўляе сабою паўночную акраіну Савецкай Беларусі. З поўначы яна мяжуе з тэрыторыяй Р. С. Ф. С. Р.; з усходу—з Віцебскай акругай, з захаду мяжуе з тэрыторыяй Заходняй Беларусі, якая захоплена покуль што панскай Польшчай.

З усіх акруг Савецкай Беларусі Полацкая найбольш багатая вазёрамі. Большасьць іх—вазёры праточныя. Усяго вазёр у акрузе—378. Усе яны ўваходзяць у склад Вазёрнага краю і зьяўляюцца ледавіковымі па свайму паходжаньню. Спатыкаюцца і сьляды яго ў выглядзе каменьня па берагох. Выцягнутая іх форма ў паўночна-зах. напрамку таксама характэрна.

Найбольш буйнымі зьяўляюцца: Асьвейскае возера—57 кв. кл. Агульная плошча вазёр па акрузе раўняецца 32,01 гэктараў. Плошча-ж буйных забалочаных прастораў складае 260,6 кв. кл.

З гэтых даных відаць, што вадазборы ў экономіцы акругі, у экономіцы вясковага насельніцтва, для якіх рыбны промысел вялікая падмога, адыгрываюць вялізную ролю. Вывучэньне воднай расьліннасьці гэтай акругі ўжо даўно выклікаецца неабходнасьцю як з навуковых, краязнаўчых меркаваньняў, гэтак і экономічных, паколькі водная расьліннасьць у агульнай экономіцы вадазбораў, у рыбнай гаспадарцы можа быць або дадатным або адмоўным фактарам.

На вялікі жаль, вадазборы толькі пачынаюць вывучацца проф. Шчапоцьевым .(вывучэньне плянктону), часткова Наркамземам. Па воднай насьліннасьці я спэцыяльных прац не знайшоў акрамя стрададаўных прац як, напр. зборнік Віцебская губ. 1890 г., у якім зьмешчаны некаторыя расьліны сабр. А. Антонавым у 1887 г. З сучасных прац наогул па расьліннасьці Полаччыны трэба азначыць М. А. Зьбіткоўскага са сьпісам расьлін 1925 г., па геоботаніцы там працавала т. Палянская. Пры гэтым водная флёра ахоплена нязначна, паміж іншым і выпадкова.

Я з усёй Полацкай акругі пазнаёміўся і сабраў матар'ял толькі з Вульскага р. і крыху Полацкага р., апошняе дадаў крыніцамі з літаратуры.

# ХРОНІКА.

## Усім Акруговым Таварыствам Краязнаўства.

Асабліва важнаю чарговаю задачаю краязнаўства зьяўляецца выкананьне пастаноў краязнаўчых зьездаў аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы краязнаўчых кадраў. ЦБК пры гэтым пасылае проекты палажэньняў пра мэтодычна-краязнаўчы сэмінар і конфэрэнцыю-курсы пры ім і прапануе дапасаваць гэтыя проекты да сваіх умоў і арганізаваць гэты сэмінар і конфэрэнцыю не пазьней 1 студзеня 1930 году.

### Палажэньне пра мэтодычна-краязнаўчы сэмінар пры Акруговым Т-ве Краязнаўства.

§ 1. Краязнаўчы рух шырака разгарнуўся па БССР і ўвабраў у сябе значныя грамадзкія сілы. Але актыў мэтодычна падрыхтаваных краязнаўцаў, якія-б маглі самастойна весьці краязнаўчыя досьледы і арганізаваць для іх мясцовы актыў, параўнальна з агульным лікам краязнаўцаў невялікі. Асабліва востра адчуваецца адсутнасьць падрыхтаваных краязнаўцаў-экскурсаведаў і слабая краязнаўчая падрыхтаванасьць настаўнікаў першага концэнтру, якія павінны ўмець кіраваць экскурсыямі, дасьледваць свой край ды арганізаваць працу сваіх вучняў. У мэтах мэтодычна-краязнаўчай падрыхтоўкі новых кадраў краязнаўцаў і перападрыхтоўкі старых, Акруговае Таварыства Краязнаўства арганізуе мэтодычна-краязнаўчы сэмінар.

§ 2. Слухачамі мэтодычна-краязнаўчага сэмінару пры Таварыстве залічаюцца асобы з адукацыяй ня ніжэй сямігодкі і ў першую чаргу настаўнікі першага концэнтру сямігодак, работнікі дзіцячых дамоў і клюбаў, члены саюзу працаўнікоў асьветы, а таксама члены краязнаўчых арганізацый, агульным лікам 45 асоб.

§ 3. У мэтах мэтодычна-краязнаўчай падрыхтоўкі краязнаўцаў з рабочых пры мэтодычна-краязнаўчым сэмінары працуе мэтодычна-краязнаўчая конфэрэнцыя - курсы па асобнай програме і на падставе асобнага палажэньня.

§ 4. Праца ў мэтодычна-краязнаўчым сэмінары вядзецца выключна сэмінарскім мэтодам пад кіраўніцтвам кіраўніка сэмінару, вызначанага Акруговым Таварыствам Краязнаўства.

§ 5. Кожны слухач сэмінару абавязаны акуратна наведваць сэмінар і зрабіць адзін рэфэрат ня мэтодычна-краязнаўчую тэму ды адзін на тэму аб акруговым горадзе ці акрузе і правесьці адну экскурсію— усё па свайму выбару са сьпісу наяўных тэм.

§ 6. Програмаю працы сэмінара зьяўляецца програма зацьверджаная для выкладаньня мэтодыкі краязнаўства ў пэдагогічных тэхнікумах, апрача разьдзелу „Г“.

§ 7. Праца мэтодычна-краязнаўчага сэмінару павінна весьціся з такім разьлікам, каб усе рэфэраты слухачоў маглі быць пасьля надрукаваны Акруговым Таварыствам Краязнаўства для скарыстаньня іншымі работнікамі.

§ 8. Мэтодычна-краязнаўчы сэмінар працуе два разы на тыдзень па выбару агульнага сходу слухачоў.

§ 9. Комплектаваньне сэмінараў слухачамі мае быць зроблена асобнай камісіяй у складзе кіраўніка сэмінару і прадстаўнікоў Акруговай Інспэктуры Народнай Асьветы, Акруговага Праўленьня Саюзу Працасьветы і АК ЛКСМБ.

§ 10. Мэтодычна-краязнаўчы сэмінар працуе тры месяцы.

§ 11. Асаблівая ўвага звярачваецца на прапрацоўку экскурсыйнай часткі сэмінару з прычыны браку экскурсаводаў і вялікага попыту на іх, які яшчэ больш узрасьце з адчыненьнем Усебеларускай Выстаўкі Сельскай Гаспадаркі і Прамысловасьці летам 1930 году.

§ 12. Усім слухачом, якія праслухалі ўвесь сэмінар і выканалі паказаныя ў § 5 працы выдаецца адпаведнае пасьведчаньне.

### Палажэньне пра мэтодычна-краязнаўчую конфэрэнцыю-курсы пры мэтодычна-краязнаўчым сэмінары Акруговага Таварыства Краязнаўства.

§ 1. Для першапачатковай мэтодычна-краязнаўчай падрыхтоўкі кадраў краязнаўцаў з краязнаўцаў-рабочых пры мэтодычна-

краязнаўчым сэмінары Акруговага Таварыства Краязнаўства організуецца краязнаўчая конфэрэнцыя-курсы, якая ў першую чаргу павінна падрыхтаваць сьвядомыя кадры організатараў і кіраўнікоў гурткоў: краязнаўства на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах з шэрагаў саміх рабочых.

§ 2. Для дасягненьня азначанай мэты конфэрэнцыя-курсы прапрацоўвае наступныя тэмы:

а) Разьвіцьцё краязнаўчага руху на Беларусі і яго чарговыя задачы;

б) Організацыйныя формы краязнаўчага руху і організацыя гуртка краязнаўства на прадпрыемстве;

в) Мэтоды працы гуртка краязнаўства на прадпрыемстве;

г) Наш горад і акруга і экскурсыі па іх.

§ 3. Курсы-конфэрэнцыя працуюць чатыры тыдні па тры гадзіны раз на тыдзень пад кіраўніцтвам старшыні вызначанага Акруговым Таварыствам Краязнаўства.

§ 4. Дакладчыкамі на конфэрэнцыі-курсах зьяўляюцца асобы вылучаныя Акруговым Таварыствам Краязнаўства.

§ 5. Комплектаваньне курсаў - конфэрэнцыі слухачамі праводзіцца разам з Акруговым Бюро Профсаюзаў, Акруговай Інспэктурай Народнай Асьветы і АК ЛКСМБ.

§ 6. Асобам, якія акуратна наведвалі конфэрэнцыю-курсы выдаецца адпаведнае пасьведчаньне.

## Соцспаборніцтва паміж Цэнтр. Бюро Краязнаўства БАН і Украінскім Камітэтам Краязнаўства.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства БССР выклікала на социялістычнае спаборніцтва Украінскі Камітэт Краязнаўства, вылучыўшы для гэтага наступныя об'екты: а) разгортваньне краязнаўчай сеткі да паасобных прадпрыемстваў і нізавых адміністрацыйных адзінак; б) разгортваньне школьна-краязнаўчай сеткі (школьных гурткоў краязнаўства) да наяўнасьці працаздольнага гуртка ў кожнай сямігодцы, тэхнікуме і вышэйшай школе; в) уцягненьне ў краязнаўчую справу большага (адносна да агульнага ліку насяланьня) проценту сялян, рабочых і моладзі; г) выданьне інструкцый і програм па найбольш актуальных пытаньнях сучаснасьці: вывучэньне колектыўных форм гаспадаркі, вывучэньне гісторыі рэўруху, вывучэньне раёну з антырэлігійнымі мэтамі, вывучэньне прамысловасьці і г. д.; д) выкананьне побач з іншай працай, пэўнай ударнай працы усімі раённымі краязнаўчымі організацыямі; е) організаваньне социялістычнага спаборніцтва паміж краязнаўчымі організацыямі.

Украінскі Камітэт Краязнаўства прыняў заклік ЦБК і пачаў спаборніцтва ад 1 сьнежня 1929 г. Умова мае быць конкрэтызавана да 1 студзеня 1930 г.

## Соцспаборніцтва краязнаўчых організацый.

Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства выклікала на соцспаборніцтва Гомельскае Акруговае Т-ва Краязнаўства і параіла раённым Т-вам краязнаўства Мазырскай акругі распачаць між сабою соцспаборніцтва за лепшую краязнаўчую працу. Сваю працу Праўленьне Мазырскага Т-ва перавяло на бесьперапынны рабочы тыдзень (пяцідзёнку).

## Плян працы ЦБК на 1929/30 акад. год.

### I. Агульныя палажэньні.

Новы акадэмічны год працы ЦБК і мясцовых краязнаўчых організаный павінен прайсьці пад знакам усеагульнага ўздыму ў справе індустрыялізаваньня краіны, колектывізаваньня сельскай гаспадаркі і социялістычнага спаборніцтва. На працягу мінулых год краязнаўчы рух дасягнуў значных посьпехаў у справе вывучэньня паасобных краёў БССР і дапамогі мясцоваму краябудаўніцтву. Але гэты ўздым социялістычнай перабудовы жыцьця вымагае ад краязнаўчага руху яшчэ большых вынікаў яго чыннасьці.

Адным з галоўных сродкаў уздыму краязнаўчага руху павінна стаць социялістычнае спаборніцтва, якое павінна адбывацца ў гэткіх кірунках:

1) разгортваньне краязнаўчай сеткі да паасобных прадпрыемстваў і нізавых адміністрацыйных адзінак;

2) разгортваньне школьна-краязнаўчай сеткі (школьных гурткоў краязнаўства) да наяўнасьці працаздольнага гуртка ў кожнай сямігодцы, тэхнікуме і вышэйшай школе;

3) уцягненьне ў краязнаўчую справу большага проценту сялян, рабочых і моладзі;

4) выданьне інструкцый і програм па найбольш актуальных пытаньнях сучаснасьці: вывучэньне колектыўных форм гаспадаркі, гісторыі рэўруху, вывучэньне прамысловасьці і г. д.;

5) выкананьне ўсімі раённымі краязнаўчымі організацыямі пэўнай ударнай працы;

6) організаваньне социялістычнага спаборніцтва паміж краязнаўчымі організацыямі.

У паасобных галінах праца ЦБК у 1929/30 акад. годзе мае складацца з наступнага.

### II. Організацыйная праца.

1. Організацыйнае афармленьне краязнаўчага руху да наяўнасьці 4-5 працаздольных гурткоў краязнаўства ў кождым раёне і 3-4 у кожным акруговым горадзе.

2. Заснаваньне краязнаўчых гурткоў на некаторых фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах.

3. Заснаваньне узмоцненай краязнаўчай сеткі, з разьліку адна краязнаўчая організа-

цыя на кожную гаспадарку, у падшэфным раёне БАН з мэтай стварэньня пэўнага асяродку, праз які павінна праводзіцца вывучэньне раёну.

4. Рэгуляваньне складу існуючых краязнаўчых організацый у бок павялічэньня рабочых да 5% і сялян да 15% з 100% ахопам у падшэфным раёне культпрацаўнікоў і 50% ахопам у тым-жа раёне вясковага актыву.

5. Заснаваньне ў гарадох БССР па ўзгадненьні з НКАЗ і Мэдсанпрацы мэдычна-краязнаўчых гурткоў па вывучэньні санітарнага стану паасобных тэрыторый—акругі, раёну, сельсавету.

6. Далейшае разгортваньне школьна-краязнаўчага руху. Пры дапамозе Навукова-Мэтодолёгічнага Камітэту, ЦБПролетстуду, Акруговай і Раённай Інспэктуры асьветы пашырэньне школьна-краязнаўчай працы да наяўнасьці краязнаўчага гуртку ў кожнай 7-цы, тэхнікуме і вышэйшай школе і правядзеньне ў плянавым парадку вучнёўскіх школьна-краязнаўчых конфэрэнцый.

7. Уключэньне ў навучальныя пляны ВНУ і тэхнікумаў выкладаньня мэтодыкі краязнаўства. Праверка вынікаў гэтага выкладаньня ў тых навучальных установах, дзе ў мінулым годзе гэтая дысцыпліна ўжо выкладалася.

8. Організацыя ў Менску кароткатэрміновых мэтодычна-краязнаўных курсаў і сэмінараў і прыцягненьне да наведваньня іх у паразуменьні з культаддзелам ЦСПСБ актыўных і найбольш падрыхтаваных рабочых з менскіх прадпрыемстваў.

9. Пашырэньне сеткі членаў-корэспондэнтаў ЦБК і ўнясеньне плянавасьці ў іх працу. Выданьне адпаведнай у гэтым напрамку інструкцыі.

10. Склікаць чарговую конфэрэнцыю-курсы па мэтодычных пытаньнях краязнаўства і організаваць кароткатэрміновыя (у нядзельныя дні) курсы для падрыхтоўкі экскурсаведаў па Менску.

11. Дапамога мясцовым краязнаўчым організацыям у разьведна-краязнаўча-дасьледчай працы: організацыя новых фэнпунктаў мэдстанцый і заснаваньне ў 3-4 пунктах БССР этнолёгічных станцый БССР, афармленьне сеткі гідролёгічных назіраньняў.

12. Правядзеньне Пленуму ЦБК, дапамога з боку ЦБК у правядзеньні акруговых і раённых краязнаўчых конфэрэнцый.

13. Організацыйная сувязь з цэнтрамі краязнаўчай працы СССР праз камандыраваньне ў гэтых мэтах прадстаўнікоў ЦБК БССР у Маскву, Ленінград і Харкаў.

14. Організацыйнае ўмацаваньне існуючых краязнаўчых музэяў, заснаваньне новых па аднаму на акругу з разьлікам, каб колькасьць такіх музэяў па БССР давесьці да 20.

15. Популярызацыя краязнаўчай працы ў друку, на сходах, конфэрэнцыях і па радыё.

16. Організацыйная дапамога навуковым установам БССР і СССР у справе зьбіраньня мясцовых навуковых матар'ялаў краязнаўчымі організацыямі БССР і найщчыльнейшая сувязь з установамі БАН.

17. Прыняцьце ўдзелу ў сельска-гаспадарчай выстаўцы шляхам організацыі ўзорнага краязнаўчага музэю.

18. Праверка выкананьня плянаў адзін раз у паўгода.

### III. Мэтодычна-кіраўнічая праца.

19. Мэтодычна-кіраўнічая дапамога інструктажам (пісьмовым і асабістым) усім акруговым і раённым краязнаўчым організацыям у справе вывучэньня: а) колгаснага руху раёну, б) вытворчых сіл раёну, в) вывучэньня прамысловасьці раёну, г) географічных об'ектаў раёну (укладаньне географічнага слоўніка раёну), д) біоклімату раёну (фэнолёгія), е) бібліографіі раёну, ж) мовы раёну, з) быту, і) фольклёру раёну, к) археолёгіі раёну (укладаньне археолёгічнай карты раёну), л) вывучэньне рэўруху.

20. У падшэфным раёне суцэльнай колектывізацыі: а) дапамога ў зьбіраньні матар'ялаў экспэдыцыямі БАН, б) вывучэньне і апісаньне колгаснага руху, в) організацыя навукова-асьветных музэяў.

21. Пашырэньне мэтодычнага разьдзелу часопісу „Наш Край" і падрыхтоўка 2-га зборніка програм і інструкцый краязнаўчай працы, які ў першую чаргу павінен улічыць найбольш падыходзячыя формы краязнаўчай працы для рабочых і сялян і найбольш актуальныя об'екты вывучэньня сучаснасьці.

22. Укладаньне экскурсыйнага праваднiка па БССР.

23. Мэтодычная дапамога краязнаўчым організацыям, якія вывучаюць свае раёны ў парадку ўдарнасьці.

### IV. Навукова-дасьледчая праца.

24. Досьледы аднаго пытаньня, датычнага гісторыі краязнаўства, організацыйных форм краязнаўчых досьледаў, палявой краязнаўчай працы, этнографіі краю, біоклімату і ўзаемаўплыву яўрэяў і беларусаў.

25. Дасьледваньне ўсімі краязнаўчымі організацыямі тэмы па вывучэньні колгаснага руху.

26. Апрацаваць матар'ялы зробленых улетку 1929 г. краязнаўчых экспэдыцый, зьмясьціўшы ў часопісу.

27. Правесьці сіламі ЦБК тры экспэдыцыі па тэматычным вывучэньні раёну.

### V. Выдавецкая праца.

28. Выдаць 10 нумароў „Нашага Краю" па 5 друк. арк. кожны.

29. Выдаць 2-гі зборнік програм і інструкцый краязнаўчай працы.

30. Дапамагчы мясцовым краязнаўчым організацыям у выданьні імі сваіх краязнаўчых зборнікаў.

31 Зьмяшчэньне лепшых прац краязнаўцаў БССР у выданьнях Акадэміі Навук БССР.

## Навуковае шэфства БАН і НДІ імя Леніна над колгасам „Гігант ім. Праўды“.

*(Рагачэўска-Жлобінскі раён).*

Колектывы супрацоўнікаў БАН і НДІ на сваім аб'яднаным агульным сходзе месяц назад парашылі прыняць навуковае шэфства над колгасам „Гігант“. Мелася на ўвазе, каб тыя ці іншыя экспэдыцыі, якія будуць рабіцца гэтымі абедзьвюма ўстановамі, праводзіліся ў першую чаргу ў гэтым раёне з тым, каб дапамагчы разгортваньню і ўзмацненьню колгаснага будаўніцтва ў раёне. На сходзе была вылучана спэцыяльная Камісія з прадстаўнікоў БАН і НДІ па распрацоўцы програмы навуковага шэфства. Выпрацаваная Камісіяй програма шэфства была прынята агульным сходам і зацьверджана Прэзыдыумам БАН і Дырэкцыяй НДІ. Яна ў асноўным зводзіцца да наступнага:

1. БАН і НДІ прымаюць на сябе абавязак навукова-дасьледчага абслугоўваньня Гарадзецкага раёну суцэльнай колектывізацыі.

БАН і НДІ сваімі сіламі і ў контакце з Колгассаюзам і НКЗ праводзяць дасьледчыя работы, якія зьяўляюцца найбольш пільнымі і неабходнымі для будаўніцтва буйнога агро-індустрыяльнага комбінату на падставе суцэльнай колектывізацыі ў Гарадзецкім раёне і наогул концэнтруюць на тэрыторыі раёну сваю дасьледчую працу. Навуковыя і навукова-тэхнічныя працы, якіх БАН і НДІ ня змогуць правесьці дзеля адсутнасьці ў іх адпаведных органаў, арганізуюцца непасрэдна НКЗемам і Колгассаюзам.

3. Найпільнейшай задачай для бягучага году зьяўляецца падвядзеньне навуковай падставы пад организацыйны і пэрспэктыўны пляны агро-індустрыяльнага комбінату. У гэтым кірунку орыентуецца ўся дасьледчая і консультацыйная праца шэфаў, прыстасоўваючыся да вымаганьняў і тэмпаў практычнага будаўніцтва.

4. Навукова-дасьледчая і організацыйная праца ў Гарадзецкім агро-індустрыяльным комбінаце носіць вузорна-паказальны характар і яе мэтодолёгічныя вынікі павінны легчы ў падставу аналёгічнай працы ў іншых раёнах суцэльнай колектывізацыі.

Усе ўстановы БАН і НДІ на падставе ніжэйпаданай агульнай схэмы заданьняў распрацоўваць дэталёвыя каляндарныя пляны сваёй дзейнасьці і пасьля зацьвярджэньня іх уносяць адпаведныя зьмены ў свае опэрацыйныя пляны.

### Установы Беларускай Акадэміі Навук.

У першую чаргу разгортваецца ў раёне работа Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, Геолёгічнага Інстытута, Катэдры Глебазнаўства, Катэдры коопэрацыі і колектывізацыі, Катэдры марксызму-ленінізму, Катэдры географіі, Катэдры Штандорту, Катэдры савецкага права і Камісіі рамёстваў.

ЦБК адразу-ж прыступае да організацыі ў раёне спэцыяльна-ўзмоцненай краязнаўчай сеткі. Задачай яе ёсьць утварэньне на месцы сталага навуковага апарату, 1) дапамагае пры вывучэньні раёну ўстановам БАН і НДІ, 2) рыхтуецца да пастаянай самастойнай дасьледчай дзейнасьці ў раёне, 3) у пэрспэктыве зьяўляючыся навуковым асяродкам раёну, дбае аб выяўленьні ўсіх гаспадарчых і культурных магчымасьцяй раёну і аб прыстасаваньні ў яго жыцьці навуковых дасягненьняў. Задачай на зімовы сэзон а) ахоп 100% культпрацаўнікаў і 50% вясковага активу, б) організацыя краязнаўчых організацый у кожнай гаспадарчай адзінцы, в) дапамога ў зьбіраньні матар'ялаў экспэдыцыямі БАН і г) організацыя навукова-асьветных музэяў у кожнай гаспадарчай адзінцы.

Геолёгічны Інститут БАН праводзіць 3-хвёрсную геолёгічную здымку і ўкладае: 1) агульную геолёгічную карту, 2) карту карысных выкапняў з разьлікамі аб іх запасах і якасьці, 3) гідрогеолёгічную карту і вышукі глыбіннай вады для паасобных паселішчаў.

Катэдра Глебазнаўства з восені праводзіць 3-хвёрсную глебавую здымку і не пазьней 1/II дае глебавую карту з адпаведнымі бонітыровачнымі меркаваньнямі. З вясны 1930 году Катэдра пачынае аднавёрсную глебавую здымку раёну і спэцыяльныя досьледы для бонітыровачных мэт.

Катэдра Географіі зімою распрацоўвае наяўныя статыстычныя матар'ялы для патрэб мікрораёнаваньня і ўкладае шэраг экономічных карт раёну (профэсійнага складу населеньня, паасобных элементаў сельскай гаспадаркі і інш.) і консультуе іншыя ўстановы ў картографічнай справе.

На падставе глебавай, геолёгічнай, эконоиай і інш. спэцыяльных карт і матар'ялаў праводзіць мікрораёнаваньне тэрыторыі.

Катэдра Штандорту распрацоўвае пытаньне аб найбольш мэтазгоднай спэцыяльнасьці сельскай гаспадаркі раёну і магчымых для пабудовы індустрыяльных прадпрыемстваў.

Камісія рамёстваў вывучае пашыраныя ў раёне рамёствы і магчымасьці іх пашырэньня і організацыі новых рамёстваў.

Катэдра коопэрацыі і колектывізацыі вывучае організацыйныя проблемы колектывізацыі дадага раёну (проблема вытворчасьці працы, кіраўнічых органаў і г. д.).

Катэдра марксызму-ленінізму, вывучае соцыяльныя ўзаемадносіны ў колектыве і характар яго ўзаемаадносін з вакольным асяродзьдзем.

Катэдра права дасьледуе прававыя ўзаемаадносіны членаў колектыву між сабою, з колектывам, з дзяржаўнымі органамі, укладае гадавыя статуты і вядзе консультацыю.

Усе іншыя ўстановы БАН таксама разгортваюць сваю працу на тэрыторыі раёну,

увязваючы яе з проблемамі і бягучымі патрэбамі будаўніцтва буйной колектыўнай гаспадаркі.

Хэмічны Інстытут выконвае неабходную пры дасьледваньні раёну аналітычную працу і вывучае магчымасьці хэмізацыі раёну і хэмічнае выкарыстаньне сыравіны.

Інстытут Гісторыі фіксуе ўсе этапы разгортваньня колгаснага будаўніцтва ў раёне і наогул вывучае экономічную гісторыю раёну і паасобных яго частак на працягу апошняга стагодзьдзя.

Катэдра Этнографіі вывучае зьмену быту ў сувязі з колектывізацыяй, зьніканьне старых звычаяў, вопраткі, будаўніцтва і праявы масавай творчасьці новага быту.

Інстытут Мовазнаўства, літаратуры, Катэдры фізыолёгіі, антрополёгіі вядуць на тэрыторыі раёну сваю дасьледчую працу і організуюць культурна-асьветнае і санітарна-гігіенічнае абслугоўваньне раёну.

Нацсэктары вывучаюць быт, культуру, соцыяльныя адносіны, гісторыю нацменшасьцяй раёну.

**Нав. Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна.**

Бюро сялян-дасьледчыкаў разам з ЦБК організуе культурны актыў раёну вакол проблем тэхнічнага пад'ёму вытворчасьці сельскай гаспадаркі, організуе сетку дробных агротэхнічных ляборатoрый і паасобных гаспадарчых адзінках і палявыя досьледы на спэцыяльна вылучаных вучастках.

Усе аддзелы і станцыі НДІ праводзяць у раёне працу па спэцыяльнасьці.

Аддзел мэліорацыі і культуры балот праводзіць: 1) гідролёгічныя і гідротэхнічныя вышуканьні для выяўленьня магчымасьці асушкі балот і скарыстаньня гідроэнэргіі, 2) складае плян мэліорацыі раёну і 3) ўкладае карту балот і тарфовішч раёну з паказаньнем запасаў і якасьцяй торфу.

Аддзел ральніцтва 1) тэрмінова ўзмацняе сваімі сіламі Турскую дасьледчую станцыю і ставіць паглыбленую распрацоўку вынікаў яе прац з мэтай устанавіць найбольш рацыянальную тэхніку ральніцтва ў раёне, 2) з вясны ставіць у раёне шырокую сетку палявых досьледаў па ўгнаеньні, апрабаваньні сартоў і новых культур, 3) тэрмінова распрацоўвае сыстэмы севазваротаў для організацыйнага пляну.

Аддзел жывёлагадоўлі і яго станцыі 1) вывучаюць пашыраныя ў раёне быдла, сьвіней, птаства і ўстанаўляюць пароды, якія належыць разводзіць у раёне, 2) ставяць шырокія масавыя досьледы па кармленьні з мясцовымі кармамі і пародамі.

Аддзел экономікі і організацыі 1) праводзіць досьледы па мэтодыцы ўкладаньня організацыйных плянаў для буйных колектыўных гаспадарак і 2) кіруе ўкладаньнем вытворчых програм і організацыйных плянаў паасобных гаспадарчых адзінак і ўсяго раёну суцэльнай колектывізацыі ў галіне сельскай гаспадаркі.

Лясны аддзел 1) высьвятляе рэсурсы дрэўнага паліва і сыравіны, 2) кіруе дзейнасьцю лесаўпарадкавальных партый у раёне, удакладняе і паглыбляе іх работу ў сувязі з патрэбамі агро-індустрыяльнага комбінату і 3) укладае ўзорны плян гаспадаркі у лясох раёну.

Геофіз 1) організуе разам з ЦБК і сялянамі дасьледчыкамі густую сетку дажджамерна-сьнегамерных пунктаў, 2) узмацняе апарат суседніх мэтстанцыі і наладжвае службу пагоды для раёну.

Хэмічная ляборатoрыя НДІ прыймае ўдзел у глебавым дасьледваньні, у распрацоўцы матар'ялаў досьледаў па расьлінагадоўлі і ў організацыі на месцы сеткі дробных агротэхнічных ляборатoрый (аналіз бульбы, малака, зерня, мэханічны аналіз глебы і г. д.).

Для афармленьня шэфства Прэзыдыумам БАН і Дырэкцыяй НДІ пятага сьнежня былі камандыраваны на месцы прадстаўнікі ад БАН т. Казак і ад НДІ т. Ярашчук. Шэфства было аформлена восьмага сьнежня на спэцыяльнай конфэрэнцыі прадстаўнікоў усіх колгасаў і кустоў агрокамбінату. Апрача прадстаўнікоў ад колгасаў на конфэрэнцыі было шмат колгасьнікаў як з м. Гарадца, гэтак і суседніх паселішч, якія сабраліся дзеля таго, каб прыняць удзел у заключэньні шэфства. Усяго на конфэрэнцыю сабралася каля 500 чалавек. На конфэрэнцыі былі заслуханы пытаньні: 1. Інформацыя аб становішчы колгаса „Гігант" і даклад старшыні куста т. Сідарэнкі, і садаклад агронома аб намечаных організацыйных мерапрыемствах.

1. Даклад аб навуковым шэфстве БАН і НДІ.

Конфэрэнцыя з вялікаю зацікаўленасьцю выслухала програму навуковага шэфства і шчыра вітала БАН і НДІ. Конфэрэнцыя прайшла з вялікім уздымам. Выступаўшыя ў сваіх прамовах спыніліся на організацыйных недахопах (адсутнасьці цэнтральнага кіраўніцтва і інш.), якія пакуль маюць месца і прасілі навуковыя ўстановы прысьці на дапамогу з боку навуковага па пытаньні складаньня організацыйных плянаў і інш. У прынятай конфэрэнцыяй рэзолюцыі была ўхвалена програма навуковага шэфства і вырашана для ўвязкі працы ўтварыць моцны навуковы цэнтар у выглядзе мясцовага таварыства краязнаўства, запіс у якое быў праведзены на гэтым-жа сходзе. Усяго ў т-ва краязнаўства запісалася каля 60 членаў у тым ліку больш 50% колгасьнікаў, якія з вялікаю ахвотаю ўзялі на сябе задачу па вывучэньню колгаснага руху. У заключэньне па прапанове некаторых удзельнікаў конфэрэнцыі БАН і НДІ былі абраны ганаровымі колгасьнікамі колектыву „Гігант ім. Праўды".

Конфэрэнцыяй прынята наступная рэзолюцыя:

„Заслухаўшы паведамленьне прадстаўнікоў БАН і НДІ імя Леніна аб прыняцьці гэтымі ўстановамі навуковага шэфства і паведамленьні аб становішчы колгасу „Гігант“, агульная конфэрэнцыя прадстаўнікоў куст. саветаў сумесна з колгасьнікамі адзначае, што:

1. Пад цьвёрдым і правільным Ленінскім кіраўніцтвам Комуністычнай партыі бядняцка-серадняцкія масы Гарадзецка-Сьвержынскага масыву прыступілі да вялізарнай працы па перабудове сельскай гаспадаркі на новых соцыялістычных асновах зорганізаваўшы масы ў моцны колектыў „Гігант“.

2. Конфэрэнцыя адзначае, што на шляху практычнага вырашэньня гэтага пытаньня сустракаецца шмат цяжкасьцяй, якія перашкаджаюць пасьпяховаму ажыцьцяўленьню пачатай працы, як складаньне організацыйна навукова абаснованых плянаў, правядзеньне неабходных дасьледаў і г. д.

3. Выходзячы з гэтага, конфэрэнцыя шчыра вітае прыняцьце навуковага шэфства над колгасам „Гігант“ БАН і НДІ, цалкам ухваляе намечэную гэтымі ўстановамі програму навуковага шэфства і просіць хутчэй перайсьці да ажыцьцяўленьня намечаных мерапрыемстваў.

4. Згаджаючыся ўвогуле з програмай навуковага шэфства, агульная конфэрэнцыя колгасу ўлічвае тыя цяжкасьці, якія паўсталі на шляху па організацыі колгаснага жыцьця і просіць БАН і НДІ ўзяць на сябе абавязак па дапамозе ў вырашэньні насьпеўшых навукова-организ. пытаньняў, пастаноўцы і завостраньні пытаньня перад кіруючымі органамі, а таксама ў справе дапамогі па падрыхтоўцы організатараў-колгасьнікаў.

5. У мэтах утварэньня сталага навуковага асяродку ў цэнтры колгасу лічыць патрэбным організаваць т-вы краязнаўства з пастаноўкай досьледаў колгасьнікаў, з тым, каб таварыства краязнаўства стала зьвязваючым зьвяном колгасу з навуковымі ўстановамі.

6. Адзначаючы праявы на тэрыторыі колгасу вострай клясавай барацьбы, агульная конфэрэнцыя лічыць неабходным пачаць рашучую барацьбу па ачышчэньні складу чэнай колгасу ад шкодных элемэнтаў, якія падрываюць працу па будаўніцтву колгасу.

Няхай жыве Комуністычная Партыя, пад кіраўніцтвам якой вядзецца вялікае соцыялістычнае будаўніцтва!

Няхай жыве колгас „Гігант“ імя газ. „Праўды“, як адна з відавочных праяў гэтага вялікага соц. будаўніцтва.

Няхай жыве злучанасьць навукі і працы, якая будзе ажыцьцяўляцца праз навуковае шэфства БАН і НДІ над Колгасам „Гігант“.

У мэтах стварэньня належнай грамадзкай думкі навокал пытаньняў навуковага шэфства над колгасам „Гігант“ і азнаямленьня з яго програмай мясцовых раёнах працаўнікоў 9 сьнежня пытаньне гэта было пастаўлена на сходзе Рагачэўскага, а 10 на сходзе Жлобінскага профактываў. Асабліва шматлюдным і продукцыйным быў сход профактыву ў г. Рагачэве. На сходзе прысутнічала каля 500 членаў мясцовага актыву. Даклад на тэму „Навуковае шэфства і задачы краязнаўства“ выклікаў ажыўлены абмен думкамі. Выказалася шмат рабочых. якія падкрэсьлівалі важнасьць факту прыняцьця навуковага шэфства над колгасам „Гігант“ і на тых задачах, якія стаяць у сувязі з гэтым перад мясцовымі працаўнікамі. Сход ухваліў програму шэфства, пастанавіўшы прасіць БАН і НДІ пашырыць шэфства на ўвесь раён, узмацніць працу раённага Т-ва Краязнаўства організаваць гурткі на азнаямленьні з пытаньнямі краязнаўства па профсаюзах, організаваць краязнаўчыя гурткі на прадпрыемствах і пры сельсаветах. Урэшце сход вынес пастанову аб узьняцьці пытаньня аб адводзе пад музэй царквы. Сход актыву ў Жлобіне па гэтым пытаньні быў не такім шматлюдным, але досыць актыўным. На сходзе выказалася аб задачах краязнаўства шмат асоб, якія падкрэсьлівалі патрэбу ўзмацненьня працы раённага Таварыства Кр-ва. Было пераабрана Праўленьне Т-ва Краязнаўства і прыняты конкрэтныя пастановы аб далейшай працы Таварыства. Узяты курс на пашырэньне краязнаўчай сеткі на прадпрыемствы і па сельсаветах. У аснову працы раённых Таварыстваў Краязнаўства пакладзены плян вывучэньня колгаснага руху.

А. Казак.

## Самакрытыка ў краязнаўчых організацыях.

Усім ужо вядома вялічэзная роля самакрытыкі ў справе палепшаньня бягучай працы нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Паміж тым самакрытыка ў нашых краязнаўчых організацыях яшчэ амаль не разгарнулася. Ёсьць толькі пачынаньні паасобных організацый, сярод якіх вызначаецца сход праўленьня Віцебскаго Акруговага Таварыства Краязнаўства 14 лістапада 1929 г., прысьвечаны перагляду працы таварыства і высьвятленьню яго чарговых задач.

Дакладчык на сходзе, т. Будзько, паміж іншым выказаў наступныя меркаваньні аб працы таварыства:

Нядаўна ў АПА Акругкому заслухана і абгаворана справаздача праўленьня. АПА вынес шэраг указаньняў для прыстасаваньня краязнаўчай працы да патрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва. У сучасны момант рэконструкцыі ўсёй нашай гаспадаркі, у момант шпаркай перабудовы прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад, у момант шырокага разгортваньня культурнай рэволюцыі,—краязнаўства не павінна

быць у баку ад жыцьця, яно павінна быць падпарадкавана сёньнешняму дню, павінна, дапамагаць вывучэньню краю, яго экономікі, прыроды, гісторыі і тых социяльных зрухаў, што цяпер адбываюцца так, каб гэтым вывучэньнем дапамагчы хутчэйшаму выкананьню 5-цігадовага пляну, хутчэйшаму разгортваньню социялістычнага будаўніцтва.

Што-ж мы маем цяпер у нашай працы? Ці адпавядае яна высунутым задачам? Трэба сказаць, што, на жаль, не. Таварыства сваю працу ня зусім увязала з сучаснымі патрабаваньнямі социялістычнага будаўніцтва, яно амаль ня мела сувязі з працай дзяржаўных плянавых устаноў, ня выконвала іх заданьняў. Былі, праўда, некаторыя імкненьні ўвязацца з памянёнымі ўстановамі, але гэтыя імкненьні ня мелі посьпеху. А паколькі сёньнешняя наша праца не адпавядае актуальным пытаньням социялістычнага будаўніцтва, яна траціць жывучасьць, зацікаўленасьць і заціхае. Гэтае заціішша мы цяпер назіраем у горадзе і асабліва ў вёсцы.

Другім недахопам у нашай працы зьяўляецца тое, што краязнаўчая оргацізацыя была аполітычнай, ня мела цьвёрдай і яснай палітычнай установкі ў сваёй працы, займалася г. зв. культурніцтвам. Адсюль—некаторыя артыкулы, зьмешчаныя ў т. 2 зборніку „Віцебшчына", ня маюць правільнай палітычнай устаноўкі.

Трэцім недахопам зьяўляецца не масавасьць організацыі. Краязнаўства ў масах рабочых і сялян не популярызавана, а таму яны і ня ведаюць задач краязнаўчай працы і ня ідуць у організацыю.

Краязнаўчае т-ва, калі паглядзець на социяльны склад, зьяўляецца інтэлігенцкай, пераважна настаўніцкай, організацыяй. Рабочых і сялян налічваюцца адзінкі; спэцыялістыя і іншыя пласты інтэлігенцыі, акрамя настаўніцтва, слаба ўцягнуты ў т-ва.

Разам з названымі недахопамі, якія ёсьць у самай організацыі, трэба адзначыць, што краязнаўчай працай мала цікавіліся савецкія, профэсіянальныя і партыйныя організацыі. Яны не дапамагалі ў пастаноўцы працы на правільны шлях, не садзейнічалі разгортваньню яе. Такія ўстановы, як: АВК, АПБ, РВК, саюз працасьветы, акрплян амаль ні разу не заслухалі справаздачы праўленьня т-ва. З усяго сказанага вышэй выцякаюць наступныя чарговыя задачы ў працы краязнаўчых організацый акругі:

1) паставіць усю працу на новыя рэйкі для ўвязкі яе з задачамі сучаснага социялістычнага будаўніцтва, а дзеля гэтага працу таварыства цесна ўвязаць з працай Плянстатбюро, уцягнуць у лік членаў розных спэцыялістых і ў першую чаргу з „ВАРНІТСО".

2) зрабіць організацыю масавай пролетарскай організацыяй, дзеля чаго ўцягнуць у т-ва рабочых, сялян, комсамольцаў і моладзь, організаваць краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах, у клюбах і ў школах.

3) у сваёй рабоце праводзіць чоткую клясавую лінію, бо цяпер мала лояльнасьці да Савецкай улады, а на практыцы трэба даказаць, што краяведы пад кіраўніцтвам Компартыі дапамагаюць пролетарыяту і працоўнаму сялянству будаваць социялізм.

У спрэчках па дакладу т. Будзько выказаліся т. т. Бэкер, Лубоўскі, Варпаховіч, Барародзкі, Мазуркевіч, Чумакоў і інш., якія дэталізавалі паасобныя тэзы дакладу і высоўвалі іншыя каштоўныя заўвагі аб працы таварыства.

У канцы спрэчак была прынята наступная рэзолюцыя:

„Прызнаючы, што савецкае краязнаўства павінна ўсімі сіламі і сродкамі дапамагаць социялістычнаму будаўніцтву нашай краіны, што краязнаўчая праца пад кіраўніцтвам Комуністычнай парты павінна мець чоткую, клясавую пролетарскую ўстаноўку, праўленьне лічыць, што ў сучасны момант перад таварыствам стаяць наступныя чарговыя задачы:

1) увязка сваёй працы з патрабаваньнямі социялістычнага будаўніцтва, з выкананьнем 5-цігадовага пляну;

2) чоткая клясавая пролетарская лінія ўва ўсёй працы краязнаўчых організацый;

3) масавасьць організацый з удзелам шырокіх колаў рабочых, сялян, комсамольцаў, студэнтаў, навуковых працаўнікоў і спэцыялістых.

Для выкананьня гэтых задач праўленьне прызнае неабходным ужыць наступныя першачарговыя мерапрыемствы:

1) у канцы лістапада, або ў пачатку сьнежня склікаць пашыраны пленум праўленьня з удзелам прадстаўнікоў ад райтаварystваў для абгаварэньня дакладу Плянстатбюро аб 5-ці гадовым пляне на Віцебшчыне і ўдзеле ў выкананьні яго т-ва краязнаўства;

2) зрабіць перарэгістрацыю членаў т-ва ў горадзе і ў раёнах;

4) у канцы сьнежня месяца склікаць V акр. краязнаўчую конфэрэнцыю;

3) сьвяткаваньне 5-хгадовага юбілею прыстасаваць да адчыненьня акруговай конфэрэнцыі;

5) даць паказаньні райтаварыствам, каб яны ў працягу сьнежня месяца правялі раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі для абгаварэньня чарговых задач у краязнаўчай працы, для выбару праўленьня і прадстаўнікоў на акруговую конфэрэнцыю;

6) даручыць прэзыдыуму распрацаваць шэраг мерапрыемстваў па ўцягненьні ў т-ва рабочых, сялян, навуковых працаўнікоў, розных спэцыялістых, комсамольцаў і вучнёўскай моладзі;

7) час да акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі і сьвяткаваньне юбілею скарыстаць для популярызацыі краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас, дзеля чаго паставіць даклад т-ва ў АПБ, скарыстаць газэту „Ві-

цебскі Пролетары" і наладзіць даклады ў рабочых клюбах;

8) лічыць неабходным організаныю пры т-ве польскай і латыскай сэкцый або гурткоў;

9) скласьці новы плян працы акруговага праўленьня, увязаўшы яго з заданьнямі Акрплянстату; выпрацаваць такі-ж прыкладны плян працы для раённых таварыстваў. На падставе пляну акруговага праўленьня даручыць сэкцыям скласьці пляны па розных галінах краязнаўчай працы;

10) паставіць перад ЦБК пытаньне аб хутчэйшай распрацоўцы програм і інструкцый па вывучэньні колгасаў, саўгасаў, фабрычных прадпрыемстваў, экономікі, коопэрацыі і іншых пытаньняў зьвязаных з сучасным соцыялістычным будаўніцтвам.

Іншым краязнаўчым організацыям трэба ўзяць прыклад з Віцебскага таварыства і на шырокіх сходах абмеркаваць сваю ранейшую працу і задачы наступнага часу.

## Праца Праўленьня Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства.

*(Люты 1928 г.—верасень 1929 г.).*

У аснову працы праўленьня т-ва за паказаны пэрыод паложаны дырэктывы IV акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі (10-11 лютага 1928 г.) і пастановы 2-га Ўсебеларускага краязнаўчага зьезду, якія ў агульным зводзяцца да няступнага: працягнуць працу па пашырэньню краязнаўчай сеткі, асабліва ў сельсаветах, на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах, хатах-чытальнях і школах, увязаць краязнаўчую працу з працай дзяржаўных плянуючых організацый, прадоўжыць распачатую працу па выпраўленьні географічнай карты, укласьці археолёгічную карту, распачаць працу па вывучэньні карысных выкапняў, наладзіць экономічнае вывучэньне акругі, дапамагчы ў працы школьна-краязнаўчых гурткоў, весьці працу па організацыі раённых краязнаўчых музэяў, пашырыць экскурсыйна-экспэдыцыйную працу, клапаціцца аб падрыхтоўцы новых краяведаў, уцягнуць у краязнаўчую працу большы лік рабочых, сялян, камуністых і комсамольцаў, популярызаваць краязнаўчую справу ў друку.

### Краязнаўчая сетка акругі:

Акруговае праўленьне кіравала працай наступных краязнаўчых організацый: сэкцый т-ва ў горадзе: эканамічнай, прыродазнаўчай, яўрэйскай, культурна-гістарычнай і школьна-краязнаўчай; гурткоў: пры Белпэдтэхнікуме, Мастацкім тэхнікуме, пры 3-яй школе М. Б. Б. чыгункі; на акрузе—11 раённых таварыстваў. Школьныя і сельсавецкія гурткі на акрузе кіраваліся непасрэдна раённымі таварыствамі краязнаўства.

### Склад акруговых краязнаўчых організацый.

Агульная колькасьць членаў 885 чал. бяз гурткоў, з іх у горадзе 194 чал., на акрузе 691 чал. Па сацыяльнаму палажэньню: рабоч. 27 ч. сялян17 ч., саматужнікаў 2 ч., настаўнікаў 739 чал., сав. служачых, агрономаў-каморнікаў 97 чал., навуковых працаўнікоў 6 чал. Па нацыянальнасьці: беларусаў 786 ч., яўрэяў 85 чал., расійцаў 7 чалавек, палякаў 5 чал. і іншых 2 чал. Па партыйцасьці: членаў КПБ 65 чал., членаў ЛКСМБ 82 чал., беспартыйных 738 чал.

### Праца акруговага праўленьня.

I. У галіне організацыйнай.

Працу сваю праўленьне праводзіла плянава. За паказаны тэрмін адбылося пасяджэньняў прэзыдыуму 12, праўленьня 7. На пасяджэньнях абгаварваліся пытаньні лепшай пастаноўкі працы ў раёнах, гарадзкіх сэкцыях і гуртках. Дзеля гэтага былі заслуханы справаздачы экономічнай, яўрэйскай і прыродазнаўчай сэкцый, гурткоў—пры Белпэдтэхнікуме, Мастацкім тэхнікуме і 3-яй чыгуначнай школе, т-ва пры Вэтінстытуце і раённых таварыстваў Гарадоцкага і Сураскага. Праўленьне давала ім парады і ўказаньні ў правядзеньні працы. У працягу гэтага часу адбыўся адзін пашыраны пленум праўленьня з удзелам прадстаўнікоў ад усіх райтаварыстваў, на якім былі абгавораны мэтодычныя пытаньні правядзеньня работ па высунутых IV конфэрэнцыяй заданьнях, як: укладаньне археолёгічнай карты, выпраўленьне географічнай карты, організацыя фэнолегічных назіраньняў.

Сувязь з раённымі таварыствамі падтрымлівалася пасылкай протоколаў пасяджэньняў, інструкцый па розных пытаньнях, выклікам прадстаўнікоў на пасяджэньні і выездам членаў акр. праўленьня ў раёны. За справаздачны час абсьледваны: Бешанковіцкае, Сураскае, Віцебскае і Межынскае т-вы (інструктажам ЦБК).

Праўленьне трымала сувязь з ЦБК і АВК, з акрплянам і інспэктарыятам нарасьветы, саюзам працасьветы шляхам удзелу прадстаўнікоў апошніх у пасяджэньнях праўленьня і выкананьня паасобных заданьняў. Акрамя таго, т-ва падтрымлівала сувязь з навуковымі і краязнаўчымі організацыямі СССР шляхам перапіскі і абмену выданьнямі. У выніку абмену ўтварылася бібліотэчка т-ва з рознай краязнаўчай літаратурай у ліку 460 кн. Праўленьне кіравала працай па ўсебаковым вывучэньні Сураскага раёну шляхам выпрацоўкі анкет і працаю па экономічным і культурна-гістарычным вывучэньні раёну і пасылкай свайго прадстаўніка для дапамогі на месцы ў працы.

Популярызацыйна-асьветная праца выявілася ў зьмяшчэньні некалькіх артыкулаў у мясцовай газэце, у пастаноўцы краязнаўчых дакладаў у клюбах (працасьветы, шчаціньні-

каў, дрэваапрацовачнікаў, Чырвонай арміі); у наладжваньні выстаўкі выданьняў т-ва ў час сьвяткаваньня 10-гад. юбілею БССР. У мэтах папулярызацыі беларускай народнай песьні існаваў хор, які спыніў у 1928 г. сваю працу з прычыны выезду кіраўніка ў Менск.

II. У галіне навукова-краязнаўчай.

Згодна дырэктыў IVкраязн. конфэрэнцыі, праўленьне кіравала наступнай навукова-дасьледчай працай у акрузе:

1) укладаньнем археолёгічнай карты акругі. З гэтай мэтай выпрацавала падрабязную програму для кожнага сельсаветскага ўпаўнаважанага па гэтай справе, разаслала раёнам карты 3-вёрсткі, праінструктавала прадстаўнікоў райтаварыстваў, як трэба ўкладаць археолёгічную карту. Гэтая праца раённымі т-вамі яшчэ цалкам не выканана, але ўвосень гэтага году яна павінна быць скончана.

2) выпраўленьнем географічнай карты 3-вёрсткі. Праўленьне таксама выпрацавала райтаварыствам програму аб спосабах выпраўленьня карты і праінструктавала прадстаўнікоў райтаварыстваў. Гэта праца вельмі складаная і на выкананьне яе патрэбна некалькі год працы.

3) экономічным вывучэньнем раёну. Праўленьне распрацавала програму вывучэньня розных галін сельскай гаспадаркі і даручыла кожнаму таварыству ўзяць на сябе вывучэньне якой-небудзь аднэй галіны. Такія экономічныя апісаньні раёнаў часткова складзены: у Сураскім, Сіроцінскім, Сеньненскім т-вах.

4) фэнолёгічнымі і мэтэоролёгічнымі назіраньнямі, якія праводзяцца амаль у кожным раёне. Фэнолёгічных пунктаў у акрузе 13. Яны два разы ў месяц дасылаюць свае запісы, якія Акруг. праўленьнем аб'ядноюцца для акруговай зводкі і потым дасылаюцца ЦБК.

5) зьбіраньнем фольклёрнага матар'ялу.

Фольклёр зьбіраюць пераважна школьныя краязнаўчыя гурткі і дасылаюць яго або непасрэдна ЦБК, або акруговаму праўленьню, якое мае фольклёрных запісаў каля 120.

Акруговым праўленьнем наладжаны былі дзьве экспэдыцыі: адна ўлетку 1928 г. для вывучэньня орнітофаўны Віцебскага, Сураскага і Межынскага раёнаў і другая ўлетку 1929 г. па вывучэньні энтомолёгіі Віцебшчыны па раёнах Віцебскім, Гарадоцкім, Езярышчанскім, Межынскім, Сураскім, Лёзьненскім. У выніку экспэдыцыі зьявілася праца па орнітофаўне, якая перададзена для друкаваньня ЦБК, а па энтомолёгічнай экспэдыцыі гэтага году матар'ял яшчэ распрацоўваецца. Акрамя таго члены т-ва прымалі ўдзел у экспэдыцыях Беларускай Акадэміі Навук улетку 1928 г.: археолёгічнай, песеннай і мэдычнай, а ў 1929 г. у маскоўскай навуковай экспэдыцыі па вывучэньні беларускага мастацтва на чале з проф. Некрасавым.

III. У галіне выдавецкай.

Праўленьне выдала ў 1928 г. зборнік прац членаў т-ва „Віцебшчына" т. 2, які зьмяшчае пераважна матар'ялы па с.-г., экономіцы Віцебшчыны, а таксама ёсьць прыродазнаўчыя і культурна-гістарычныя матар'ялы. Цяпер рыхтуюцца да друку праца Красьнянскага, якая высьвятляе тэрыторыяльны рост г. Віцебску пад назвай „Стары Віцебск". Акрамя таго зьбіраецца матар'ял для выпуску 3-га тому зборніку „Віцебшчына".

У сучасны момант праўленьне падрыхтоўваецца да сьвяткаваньня пяцігадовага юбілею свайго існаваньня. У сувязі з гэтым будзе выдана брошурка аб дзейнасьці т-ва за пяць год.

**Праца сэкцый Таварыства.**

Сэкцыі зьяўляюцца тымі навуковымі лябораторыямі, якія кіравалі працай раённых т-ваў у адпаведных для кожнай сэкцыі галінах, а разам з тым вялі працу па вывучэньні гораду.

Эканамічная сэкцыя спачатку працавала досыць інтэнсыўна: яна дала шмат матар'ялаў для зборніку „Віцебшчына", т. 2, выпрацавала дакладныя програмы па вывучэньні с. г. экономікі і інш., але ў апошні час праца заціхла. Сэкцыя распрацоўвае некаторыя пытаньні сельскай гаспадаркі: ільнаводзтва, землеўпарадкаваньня, становішча колгасаў і саўгасаў, саматужная прамысловасьць на Віцебшчыне. Гэтыя вельмі актуальныя пытаньні сёньнешняга дня ўсё-ж не ў дастатковай меры распрацоўваюцца сэкцыяй. Сэкцыя вядзе папулярызацыйна-асьветную працу ў доме селяніна.

**Культурна-гістарычная сэкцыя.**

Культурна-гістарычная сэкцыя распрацавала пытаньні аб літаратуры на Віцебшчыне да і пасьля рэволюцыі, складае гістарычны пуцяводнік па Віцебску, кіруе працай па ўкладаньні археолёгічнай карты акругі, наладжвала чытаньне дакладаў у Чырвонай арміі, садзейнічала ў правядзеньні ахреолёгічнай экспэдыцыі БАН і па вывучэньні мастацтва МГУ 1-га. Праводзіць сваю працу па мэтоду індывідуальных заданьняў. Члены сэкцыі прымалі ўдзел у разборцы архіўных матар'ялаў, дапамагалі ў працы экскурсыйнай камісіі ІНА, чыталі даклады на краязнаўчыя тэмы ў клюбах чыгунічнікаў, шчаціньнікаў, у чырвонай арміі, дапамагалі ў экспэдыцыях: Жыдкова—навуковага сакратара Раніона—па вывучэньні мастацтва, Зярновай з МДУ 1-га па вывучэньні этнографіі, Квітко—загадчыка музычнага габінэту Украінскай Акадэміі Навук па вывучэньні фольклёру, Крагера з Ленінградзкага расійскага музэю па вывучэньні мастацтва, Маліцкага—з Акадэміі матар'яльнай культуры па вывучэньні археолёгіі мастацтва і Марозава з Ленінградзкага Расійскага музэю па вывучэньні археолёгіі. *Прыродазнаўчая* сэкцыя правяла дзьве на-

званыя вышэй экспэдыцыі—орнітолёгічную і і энтомолёгічную і часткова апрацоўвала фэнолёгічныя назіраньні. Наогул праца слаба разгорнута.

*Яурэйская* сэкцыя апрацоўвала яурэйскі фольклёр, распрацавала пытаньне аб намеры царскага ўраду падзяліць яурэяў на саслоўі (праца гэтая перададзена яурэйскаму аддзелу БАН), сэкцыя наладжвае вывучэньне стану мястэчкаў Віцебшчыны, але пакуль што гэтая праца не разьвінулася належным чынам; члены сэкцыі ўлетку гэтага году разам з прадстаўніком яўрэйскага аддзелу БАН абсьледвалі 4 прадпрыемствы г. Віцебску з мэтай высьвятленьня пытаньня аб удзеле яўрэяў у мясцовай прамысловасьці. У працы сэкцыі прымае ўдзел значны лік рабочых яўрэяў. Популярызатарска-асьветную працу сэкцыя праводзіла ў клюбах шчаціньнікаў і дрэваапрацовачнікаў. Сэкцыя дапамагала Музэю ў організацыі яўрэйскага аддзелу пры Музэі, дзеля чаго наладзіла экспэдыцыю ў мястэчкі для збору экспонатаў.

*Школьна-краязнаўчая сэкцыя.* У 1928 г. сэкцыя разьвінула працу: склікала агульнагарадзкую школьна-краязнаўчую конфэрэнцыю і выпрацавала програму працы школьна-краязнаўчага гуртка на летні час. У 1929 г. праца гэтай сэкцыі заняпала.

*Бібліографічная камісія* падрыхтавала да друку досыць поўную бібліографію Віцебшчыны. Бібліографаваньне і скаданьне картатэкі вядзецца і цяпер.

### Гурткі.

Пры Белпэтэхнікуме здавальняюча працаваў краязнаўчы гурток, які імкнуўся прывучыць да краязнаўчай працы студэнтаў тэхнікуму—будучых настаўнікаў.Таксама добра працаваў гурток юных натуралістых пры 3-яй чыгуначнай школе. Гурток пры мастацкім тэхнікуме толькі ў пачатку 1929 г. ажывіў сваю дзейнасьць, даў заданьне членам зрабіць зарысоўкі ўлетку гэтага году і ўвосень думае наладзіць выстаўку. Наогул-жа цяпер праца там наладжваецца.

Адносна ўсіх сэкцый т-ва можна сказаць, што яны ўсё-ж працуюць слаба; адсутнасьць выбару для распрацоўкі актуальных пытаньньў сёньнешняга дня, нерэгулярнасьць і малая колькасьць сходаў, якая тлумачыцца перагрузкай членаў іншай працай, слабая популярызацыя працы, неўцягненьне ў працу рабочых.

### Праца райт-ваў.

Раённыя таварыствы працавалі па заданьнях акруговага праўленьня (укладаньне археолёгічнай карты) выпраўленьне географічнай карты, зьбіраньне фольклёру, фэнолёгічныя назіраньні, экономіка), ЦБК (запаўненьне програм і анкет ца абсьледваньню бюджэту часу селяніна, аб волатах і валатоўках, аб саматужных рамёствах), і БАН (програмы і анкеты), а таксама яны выбіралі і свае мясцовыя пытаньні для распрацоўкі. У некаторых раёнах ёсьць пачаткі краязнаўчых музэяў: Сураж Гарадок, Бешанковічы, Сянно, Астроўна. У іншых раёнах сабраныя экспонаты ляжаць без паказу з-за адсутнасьці памяшканьняў.

### Грашовае становішча.

Матар'яльная база т-ва складалася за 1928-1929 г. з асыгнаваньня па акруговаму бюджэту 1500 руб. і ўласных грошай ад продажы выданьняў 257 р., а ўсяго 1757 р. Гэтай сумы бязумоўна надта мала для шырокага разгортваньня дасьледчай, выдавецкай і організацыйнай працы.

### Недахопы ў працы.

Разам з паказанай працай акруговага т-ва ёсьць шмат і недахопаў.

Ня гледзячы на тое, што з організацыйнага боку краязнаўчая праца на Віцебшчыне аформілася і мае тэндэнцыю разьвівацца ў глыбіню і т-ва мае некаторыя становчыя вынікі ў сваёй працы, усё-ж недахопаў вельмі многа:

1) Яшчэ да гэтага часу ня створана належнай спагаднай грамадзкай думкі вакол сучаснага краязнаўства, якое павінна дапамагаць социялістычнаму будаўніцтву, і таму часта краязнаўчую працу ня лічыць грамадзкаю.

2) Адсутнасьць мінімальнай матар'яльнай базы ў акруговым праўленьні, а асабліва ў раёнах не дае мажлівасьці разьвінуць як сьлед працу.

3) У краязнаўчую працу зусім слаба ўцягнуты рабочыя, сяляне і спэцыялістыя, а таксама нязначны лік прымае ўдзел комуністых і комсамольцаў.

4) Невялікі краязнаўчы актыў (25%).

5) Слабая падрыхтаванасьць часткі краязнаўцаў для дасьледчай працы.

6) Перагружанасьць членаў т-ва іншымі відамі грамадзкай працы ў той час, калі краязнаўства патрабуе замацаваньня пэўнага кадру людзей і стымуляваньня гэтай працы.

7) Часта індыфэрэнтныя адносіны з боку раённых т-ваў да выкананьня заданьняў.

8) Слабая ўвязка краязнаўчай працы з сучаснымі патрабаваньнямі дзяржаўных плянуючых організацый.

9) Слабая популярызатарска-асветная праца як у друку так і рабочых клюбах.

10) Нерэгулярная і часта бясплянавая праца сэкцый.

11) Адсутнасьць да гэтага часу распрацаваных програм па дасьледваньню экономікі (коопэрацыя, колектывізацыя с.-гаспадаркі, фабрычна-заводзкая прамысловасьць, саўгасы, комуны і інш., падняцьце ўраджайнасьці).

12) Самакрытыка яшчэ зусім не разгарнулася сярод краязнаўчых організацый.

13) Пытаньні социялістычнага спаборніцтва яшчэ не закранулі краязнаўчыя організацыі.

## Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства.

Вясною і летам бягучага году Т-ва зрабіла гэткую працу. Вяліся экспэрымэнты па разьвядзеньню тутавіцы і выкарму шаўкапрадаў. Усесаюзны сындыкат дае беззваротную дапамогу Т-ву ў суме 1250 р., калі Т-ва падпіша дагавор. Мясцовы Акруговы бюджэт вызначыў Т-ву гадавую субсыдыю ў суме 4179 р., якую НКФ павінен зацьвердзіць.

Другая вельмі важная праца Т-ва ў гэта лета—экспэдыцыя сяброў Т-ва ў Нараўлянскі раён. Мы прыкладаем тут справаздачу аб гэтай экспэдыцыі. На 1929-30 год Т-ва мяркуе зрабіць наступнае:

**Організацыйная частка:**

1) Правесьці перарэгістрацыю членаў т-ва ў мэтах аслабаненьня ад баласту.

2) Праводзіць популярызацыю краязнаўства на падставе конкрэтных вынікаў працы сярод шырокіх колаў рабочых, батрацкай, бядняцкай і серадняцкай часткі сялянства, наладзіўшы для гэтага чытку лекцый, дакладаў і выставак. Організацыю праводзіць праз Музэй.

3) Правесьці вярбоўку членаў т-ва краязнаўства сярод рабочых, батракоў, бядняцкіх і серадняцкіх колаў сялянства, асабліва КСМ, працоўнае вучнёўскае моладзі, нацменьшасьцяй. У горадзе Мазыры ў члены т-ва Краязнаўства ўцягнуць ня меней *100* рабочых.

4) Наладзіць працу ў *Каленкавіцкім, Каралінскім, Пятрыкоўскім, Жыткавіцкім і Лельчыцкім* т-вах краязнаўства, як сваімі сіламі, так і інструктарскім складам ЦБК, запрасіўшы аб гэтым апошняе.

5) Правесьці Акруговую Конфэрэнцыю Краязнаўства.

6) Правесьці вярбоўку падпішчыкаў на часопіс „Наш Край", давёўшы лік гадавых падпішчыкаў па акрузе да *100—150*.

**У галіне навукова-дасьледчай:**

Прыродна-геаграфічны разрэз:

1) Апрацаваць сабраныя матар'ялы па гео-ботаніцы, геолёгіі, геаграфіі па Нараўлянскім раёне;

2) Закончыць апрацоўку сабраных флёрыстычных матар'ялаў з ваколіцы гор. Мазыра, адначасова працягваючы далейшы збор матар'ялаў;

3) Працягнуць зьбіраньне матар'ялаў для Географічнага Слоўніка Мазыршчыны, закончыўшы апрацоўку сабраных матар'ялаў па Азарыцкім, Капаткевіцкім, Нараўлянскім і Тураўскім р-нах:

4) Закласьці гадавальнік тутавічных дрэў у колькасьці да 1 мільлёну сеянцаў, організаваць выкармку шаўкапрадаў у Мазыры, Нароўлі, Барбарове і Азяранах.

5) Працягваць вопыты па разьвядзеньні скарзанеры, засеяўшы ўвесну 1930 году ёю 0,25 гэкт.

6) Правесьці вопыты па разьвядзеньні доньніка;

7) Пашырыць працы па зьбіраньні колекцый карысных выкапняў, мінэралёгічных і зоолёгічных;

8) Праводзіць мэтэрэолёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні, пашырыўшы сетку фэнназіраньняў.

9) Організаваць лябораторыі.

Грамадзка-эканомічны разрэз:

1) Організаваць вывучэньне па акрузе колектыўных гаспадарак; Акруговым т-вам непасрэдна дасьледваць 5—10 колгасаў.

2) Організаваць вывучэньне саматужнай прамысловасьці ў горадзе.

3) Правесьці ўсебаковае апісаньне фабрыкі „Чырвоны Кастрычнік".

4) Апрацаваць сабраныя экономічныя матар'ялы па Нараўлянскім раёне.

5) Апрацаваць дыялектолёгічныя матар'ялы па Лельчыцкім і Нараўлянскім раёнах.

Культурна-гістарычны разрэз:

1) Працягваць зьбіраньне матар'ялаў па рэўруху Мазыршчыны;

2) Скласьці культурна-гістарычны нарыс г. Мазыра;

3) Працягваць працу па вывучэньні сэктанства на Мазыршчыне;

4) Апрацаваць сабраныя матар'ялы культурна-гістарычнага характару па Нараўлянскім раёне.

**Яўрэйская сэкцыя:**

1) Дасьледваць колектыўныя гаспадаркі Юравіцкага і Нараўлянскага раёнаў.

2) Вывучыць саматужную прамысловасьць у г. Мазыры, адначасова разгарнуўшы гэтую працу ў раёнах.

3) Закончыць зьбіраньне матар'ялаў па гісторыі асьветы сярод яўрэйскага насельніцтва і апрацаваць іх.

4) Зьбіраць матар'ялы па гісторыі рэўруху яўрэйскіх рабочых і саматужнікаў.

5) Апісаць адзін яўрэйскі сельсавет.

**Музэйная праца:**

1) Пашырыць аддзел рэволюцыйнага руху;

2) Організаваць аддзел мясцовае прамысловасьці;

3) Папоўніць прыродазнаўчы аддзел карыснымі выкапнямі і ботанічным матар'ялам;

4) Папоўніць сабранымі зарысоўкамі і фотографіямі этнографічны аддзел;

5) організаваць аддзел дасягненьняў колектыўных гаспадарак.

**Праца краязнаўчай экспэдыцыі па вывучэньні Нараўлянскага раёну.**

Паводле ўкладзенага пляну экспэдыцыяй праведзена наступная праца:

а) Палявыя геолёгічныя досьледы ў 3 вёрсным маштабе па тэрыторыі раёну, за выключэньнем 3-х сельсаветаў паўночнае часткі раёну. Зроблена выемка абразцоў карысных выкапняў, больш, чым за 100 месц, з папярэдняй пробай якасьці іх. Праведзены некаторыя гідролёгічныя досьледы.

Па заканчэньні палявых геолёгічных досьледаў на тэрыторыі 3-х паўночных с/саветаў, пры правядзеньні, затым, нівэліровачных баромэтрычных работ, буравых работ на вучастках, якія паказаны ніжэй, можна будзе ўкласьці геолёгічную карту раёну ў 3-вёрсным маштабе, а таксама ўкласьці геолёгічнае апісаньне раёну.

Каля в. Будкі Галоўчыцкага с/савету знойдзены ганчарныя гліны.

б) Гео-батанічныя досьледы тэрыторыі раёну, за выключэньнем 3-х паўночных с/саветаў, сабраны гэрбары да 1500 экз.

Па заканчэньні гео-батанічных досьледаў будзе ўкладзена ў 3-хвёрсным маштабе карта расьліннасьці, а таксама геоботанічнае апісаньне раёну.

в) Выбарачныя экономічныя досьледы. Апісаньне з экономічнага боку каля 200 гаспадарак бядняцкіх, серадняцкіх і кулацкіх. Для характарыстыкі стану жывёлагадоўлі праведзены абмеры жывёл у колькасьці да 2000 штук (кароў, валоў, коняй). Сабраны матар'ялы для дробнага мясцовага экономічнага раёнаваньня. Праводзілася праца па выяўленьні ўсіх тых процэсаў, якія адбываюцца ў сельскай гаспадарцы, па колектывізацыі сельскае гаспадаркі, па ўвядзеньні агра-мінімуму. Па правядзеньні стацыянарных экономічных досьледаў будзе складзена карта дробнага экономічнага раёнаваньня з экономічным апісаньнем раёну.

г) Сабраны значныя матар'ялы па сэктанству, уплыву царквы.

д) Па гісторыі рэволюцыйнага руху.

е) Па этнографіі. Адных зарысовак зроблена да 250 штук.

ж) Праведзена фотографаваньне ў галіне прыродазнаўчай, экономічнай, этнографічнай да 150 шт.

з) Сабраны ў значнай колькасьці зоолёгічныя матар'ялы.

Для правядзеньня памянёнае працы пакрыта маршрутамі прасторы ў 3375 клм.

Ацэньваючы праведзеную працу, трэба сказаць, што яна яшчэ зьяўляецца толькі ўступнай для разгортваньня, затым, стацыянарнае працы.

Так, у геолёгічнай часьці неабходна правесьці нівэліровачныя працы, бурэньне ў 10—20вёрсным маштабе і ў 3-вёрсным маштабе ў Бярозаўскім, Галоўчыцкім, Барбароўскім і Вербавіцкім с/саветах, а таксама заканчэньне палявых геолёгічных досьледаў на тэрыторыі 3-х паўночных сельсаветаў.

У гідролёгічнай часьці патрэбна правядзеньне статыстыкі па вучоту ўсіх калодзезяў, сабраць ня меней, чым 100 проб вады для аналізу.

У экономічнай галіне патрэбна ня меней, чым у 20 пунктах правесьці стацыянарныя досьледы, для чаго неабходна організаваць сетку корэспондэнтаў, правесьці іх спэцыяльнае інструктаваньне, прыцягнуць для гэтае працы Статбюро.

Уключыць, затым, у плян працы вывучэньне коопэрацыйнага руху, культурнага становішча раёну, санітарнае, вучоту ўсіх географічных об'ектаў.

Побач з гэтым прыняць захады для лябораторнае апрацоўкі матар'ялаў у галіне геолёгічнай, гео-ботанічнай і гідролёгічнай.

У выніку ўсяе працы будзе складзена ўсебаковае апісаньне Нараўлянскага раёну.

## Праца Гомельскага Дзяржаўнага Музэю імя Луначарскага за 1928-29 г.

Гомельскі Музэй мае тры аддзелы:

I. Аддзел рэволюцыйнага руху з першага зьезду РСДП у Менску да моманту ўстанаўленьня ўлады Саветаў.

II. Агульны аддзел, які адлюстроўвае эпохі абшарнікаў у Гомельшчыне—Румянцавых і Паскевічаў.

III. Аддзел Краязнаўства, які адлюстроўвае рысы мінулага і сучаснага становішча краю.

IV. Як дадатак да гэтых грунтоўных аддзелаў ёсьць пры Музэі аддзел парцалянавае вытворчасьці.

### А. Работа па навуковай часьці.

I. Работа над фондамі.

а) *Па аддзелу рэволюцыйнага руху* былі перагледжаны ўсе экспонаты і папоўнены матар'ялам, які паказвае становішча Беларусі ў 1918, 1919, 1920 г. г. і Гомельшчыны ў 1919 г;

б) зложаны інвэнтар выстаўленых экспонатаў;

в) організованы куток політкатаржнікаў.

Пры рабоце з наведвальнікамі аддзел мае чатыры асноўных тэмы: 1) Катарга і сасланьне за час царскае ўлады; 2) Гісторыя разьвіцьця партыі ВКП(б); 3) Рэволюцыйны рух з пачатку 1890 гадоў; 4) Гомельшчына ў 1905-06 г. – 1917—1919 г. г.

Далейшае разьвіцьцё аддзелу патрабуе прапрацоўкі матар'ялаў для малюнку рэволюцыйнага руху ў БССР з пачатку 1917 г.

2. *Па агульным аддзеле:* 1) зроблена групоўка і перасоўка экспонатаў па эпохах XVIII стагодзьдзя, першай і другой чвэрці XIX стагодзьдзя, 2) аддзел папоўнены рэстаўраванай разьбярняй (скульптурай), малюнкавым матар'ялам, які характарызуе моманты з становішча прыгонных сялян, і матар'ялаў з грамадзянскага руху, эпохі другой паловы XIX стагодзьдзя, 3) складзен картачны каталёг рэчаў Музэю на беларускай мове, 4) праверана наяўнасьць двух аддзелаў бібліотэкі. Акрамя гэтага быў

адабраны матар'ял: 1) для выстаўкі к стагодзьдзю сьмерці пісьменьніка А. С. Грыбаедава ў Маскве; 2) у экспортны фонд Белвешгандлю; 3) у фонд яўрэйскага аддзелу Менскага дзяржмузэю (яўрэйскія рукапісы) і 4) адпраўлены дзьве статуі і два бюсты з мармуру ў распараджэньне Наркамзамежспраў.

Пры рабоце з наведвальнікамі аддзел мае ў сучасны момант тры асноўныя тэмы: 1) *„Роля гандлёвага капіталізму ў разьвіцьці прыгоннае дзяржавы ў былой Расіі"*, 2) *„Рэволюцыйная буржуазія канца XVIII і першай палавіны XIX стагодзьдзя,* 3) *„Буржуазія і мастацтва"*.

У далейшым аддзел патрабуе дадаць: 1) матар'ял „інтэлігенцыя 30—40 гадоў, 2) аздобіць малюнкамі становішча Беларусі ў асноўных тэмах і 3) разгарнуць матар'ял для адлюстраваньня эпохі рэформы.

3. Аддзел краязнаўства мае колекцыі па палеанталёгіі і археолёгіі, прыстасаваных да мясцовага краю, а таксама прадметы і дыяграмы матар'ялаў па лясной і сельскай гаспадарцы і вырабаў галоўных галін буйнае прамысловасьці.

Праца аддзелу выявілася ў наступным: 1) організацыя ў Музэі выстаўкі да сьвяткаваньня 10-годзьдзя БССР, 2) організацыя выстаўкі работ мясцовых мастакоў да 10 годз. трагічнай сьмерці комунараў 25 сакавіка 1919 году ў Гомлі, 3) удзельнічаньне ў выстаўцы экспонатамі ў пэрыод зьезду Саветаў Гомельскай акругі.

Аддзел папоўнены новымі экспонатамі, зданымі сялянствам Гомельскага, Буда-Кашалёўскага, Веткаўскага, Хойніцкага раёнаў, прыстасаваных да палеанталёгіі і археолёгіі, а таксама Гом. Акр. Т-ва Краязнаўства перадала Музэю вынікі сваёй экспэдыцыі ў баброву колёнію ўроч. „Сьвенч" і, па даручэньні Музэю, здабыты вопраткі мясцовага сялянскага насельніцтва, для этнографічнага кутка.

Пры рабоце з наведвальнікамі аддзел мае мясцовыя тэмы: 1) зьвярыны чатырохрадавыя ўклады, 2) дагістарычнае і гістарычнае жыцьцё, 3) грунтовыя нарысы гаспадаркі Гомельшчыны.

У далейшым аддзел патрабуе распрацоўкі матар'ялаў для організацыі этнографічнага кутка.

### II. Дасьледчая работа.

Улетку г/г. адбыўся выезд Загадчыка музэю, Архіву і сябра Гом. Краязнаўскага Таварыства, для выйманьня архіву, у ліквідаваны манастыр у Чонках.

У Музэй было перададзена чатыры рукапісныя стараверскія кнігі XV стагодзьдзя і кніга падарожнай даведкі 1832 г., а таксама 6 мерак для драўніны.

### Б. Часовыя выстаўкі.

Часовыя выстаўкі былі зроблены да сьвяткаваньня 10-годзьдзя БССР і ў памяць забітых комунараў у сакавіку 1919 г. у Гомлі, справаздачы аб якіх былі сваечасова накіраваны ў Галоўнавуку БССР. Да першай з іх быў сабраны дыяграмны і фотаздымны матар'ял, а частка была распрацована супрацоўнікамі Музэю, якія паказвалі разьвіцьцё прамысловасьці, колгаснага будаўніцтва, сельскай гаспадаркі, усеагульнага навучаньня ў БССР, а таксама і па Гомельскай акрузе.

Што датычыцца да другой выстаўкі, дык яна мела чысга мастацкі характар. Музэй прапанаваў мясцовым мастаком тэму 24—27 сакавіка 1919 году ў Гомлі". На гэтую выстаўку былі дадзены работы мастакоў: Каўроўскага, Русецкага, Голубкінай, Зорына, Зьвянігародзкага, Тарасава і Шыфрына.

Для выяўленьня, што патрабуе маса ад выяўленнага мастацтва, Музэй распрацаваў анкету. Гэтая анкета падкрэсьліла нахільнасьць гледача да рэальных уяўленьняў і фарбаў.

### Культасьветная праца.

З гледачамі вялося тлумачэньне па момантах асноўных тэм, паказаных вышэй. Апрача таго, былі зроблены тры лекцыі.

Музэй усё больш і больш сваёй працай ахапляе масавага організаванага даведніка, даючы яму вельмі яскравы наглядны матар'ял да тэмаў, таму што яго экспонаты зьяўляюцца вельмі каштоўным агітматар'ялам. Музэй з гэтага боку заслугоўвае большай увагі. Асабліва моцна адбіваецца яго ўплыў на сялянах і чырвонаармейцах.

Для вучоту ўражаньняў Музэем пакладзена кніга запісаў, у якой даведнікі запісваюць свае думкі аб Музэі.

Павялічэньне лічбы гледачоў відаць з табліцы:

**1. Група організ. політ.-культ. нарасьв. установамі.**

| | 1927—1928 г. | | 1928—1929 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Лічбы груп | Лік даведнікаў | Лічба груп | Лік даведнікаў |
| Рабочыя . . . | 54 | 2605 | 98 | 5211 |
| Сяляне . . . | 27 | 952 | 48 | 2044 |
| Чырвонаарм. . | 41 | 2991 | 78 | 3604 |
| Служачыя . . | 31 | 954 | 24 | 768 |
| Вучні . . . . | 111 | 4756 | 226 | 9481 |
| Усяго . | 264 | 12259 | 474 | 21108 |

**2. Неорганізаваныя даведнікі.**

| | 1927—1928 г. | 1928—1929 г. |
|---|---|---|
| Рабочыя . . | 7092 | 9098 |
| Сяляне . . . | 2619 | 3150 |
| Чырвонаарм. . | 2688 | 3067 |
| Служачыя . . | 6835 | 8839 |
| Вучні . . . | 1698 | 4108 |
| Іншыя . . . | 830 | 1087 |
| Усяго . | 21762 | 29349 |
| Агулам за год (1+2) | 34021 | 50457 |

Са школ найлепш карыстаюцца Музэем чыгуначныя, якія прыходзяць у Музэй з абмяжованай тэмай, школы-ж соцвыху, выключна яўрэйск., ідуць больш бяз тэмы—глядзець, як жылі абшарнікі. Пэдагогі грамадазнаўства не карыстаюцца Музэем зусім.

**Недахопы.**

Грунтоўнаю прычынаю ўсіх недахопаў Музэю зьяўляецца недастатковая ацэнка яго, як політасьветнае ўстановы з вельмі каштоўным фондам. На Гомельскі Музэй і да гэтага часу многія ўстановы глядзяць, як ні на што непатрэбнае барахло былога абшарніка, годнае толькі для агітацыйнае працы. Але Музэй мае добры фонд, які дазваляе яму паступова ператварыцца ў Музэй гістарычны, адбіваючы пэрыод XVIII і XIX стагодзьдзя і ня страчвае свайго агітацыйнага значэньня.

Аднак, гэтаму неабходнаму ператварэньню шкодзіць ня так недахоп грашовых сродкаў, як недахоп эксплёатацыйнае плошчы.

Музэй на працягу некалькіх гадоў просіць даць яму магчымасьць пашырыць памяшканьне за кошт плошчы, прылягаючых пакояў сярэдняе часткі б. паляцу, але да гэтага часу гэтае пытаньне ня можа вырашыцца ні Галоўнавукай, ні Гарсаветам.

Другім недахопам Музэю зьяўляецца недахоп навуковага пэрсаналю, штат на працягу 2 гадоў не магчыма было запоўніць, гэтае становішча адбіваецца на ўнутранай організацыі, бо аддзелы ня маюць прызначаных працаўнікоў.

## Агляд надвор'я па БССР

### за лістапад м-ц. 1929 г.

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геофізычнай Службы).*

Надвор'е на працягу месяца стаяла цяплей нормальнага з большай колькасьцю ападкаў у першых 20 дзён і меншай у апошнюю дэкаду. З ходу сярэдніх сутачных тэмпэратур відаць зьяўленьне сярэдніх сутачных тэмпэратур ніжэй нуля, пачынаючы з 2-ой дэкады.

Тэмпэратура за 1-ю дэкаду была вышэй нормы. Адзначаны наступныя перавышшэньні дэкадных тэмпэратур, пры параўнаньні іх з нормальнымі дэкаднымі тэмпэратурамі:

| | |
|---|---|
| Стукачова (Полаччына) | на 4,4° |
| Менск | „ 3,7° |
| Горкі | „ 4,6° |
| Васілевічы (Гомельшчына) | „ 3,7° |

Пры параўнаньні першай дэкады лістапада гэтага году з першай дэкадай лістапада мінулага году, апошняя выходзіць на 1-2° цяплей.

Сярэднія тэмпэратуры другой дэкады лістапада вышэй нормальных.

| | |
|---|---|
| Стукачова | на 2,8° |
| Менск | „ 1,5° |
| Горкі | „ 2,6° |
| Васілевічы | „ 2,8° |

Другая дэкада лістапада мінулага году ў сярэдніх выніках на 2-3° цяплей адпаведнай дэкады лістапада г.г.

Трэцяя дэкада ў сярэдніх выніках цяплей нормальнай, але ў меншай ступені, чым першая і другая дэкады.

| | |
|---|---|
| Стукачова | на 1,7 |
| Менск | „ 1,4 |
| Горкі | „ 1,2 |
| Васілевічы | „ 0,2 |

Трэцяя дэкада лістапада мінулага году цяплей трэцяй дэкады лістапада г.г. на 2-3°.

Ваганьні тэмпэратур(па паказаньнях максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) за паасобныя дэкады наступныя.

| | | |
|---|---|---|
| 1-я дэкада | ад — 2,7° | да 15,4° |
| 2-я „ | „ — 4,7° | „ 7,9° |
| 3-я „ | „ — 5,0° | „ 3,3° |
| М-ц | — 5,0° | „ 15,4° |

Самая нізкая тэмпэратура паветра была адзначана ў Нов. Каралеве (Віцебшчына) — 5,0° 22-XI, самая высокая 15,4 у Васілевічах 2-XI.

У сярэдніх выніках тэмпэратура лістапада вышэй нормальнай на 1—3° і 2°-3° ніжэй сярэдняй тэмпэратуры лістапада 1928 г.

*Ападкі.* За першую дэкаду ападкаў больш выпала ў паўночных акругах Полацкай і Віцебскай 10—25 мілімэтраў. У іншых акругах іх выпала менш — паводле вестак большасьці мэтстанцый тут значыцца 10 мілімэтраў і менш.

За другую дэкаду ў паўночных акругах ападкаў выпала менш, чым у першую. У іншых акругах за другую дэкаду выпала больш, чым у першую. Што да разьмеркаваньня гэтых ападкаў па тэрыторыі БССР, то большыя іх колькасьці, якія часам дасягаюць 35 мілімэтраў прыходзяцца на акругі Менскую, Мазырскую і Бабруйскую. У іншых акругах выпала 15 мілімэтраў і менш.

У трэцюю дэкаду, наогул, па БССР ападкаў выпала менш чым у кожную з першых 2 дэкад. Толькі па Полацкай акрузе нагледаліся колькасьці ападкаў ад 5 да 10 мілімэтраў, а так паўсюль іх выпала менш 5 мілімэтраў. Характэрным момантам трэцяй дэкады зьяўляецца больш-менш аднародны расклад ападкаў па тэрыторыі БССР.

Наогул, у лістападзе ападкаў выпала менш нормы. Найбольшае адхіленьне ў бок недахопу ападкаў заўважваецца па мэтстанцыі Сянно (Віцебск. акр.) — на 33 мілімэтры менш нормы (або выпала толькі 40%).

Большасьць мэтстанцый БССР паказвае недахоп на 15—25 мілімэтраў і толькі тры мэтстанцыі адзначаюць колькасьць, якая нязначна перавышае норму — Вушач (Полацкае акругі) на 5 мілімэтраў больш, Расоны (Полацкае акр.) на 2 мілімэтры больш, Тураў (Мазырскае акр.) на 2 мілімэтры больш.

Ападкі выпадалі ў выглядзе дажджоў галоўным чынам.

Лік дзён з ападкамі за м-ц вагаецца ад 8 да 24.

Сьнег выпадаў галоўным чынам у канцы м-ца (27—30—XI), калі мясцамі быў адзначаны сьнегавы насьціл таўшчынёй ад 1 да 6 сантымэтраў (Касьцюковічы Маг. акр. 14 см.), але гэты насьцiл у далейшым не затрымаўся і зьнік.

Воблачнасьць у сярэднім вагалася ад 82% до 96% (нормальная 80%—85%).

Сярэдняя хуткасьць ветру 3—5 мэтраў у сэкунду і напрамак адпавядаюць нормальным (2—5 мэтр. у сэк. паўднёвых і паўднёва-заходніх румбаў).

Лік дзён з туманамі адзначаны да 17. Па Менску значыцца 17, што блізка падыходзіць да максымальнай колькасьці (19), якая наогул была адзначаны па Менску.

Складзены 18—XII—29 г.

Г. Маслакавец.

---

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Газеты и журналы СССР.** Справочник на 1929 г. о всех периодических изданиях, выходящих в СССР. Составили *А. П. Хомский и П. С. Чеховской.* Москва, издатель. НКПТ, 1929, 168 стар. Тираж 12.000, цена 1 руб.

Нядаўна вышла ў сьвет гэтая кніга, якая, бязумоўна, магла быць каштоўнай для кожнага культурнага работніка, ня кажучы ўжо пра тых, хто мае справу з пашырэньнем друку ды з палітасьветнай справай наогул, калі-б была добра зроблена. Яна зьмяшчае ў сабе весткі пра часопісы і газэты, што выходзяць на тэрыторыі ўсяго СССР. Матар'ялы разьмеркаваны па двох асноўных разьдзелах. У першым даюцца весткі аб газэтах, у другім — аб часопісах.

Але ўласна ўжо ад разьмеркаваньня матар'ялу і пачынаюцца хібы гэтай кніжкі, якія значна зьніжаюць яе вартасьць. Так, газэты разьмешчаны ў такіх аддзелах: а) Маскоўскія газэты, б) Ленінградзкія, в) Харкаўскія, г) іншыя і д) сьпіс усіх газэт у альфабэтным парадку. Так і відаць, што аўтары разумеюць СССР, як былую Расію. Для іх толькі назва зьмяніліся і больш — нічога. Вось дзякуючы гэтаму яны ў аснову пляну першага разьдзелу ўзялі два-тры буйнейшыя гарады, а за імі — „прочие". Калі вылучаліся сталічныя гарады, то трэба было вылучыць сталіцы ўсіх саюзных рэспублік, калі найбольшыя—то трэба было вылучыць некаторыя да Харкава і пасьля Харкава, а не кіравацца плянам дарэвалюцыйных даведнікаў.

У другой частцы даведніка зьмешчаны часопісы у 34 разьдзелах. Тутака таксама можна-б было знайсьці шмат недахопаў, але галоўныя з іх — гэта зьмяшчэньне часопісаў ня ў тых разьдзелах, што трэба. Так краязнаўчы часапіс „Наш край" зьмешчаны ў разьдзеле „Прамысловасьць. Фінансы. Экономіка. Статыстыка", а не ў разьдзеле „Сьветазнаўства, Краязнаўства, Географія Этнография".

Да гэтага далучаецца як-бы знарок няправільная інформацыя. Той-жа „Наш край" названы экономічным часопісам, у той час як ён краязнаўчы; „Беларускі Піонэр" па вестках аўтараў штомесячнік, а па справе — двохтыднёвік, тое самае пра „Беларускую работніцу і Сялянку", „Беларуская мэдычная думка" па іхняму выходзіць аж два разы на месяц — а на справе — ня можа здолець і аднаго разу на месяц і г. д., і г. д.

Мы ўжо ня кажам аб тым, што назвы перакручаны як-мага. У транскрыпцыі гэтых аўтараў не пазнаеш нават тых часопісаў, якімі кожны дзень карыстаешся. А пакалечыла назвы ўсё тая-ж русыфікацыя, якую ніяк ня могуць кінуць аўтары: „Летопись белорусского друку"(?), „Белорусска медична думка"(?) і д. т. п. Праўда, часамі, зусім выпадкова для аўтароў, назва не перакручана, але гэта ў адносінах да часопісаў і газэт не на расійскай мове — выключна рэдкія выпадкі.

Пасьля ўсяго гэтага ня дзіва, што даведнік гэты далёкі ад якой-бы то ні было паўнаты. У ім няма вестак пра: 1) „Бальшавік Беларусі", 2) „Паляўнічы Беларусі", 3) „Беларуская вэтэрынарыя", 4) „Бюлетэнь таварыства Чырвонага Крыжу", 5) „Узвышша", 6) „Бюлетэнь ЦП Саюзу Сельгасп. і Лясн. Рабочых БССР", 7) „Бюлетэнь ЦСУ БССР", 8) „Бюлетэнь АПАД ЦК і Мен. АКА КП(б) і г. д., і г. д. Калі да гэтага далучыць тое, што аўтары не зьмясьцілі па БССР, а па некаторых гарадох зьмясьцілі, то гэты сьпіс можна значна працягнуць. Так, у даведніку таксама няма вестак пра: 1) „Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук" раней ІБК, зараз БАН, 2) тое-ж па Аддзелу Гаспадаркі, 3) „Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту", 4) „Працы Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі", 5) „Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай і Лясн. Гаспадаркі", 6) „Працы Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі", 7) „Бюлетень" раней ІБК, зараз БАН і г. д., і г. д.

Тое самае, відаць, і па іншых рэспубліках, аб якіх мы зараз не гаворым.

Горш за ўсё тое, што ўсе гэтыя хібы напэўна залежыць толькі ад нядбайнасьці аўтараў. Бо, калі-б яны паглядзелі хоць раз у „Летапіс беларускага друку", пра які ў сваім даведніку не маглі ўспомніць — яны-б лёгка пазбавіліся ад усіх хібаў свае працы па БССР.

Паміж тым для краязнаўцаў гэтая кніжка магла-б быць надзвычайна карыснай. Краязнаўцу неабходна ведаць, што і дзе выходзіць як для таго, каб азнаямленьнем з друкам быць у курсе найноўшых дасягненьняў навукі, краязнаўства і палітыкі, так і для таго, каб орыентавацца ў магчымасьцях рэалізацыі сваіх прац.

На жаль у гэтым відзе даны даведнік траціць амаль усю сваю вартасьць як для краязнаўца, так і для палітасьветнага працаўніка, якім яны асабліва патрэбны. Б. і К.

# Краёвая бібліографія.

Працяг *)

### Гомельшчына.

Адам. Што сказаў II-гі акругова зьезд профсаюзаў Гомельшчыны. (9—12. V.) Проф. Рух. Бел. 928. № 11. с. 7-8.

Акимов, В. Итоги расширенного пленума ГСПС. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 27, с. 8.

Акимов, В. П. На IV-й сессии губернского совета Профессиональных союзов (Гомель)Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 2.с. 50—52.

А. Л. Некоторые итоги шефства над деревней. (По материалам информационного п/отдела губкома) (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 59. с. 36—43.

А. Л. О шефстве над деревней. (Гомельской губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 60-61. с. 38—41.

А. Л. Трудности строительства сель.-хоз. кооперации оргомны, но преодолимы. (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 20 (103) с. 54—57.

А. Л. Условия развития государственного сельско-хоз. кредитования в Гомельск. губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. № 80. с. 133—136.

Альтшулер, И. Г. К истории революционного движения в Гомеле. (Личные воспоминания) (90 г. г. — 1904 г.) Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 924. № 75. с. 80—83.

Андросенко. Итоги перевыборов потребкооперации (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 43. с. 29—32.

Андросенко. Недостатки сельской потребкооперации и ее очередн. задачи. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 6. с. 53—56.

Андросенко. Результаты добровольного членства в потребкооперации. Гомельск, губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 75. с. 72-73.

Анишкин, Н. Задачи партколлегии Г. К. К. (Гомельск. Контр. Комиссии). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 72. с. 41.

Анишкин. Н. Некоторые вопросы хозяйственной и партийной работы на VI пленуме ГКК. (Гомель). Полесск. Коммун. 925 № 19 (102). с. 14—18.

Анишкин, Н. Некоторые итоги режима экономии по Гомельской губернии. Полесск. Коммунар. 926. № 17. с. 9—13.

Ан-ко, А. Не плохо, но нужно лучше. (Состояние сельской кооперации Гомельского района ко дню кооперации). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 12, с. 67—69.

А. П. Итоги с'езда Рабземлеса. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 2. с. 56—57.

А. П. Пятый губернский с'езд союза работников земли и леса. (Гомель). Изв. Гом. К. РКП. 924. № 65. с. 47—49.

А. П. Учет и организация батрачества. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 66. с. 48-49.

А. Р. Гомельщина строится. (Жилищное строительство). Полесск. Коммунар. 926. № 13-14. с. 58—62.

А. Р. Работа оживает. (По данным отчетной кампании потребобщества Гомрайсоюза). Полесск. Коммунар. 925. № 23 (105). с. 58—59.

Арнаутов, В. К плану первоочередных работ в сельско-хозяйственную компанию 1922 года по Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К-та РКП. 921. № 17. с. 3—5.

Аргановский, Б. Культурное шефство ячеек РКП Гомельского горрайона над деревней. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 45—53.

Архангельский, Б. Д. Экономическое состояние Гомельского и Речицкого округов. Сав. Буд-ва 927. № 1. с. 31—46.

А. У. Мэліорацыя ў Гомельшчыне. Плуг. 927, № 3. с. 44-45.

Афанасьев. Местный бюджет (1923-4 г. Гом. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. №67. с. 63—65.

Афанасьев. Местный бюджет (Гомельской) губ. на 1924-25 г. Изв. Гом. К. РКП. 924. № 80. с. 115—118.

Афанасьев, О едином сельхозналоге в Гомельской губернии. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 75. с 68—71.

Афанасьев, И. Перспективы местного бюджета на 1926-27 г. (Гомельской губерн.) Полесск. Коммунар. 926. № 17. с. 14—20.

Афанасьев. Перспективы местного бюджэта на 1924-25 г. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 74. с. 33—36.

Афанасьев, Я. проф. Почвенный покров Гомельской губ. Сав. Буд-ва. 926. № 2. с. 112—115.

Афанасьев. Удельный вес культурно-просветительных и социальных учреждений в местном бюджете Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 3. с. 52—55.

Афанасьев, И. Финансовый план Гомельской губ. на 1925-26 г. Полесск. Коммунар. 925. № 21-22 (104). с. 89—95.

*) Гл. „Наш Край“ 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11.

Базовский. Состояние и перспективы промышленности Гомельской губернии. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 45. с. 32—37.

Балашов, И. „Ножницы" в Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 57. с. 51—54.

Балашов, И. Подготовка и перспективы хлебозаготовительной кампании в губернии (Гомельской). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 11. с. 28—32.

Барашка, Іл. Справа з абвесткамі ў Гомлі. (Гістарычная нататка з часоў рэволюцыі 1905 г.). Маладняк. 925. № 9. с. 83—88.

Бастынец. Отчет губернск. контрольной комиссии. (С апреля по октябрь. Гомельская губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923 № 54. с. 72—75.

Бастынец. Работа Контрольной Комиссии за 3 м-ца. (За период октябрь—декабрь 1923 г.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 62. с. 68—71.

Б-им, М. Перспективы хлебозаготовок в 1925-26 году. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 13. с. 17--19.

Б-ин, И. Под знаком роста. (По письмам селькоров местных газет о текущей кампании). (Перевыборы в Гомельской губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 4. с. 95—97.

Бирюков, Б. Экономическое положение рабочей молодежи. (Гом. Губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 24. с. 20—23.

Блажневич, Ф. Сельско-хозяйственная кооперация в Гомельской Губ. Положение низовой сети на 1-ое января 1924 г. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 62. с. 44—48.

Блюдин. Из воспоминаний рядового подпольщика (1904-1905) (Гомель) Извест. Гом. Губ. Ком. РКП. 923. № 59. с. 88—91.

Боборыкин, И. Когда спадала революционная волна. (К двадцатилетию Гомельского погрома 1906). Полесск. Коммун. 926. № 2. с. 44—50.

Боборыкин. Летопись борьбы и строительства („Известия Гомельск. Губкома"). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 82. с. 12—15.

Борин. В „недрах" Гомельщины. (Залежи красильных глин возле Лоева). Полесск. Коммун. 926. № 18. с. 79-80.

Бр. Накануне хлебозаготовок. (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 926, № 15-16. с. 50—57; № 17, с. 21—25.

Брискин, М. Еще о хлебозаготовках. (Гомельск, губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 16 (99). с. 20—24.

Брискин, М. На путях смычки. (Товарооборот в губернии). (Гомельской). Полесск. Коммунар. 925. № 20. (103). с. 58—62.

Брандербургский, Я. Предварительные итоги продовольственной компании в нашай (Гомельской) губернии. Изв. Гом. губ. К. РКП. 920. № 5. с. 6-7.

Брахман, А. Внутрипартийная воспитательная работа в губернии. (Опыт критической оценки (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 63-64. с. 14—20.

Брахман, А. Итоги проверки политзнаний членов партии. (Отдельные выводы из опыта проверки политнеграмотных одной ячейки). (Гомель). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 52-53, с. 25—28.

Брахман, А. Итоги проверки политзнаний членов партии по губернии (Гомельской). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 55. с. 19—22.

Брахман, А. Зарождение организации с. с. (сионистов-социалистов) в Гомеле (1901—1903 г.) Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 73. с. 61—64.

Брахман, А. К работе женотдела среди работниц. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. К. РКП. 924. № 60-61. с. 45—47.

Брахман, А. Обработка Ленинского призыва. (Оценка работы политшкол и кружков сокращенного типа по итогам губ. совещания агитпропработников). Изв. Гом. губ К. РКП. 924. № 66. с. 12—14.

Брахман, А. О работе среди нацменьшинств. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 54. с. 7—10.

Брахман, А. О шефстве над деревней в нашай (Гомельскай) губернии. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 92. с. 19—22.

Брахман, А. Переподготовка учительства. (Гом. губ.) Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 72. с. 23—26.

Брахман, А. Путь „Известий" (Гомельского Губкома). Изв. Губ. губ. К. РКП. 924. № 82. с. 20-21.

Брахман, А. Состояние и задачы работы партийных библиотек в губернии. (Гомельской). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 52-53. с. 12—16.

Брэжго, проф. Архівы і архіўная праца ў Віцебшчыне. Віцебшчына. 925. т. I. с. 52—60.

Буклер і Клейнер, И. Полиграфическое производство в нашай губернии. (Гомельской). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 81. с. 48—52.

Б. Ш. Ликвидация неграмотности в нашай губернии (Гомельской). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 60-61. с. 69-72.

Быков, О некоторых природных богатствах Гомельщины. (По материалам РКИ). (Использование лугов. залежи красок). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 2. с. 41-42.

Быховский. Гомельская страхкасса. Проф. Рух. Бел. 928. № 7. с 15.

В. Экономработа Гомельских предприятий. Проф. Рух Бел. 928. № 16. с. 5-6.

Валешко. В польских селениях губернии (Гомельской. Впечатления партработника). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 73. с. 53-54.

Валицкий, В. Итоги пленума Губисполкома (Гомель). Полесск. Коммунар. 925. № 18 (101) с. 61-62.

Валицкий, В. Итоги предвыборной компании (в Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 4. с. 92—94.

Валицкий, В. Состав сельсоветов по Гомельской губернии. Изв. Гом губ. К. РКП. 924. № 83. с. 47-48.

В. Б. Вопросы пушных загатовок на пленуме Гомельского т-ва (охотников). Паляўнічы Бел 928. № 5 (10). с. 7-8.

[... В Гомельском Окр. Комитете (Красного Креста). Бюл. Бел. Т-ва Чырв. Крыжу. 927. № 7—9. с. 51—53.

Векслер. Обзор кон'юнктуры хозяйства Гомельской губ. за III-й квартал 1924-1925 хоз. года и за IV-ый. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 15. с. 6—12; № 16. с. 12—19; № 21-22, с. 45—51.

Векслер, И. Сельская школа перед началом учебного года. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 77. с. 74—77.

Векслер, И. Школа крестьянской молодежи в Гомельской губ. (Итоги и выводы губ. Совещания по ШКМ). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 80 с. 110—114.

Векслер и Гольдштейн. Обзор кон'юнктуры хозяйства Гомельской губ. за II-й квартал 1924-25 хоз. года и за II-й 1923-24 г. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 9. с. 27—32; № 10, с. 18—23.

Векслер, И. и Шмулевич, Б. Итоги и задачи народного просвещения. (Всеобщее обучение и ликвидация неграмотности). (Гом губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 70. с. 84—89.

Виноградов, А. Итоги проверки советских ячеек. (Основные цифры и выводы). (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 16 (99) с. 31—36.

Винц, Я. Итоги учительских с'ездов. (Впечатления). (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 80. с. 140—144.

Винц, Я. Сельский учитель (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 72. с. 49—51.

Вирганский, В. О губс'езде бывших эсеров. (б. Гомельская губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 59. с. 17—21.

В. М. Состояние потребкооперации и ее очередные задачи. (Гомельск. губ ). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 37. с. 16-17.

Войткевич. Результаты государственного страхования в (Гомельской) губ. за первую четверть операц. года. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 4. с. 51-52.

Войткевич, Состояние и перспективы страхового дела в Гомельской губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 80. с. 123—127.

Волков, В. и Розин, А. Значение известковых отбросов Добрушской писчебумажной фабрики. Сав. Буд-ва. 928. № 10. с. 79—82.

Волковицкий. О налоговом аппарате губернии. (Из материалов обследования Губ. РКИ.) (Гомельск губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 17 (100) с. 72-73.

[... В 1-ой районной еврейской партшколе. Отчет о деятельности (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 11. с. 11.

[... 2-ое (Гомельское) губернское совещание секретарей вол'ячеек. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 38. с. 31—42; № 45. с. 82—92.

Гальперин, Ц. Гомельская Губпартшкола за 5 лет. Полесский Коммунар. 925. № 21-22. (104) с. 68-71.

Гальперин, Ц. Опыт применения Дальтон-плана в Гомельской губпартшколе Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 2. с. 22—26.

Ганжа, А. Мястэчка Чачэрск, Гомельскай акругі. (Географічна-гістарычны нарыс). Наш Край. 927. № 1. с. 59-61.

Гантман, В. Состояние и задачи школы в текущем учебном году. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 57. с. 39—42.

Гантман, В. Строительство школы. Некоторые выводы из инспекторского с'езда по народному образованию. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 62. с. 38—43.

Г. Г. Некоторые итоги и перспектива. (хозяйство Гом. губ.). Полесск. Коммунар. 926. № 20. с. 77—81.

Гезенцевей, М. Зарождение организации РС-Д РП. в Гомеле. (Воспоминания). (90 г. г.). Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 37. с. 37-38; № 38. с. 61-62.

Гезенцевей, М. А. Итоги проведенной компании сельско-хоз. налога 1924-25 г. и перспективы третьего окончательного срока. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 3. с. 56—60.

Гезенцевей, М. Итоги компании сельхозналога 1924-25 г. и перспективы предстоящего года. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 9. с. 59-60.

Гезенцвей, И. Как праздновали и готовились к первому мая в годы подполья. (Гомель в 1897 г.). Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 923. № 44. с. 62.—64.

Гезенцевей, М. Как прошла подготовка кампании сельхозналога 1924-25 г. в Гомельск. губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 70. с. 38—40.

Гезенцевей, М. Начало кампании сел.-хоз. налога (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 78. с. 49-50.

Гилинский, А. К итогам пленума (Гомельск. Губкома). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 3. с. 10—13.

Гилинский, А. К юбилею „Известий" (Гомельск. Губком РКП). Изв. Гом. Губ. К. РКП 924. № 82. с. 8—11.

Гилинский, А. Итоги XI-ой губпартконференции. (Гомельской). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 68-69. с. 6—9.

Гилинский, А. К итогам XII губпартконференции (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 81. с. 26—29.

Гилинский, Итоги XIV партконференции. (Даклад на собрании Гомельского partактива 7 мая 1925 г.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 9. с. 15—21.

Гилинский, А. От Нэп'а к коммунізму. (Состояние сельск. хоз-ва и промышленности в Гом. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 79. с. 26—31.

(Гинзбург). Из истории Полесского Комитета РС-ДРП. (Из воспоминаний). Извест. Гом. Губ. Ком-та РКП. 924. № 6-7. с. 72—74.

Гинзбург. Перевыборы Гомельского Городского совета. Изв. Гом. К. РКП. 923. № 58. с. 42-43.

Глуховский, А. Комсомольская ячейка деревни как она есть. (По материалам обследования ГКК по Речицкому уезду). Полесск. Коммунар. 926. № 13-14. с. 11—15.

Глуховский, А. Политуровень губернской организации РЛКСМ. (Гомельской). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 1. с. 41-42.

Говзман, И. Речицкая уездная организация РКП. (Доклад о результатах обследования ее инструктором губкома 15—25. XI. 1922 г.) Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 36. с. 46—48.

Гольдштейн, Г. Вопросы районирования. (Гомельской губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 24—28.

Гольдштейн. Как перестраивалась наша губерния после революции. (Изменение границ Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 79. с. 72—74.

Гольдштейн. Национальные моменты при перевыборах советов. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 78. с. 40—42.

Гольдштейн. Обзор кон'юнктуры Гомельской губ. к началу 1925 года. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 925. № 5. с. 26—30.

Гольдштейн, Г. Обзор кон'юнктуры хозяйства Гомельской губ. Изв. Гом. К. РКП. 925. № 6. с. 12—15.

Гольдштейн, Г. Промышленность Гомельской губ. в условиях осеннего кризиса. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 56. с. 34—37.

[... Гомель и городские поселения Гомельшчыны. Предварительные итоги переписи 1926 года и некоторые данные текущих учетов обследований. Гомель 927. с. 80.

[... Гомельская городская организация РКП(б). Обзор деятельности). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 921. № 11. с. 17—19; № 13, с. 9—12; 922, № 27. с. 22; № 35, с. 22—24; 923, № 43, с. 107—110. Некоторые статьи падписаны: Я. Шифрис, Р. Гехт, Розин.

[... Гомельская губернская (парт.) организация. (Отчет о деятельности). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 41-42. с. 37—45. 4 т.

[... Гомельская общегородская партийная конференция (4-5 мая 1923 г.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 45. с. 57—81.

[... Гомельская уездная организация РКП(б). Изв. Гом. К. РКП. 921 № 16, с. 30—33; 922, № 28, с. 37-38; 923, № 40, с. 34—38; 924, № 77, с. 78-79. Авторы статей: Казарновский, Говзман, Карпов.

[... Гомельский губернский банк. Отчет. 4-й операционный год с. 1. X 1925 по 1. X. 1926 г. Гомель 926 с. 40.

---

## ПАПРАЎКА.

У артыкуле „Па Барысаўшчыне“ („Наш Край“ № 11) на стар. 48 (4 радок зьнізу) надрукавана „5 сямігадовых школ“, а трэба: „8 сямігадовых школ“.



Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.

Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

# Зьмест „Нашага Краю“ за 1929 г.

## № 1 (студзень).



## № 2 (люты).

## № 3 (сакавік).



### Матар'ялы з месц.



### Хроніка.



### Бібліографія.



## № 4 (красавік).



### Матар'ялы з месц.



### Хроніка.



### Бібліографія.



## № 5 (травень).



### Матар'ялы з месц.



### Хроніка.

Бібліографія.

Наш раён. Часоп. краязн. гуртка пры Асіпавіцк. чыгун. 7-цы № 4, 1929 г. М. Касьпяровіч.—Родны кут. Часоп. краязн. гуртка пры Асіпавіцк. 7-цы № 1, 1929 г. М. Касьпяровіч.—Школьная праца. Часоп. Дзьвінскай Дзярж. Бел. Гімназіі 1929. М. Касъпяровіч.—Краёвая бібліографія.

## № 6—7 (чэрвень—ліпень).

В. Самцэвіч. — Да пытаньня аб краязнаўчай працы ў нізавых краязнаўчых арганізацыях—3. М. І. Касьпяровіч. — На Асінбуд—7. В. Скардзіс. — Літоўцы на Беларусі—10. М. Азбукін — Да пытаньня аб вывучэньні сялянскіх будынкаў—25. М. Крываротчанка. — Украінскае краязнаўства—35. Проф. П. Салаўёў. — Аб тэрмінах сяўбы жыта ў сувязі з падвышэньнем ураджайнасьці—41.

Матар'ялы з месц.

Е. В. Кушалевіч. — Кабылянскае балота—45. М. І. Саламыкін — Дарожныя нататкі—58. К. С. Баеў. — Да пытаньня аб крыніцах і літаратуры па гісторыі Гомеля і Гомельшчыны—65. У. Уладзіміраў. — Рачны рак — Actacus leptadactylus—70.

Хроніка.

Справаздача Цэнтр. Бюро Краязнаўства аб становішчы краязн. справы ў БССР на 1/І 29 г.—72. Краязнаўства ў вышэйшых школах і тэхнікумах у 1928/29 акад. г.—73. Школьна-краязнаўчы рух у Полацку—76. Казкі пра волатаў на Чэрвеншчыне—77. Барысаўскае Раённае Т-ва Краязнаўства—78. Азарыцкая раённая краязнаўчая конфэрэнцыя—79. У парадку соцыялістычнага спаборніцтва—79. Беларускі Навукова-Краязнаўчы гурток у Латвіі—79. Мэтодыка краязнаўства ў пэдтэхнікумах—81. Чарговыя задачы краязнаўства на Меншчыне—83. Валатоўкі і зьвязаныя з імі перажыткі—84. Краёвая бібліографія — 90. Бібліографія — 93.

## № 8—9 (жнівень—верасень).

В. Самцэвіч. — Бліжэйшыя задачы краязнаўчай працы ў сувязі з выкананьнем пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва—3. В. Скардзіс. — Літоўцы на Беларусі (працяг)—8. Віт. Вольскі. — Беларускія элемэнты ў бытавой абраднасьці літоўскіх татар—23.

Матар'ялы з месц.

І. Крыцкі. — Будаўніцтва сельскае гаспадаркі Случчыны—30. А. Жаўрыд.— Лекавыя сродкі народнай мэдыцыны—59. Проф. П. Салаўёў. — Атрутная мошка—63. А. Шашалевіч. —Па Дьзвіне ў Сураж—64. Г. Лагун. — Мікольскі кірмаш у Рагачэве—71. І. Карандзей. — Помнікі старасьветчыны і краявіды Вульскага і Расонскага раёнаў у Полаччыне—74. Т. Гурыновіч. — Там, дзе знойдзены Старобінскія грыўны—75. С. Мялешка. — Праца навукова-дасьледчае экспэдыцыі Цэнтральных Дзяржаўных Рэстаўрацыйных майстэрняў у Полацку—77.

Хроніка.

Інструкцыйны ліст да ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР — 81. Дзейнасьць ЦБК — 82. Што атрымала ЦБК і час. „Наш Край“ у красавіку—ліпені мес. 1929 г.—83. Ахова помнікаў прыроды на Украіне—84. Пэрспэктывы цукраварэньня ў Беларусі—85. Другая Латвійская географічная конфэрэнцыя—85. Экспэдыцыя па вывучэньні помнікаў старасьветчыны г. Полацку—87. Разьведачная археолёгічная экспэдыцыя—87. Па колгасах Азарыцкага раёну—89. Краёвая бібліографія — 91.

## № 10 (кастрычнік).

1-я Ўсебеларуская Выстаўка сельскай гаспадаркі, прамысловасьці і краязнаўства БССР — 3. В. Самцэвіч. — Аб організацыі краязнаўчае працы на фабрыках і заводах—7. Я. Раманчук. — Вывучэньне гісторыі мясцовага рэволюцыйнага руху - 12. Ів. Шпілеўскі і Л. Бабровіч. — Сынхроністычная табліца падзей паўстаньня на Беларусі, Літве і Польшы ў 1830-1831 г.г.—18.

Матар'ялы з месц.

А. Немцаў. — Гута „Комінтэрн“—48. С. Нікіфаровіч. — Саўгас „Весялова“ імя т. Чарвякова—56. Забела П. У. і Шацкі Т. С. — Парк пры саўгасе „Барысаўшчызна“ Гомельскай акругі—64.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1930 год

**на штомесячную беларускую часопіс літаратуры, політыкі, экономікі, гісторыі, крытыкі —**

# „П О Л Ы М Я“

**ДЗЕВЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**Пад рэдакцыяй:**

**Я. КУПАЛЫ, А. НЕКРАШЭВІЧА, М. ЧАРОТА, І. ШЫПІЛЫ.**

**„ПОЛЫМЯ“** знаёміць з дасягненьнямі беларускай мастацкай літаратуры, з дасягненьнямі літаратуры народаў іншых рэспублік Сав. Саюзу і чужаземнай літаратуры, друкуючы романы, аповесьці, новэлі, апявяданьні, пьесы, поэмы і вершы.

**„ПОЛЫМЯ“** друкуе матар'ялы па політыцы, экономіцы, гісторыі бел. культуры і гісторыі рэвалюцыйнага руху Беларусі. „ПОЛЫМЯ“ зьмяшчае шмат навуковых матарыялаў па філёзофіі, марксызьме і ленінізьме.

**У „ПОЛЫМЯ“** чытач заўсёды знойдзе шмат крытычных матарыялаў аб бел. літаратуры, літаратуры народаў іншых рэспублік Сав. Саюзу і чужаземнай літаратуры.

**„ПОЛЫМЯ“** дае на сваіх старонках багаты кнігапіс-бібліографію, занатоўвае ўсе зьявы бел. культуры, дае хроніку культурн. жыцьця Саюзу С. Рэсп. і замежн. краін.

**У „ПОЛЫМЯ“** прымаюць удзел самыя выдатныя літаратары, крытыкі, публіцыстыя і навуковыя сілы.

Часопіс „ПОЛЫМЯ“ выходзіць штомесячна (12 кніжак на год) разьм. кожны № 10—11 друк. аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на год — **10 руб.**, на 6 мес. — **5 р.**, на 3 мес. — **3 р.**

Цана асобнага нумару — 1 руб.

**Падпісчыкі на часопіс „ПОЛЫМЯ“, якія прышлюць ЦАЛКАМ падпісную плату** **АТРЫМЛІВАЮЦЬ** **на 1930 год па падпісных квітанцыях пры пакупцы мастацкай і політычнай літаратуры выданьняў Бел. Дзярж. Выд. наступныя ільготы:**

**Гадавыя падпісчыкі атрым. скідку на 25%** (на агульн. суму да 30 р.)
**Паўгадав. „ „ „ „ 15%** (на суму да 20 руб.)

**Гадавыя падпісчыкі на „ПОЛЫМЯ“ на 1930 г. атрымліваюць таксама БЯСПЛАТНЫ ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК: адзін комплект „ПОЛЫМЯ“ за 1928 або 1929 год па выбары.**

**Акрамя таго, падпісчыкам на „ПОЛЫМЯ“ на 1930 год, якія не карыстаюцца скідкай, даецца растэрмінаваньне з выплатаю гадавым: пры падпісцы 4 руб., да 1-га ліпня — 3 руб. і да 1-га кастрычніка—3 руб. Паўгадавым падпісчыкам пры падпісцы 3 руб. і да 1 чэрвеня—2 руб.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** У Бюро падпіскі Кніга-Поштай (Менск, Пляц Волі, 5), у цэнтральнай кнігарні БДВ (Менск, рог Ленінскай і Савецкай), ва ўсіх акруговых аддзяленьнях БДВ, у аддзеле падпіскі Беларускага Аддзяленьня ГІЗ'а РСФСР (Менск, Савецкая, 54) і яго агентурай па акругах і раёнах ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і аддзяленьнях, у Беларускім Аддзяленьні Выдавецтва „Известий ЦИК“ і „Правда“ (Менск, Савецкая, 61) і яго пададдзяленьнямі (Гомель, Савецкая 17; Віцебск, Ленінская, 11), а таксама і контр-агентамі (Бабруйск, Магілёў, Жлобін), у канторы газэты „Бел. Вёска“ (Менск, Савецкая, 63) і яе ўпаўнаважан. і селькорамі ва ўсіх раёнах БССР.

Цана 50 кап.